Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ISSN 0024-4686

№ 11 (4555) 19 сакавіка 2010 г.

## У нумары:





# Багушэвічава малітва

Сёлета спаўняецца 170 гадоў з дня нараджэння пачынальніка і першага класіка беларускай нацыянальнай літаратуры Францішка Багушэвіча. З часу выхаду ў Кракаве яго невялічкай кніжкі беларускіх вершаў, надрукаваных лацінкаю, "Dudka bialaruskaja" (1891) прайшло амаль 120 гадоў. Колькі ўсяго мінулася за гэты час у нашай гісторыі — ад прыгнёту да незалежнасці?! Асягаючы той шлях, можам сказаць без сумненняў, што Францішак Багушэвіч — змагар, народны паэт, абаронца, які паклаў за пакрыўджаны і абяздолены народ не толькі свой талент, але і ўсё сваё жыццё. Як далей напісана ў анатацыі да факсімільнага выдання "Дудкі беларускай" (1990), ён "змагаўся за свой народ у многіх іпастасях — як паўстанец, як адвакат, як паэт… Адзін з першых сваім спаконвечным матчыным словам зрываў пячатку маўчання з вуснаў ледзь не анямелага народа". А між тым, як пісаў Янка Брыль: "І славы ў яго не было, а толькі адчуванне абавязку". Сёння, напярэдані юбілею Францішка Багушэвіча, мы друкуем яго неўміручую малітву — "Прадмову" да зборніка "Дудка беларуская", своеасаблівы зварот-заклік да свайго народа. Вось як пісаў у звязку з гэтым Пятро Глебка: "Калі ў маёй памяці ўстаюць словы Багушэвіча: "Не пакідайце роднай мовы, каб не памерці", у мяне па скуры прабягае мароз. Яны гучаць, як труба архангела, што склікае на страшны суд…" Хіба да гэтага выказвання магчыма нешта дадаць? Яшчэ раз перачытаем Багушэвічаву "Прадмову", каб не забыць пра што ў ёй напісана.



Братцы мілыя, дзеці Зямлі-маткі маей! Вам ахвяруючы працу сваю, мушу з вамі пагаварыць трохі аб нашай долі-нядолі, аб нашай бацькавай спрадвечнай мове, каторую мы самі, да і не адны мы, а ўсе людзі цёмныя «мужыцкай» завуць, а завецца яна «беларускай». Я сам, калісь думаў, што мова наша — «мужыцкая» мова і толькі таго. Але, паздароў божа добрых людцоў, як навучылі мяне чытаць, пісаць, з той пары я шмат гдзе быў, шмат чаго відзеў і чытаў: і перакануўся, што мова нашая ёсць такая ж людская і панская, як і французская, альбо нямецкая, альбо і іншая якая. Чытаў я ці мала старых папераў па дзвесце, па трыста гадоў таму пісаных у нашай зямлі і пісаных вялікімі панамі а нашай мовай чысцюсенькай, як бы вот цяпер пісалася. Увідзеўшы гэта, я часта думаў: божа ж мой, божа! Што ж мы за такія бяздольныя?! Якаясь маленькая Булгарыя — са жменя таго народу — якіясьці Харваты, Чэхі, Маларосы і другія пабратымцы нашыя... маюць па-свойму пісаныя і друкаваныя ксёнжачкі і газеты, і набожныя, і смешныя, і слёзныя, і гісторыйкі, і баечкі; і дзеткі іх чытаюць так, як і гавораць, а ў нас як бы захацеў цыдулку ці да бацькі лісток напісаць па-свойму, дык можа б і ў сваёй вёсцы людзі сказалі, што «піша па-мужыцку», і як дурня абсмяялі б! А можа і сапраўды наша мова такая, што ёю нічога добрага сказаць ні напісаць не можна? Ой, не! Наша мова для нас святая, бо яна нам ад бога даная, як і другім добрым людцам, і гаворым жа мы ёю шмат і добрага, але так ужо мы самі пусцілі яе на здзек, не раўнуючы, як і паны вялікія ахотней гаворуць па-французску, як па-свойму. Нас жа не жменька, а з шэсць мільёнаў — больш і шмат больш, не раўнуючы, як жыдоў, напрыклад, або татар ці армян, а пакажы ж, ваша, хоць адну ксёнжачку ці аб гаспадарцы, ці так аб жыцці нашым, каб па-нашаму?

Ці ж ужо нам канечне толькі на чужой мове чытаць і пісаць можна? Яно добра, а навет і трэба знаць суседскую мову, але наперш трэба знаць сваю. Перадумаўшы ўсё гэта, я, братцы, адважыўся напісаць для вас сякія-такія вершыкі: хто іх спадабае, таму дзякуй! А хто падумае лепш і больш напісаць, таму чэсць вечная і ад жывых людзей і ад бацькавых касцей! А пісаць ёсць шмат чаго! Спрадвеку, як наша зямелька з Літвой злучылася, як і з Польшчай з'ядналася дабравольна, дык усе яе «Беларусіяй» звалі, і недарма ж гэта! Не вялікая, не малая, не чырвоная, не чорная яна была, а белая, чыстая: нікога не біла, не падбівала, толькі баранілася.

Шмат было такіх народаў, што страцілі наперш мову сваю, так як той чалавек прад скананнем, катораму мову займе, а потым і зусім замёрлі. Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі! Пазнаюць людзей ці па гаворцы, ці па адзежы, хто якую носе; ото ж гаворка, язык і ёсць адзежа душы.

Ужо больш як пяцьсот гадоў таму, да панавання князя Вітэнеса на Літве, Беларусія разам з Літвой баранілася ад крыжацкай напасці, і шмат местаў, як Полацк, прызнавалі над сабой панаванне князёў літоўскіх, а после Вітэнеса літоўскі князь Гедымін злучый зусім Беларусію з Літвой у адно сільнае каралеўства і адваяваў шмат зямлі ад крыжакаў і ад другіх суседаў. Літва пяцьсот дваццаць гадоў таму назад ужо была ад Балтыцкага мора ўдоўжкі аж да Чорнага, ад Дняпра і Днястракі да Нёмна; ад Каменьца места аж да Вязьмы — у сярэдзіне Вяліякаросії; ад Дынабурга і за Крамянчук, а ў сярэдзіне Літвы, як тое зярно ў гарэху, была наша зямліца — Беларусь!

Можа хто спытае: гдзе ж цяпер Беларусь? Там, братцы, яна, гдзе наша мова жывець: яна ад Вільні да Мазыра, ад Віцебска за малым не да Чарнігава, гдзе Гродна, Мінск, Магілёў, Вільня і шмат мястэчкаў і вёсак...

Дудка беларуская
Мацея Бурачка. Кракаў, 1891.

## Пунктірам

•Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь узнагародзіла нагрудным знакам "Выдатнік друку Беларусі" намесніка начальніка ўпраўлення вытворча-тэхнічнага развіцця міністэрства Вольгу Дарошку.

•У Аргенціне ў горадзе Лавалён 24 сакавіка будзе адчынены Беларускі культурны цэнтр "Кастусь Каліноўскі". Цэнтр паўстане ў будынку культурнага і спартыўнага клуба "Днепр". Гэта будзе першы крок да стварэння беларускіх асяродкаў у гэтай паўднёва-амерыканскай краіне. Ва ўрачыстасцях з нагоды адкрыцця цэнтра возьмуць удзел супрацоўнікі Пасольства Беларусі ў Аргенціне. Тэматыка першых мерапрыемстваў, якія пройдуць у новай установе, — урокі музыкі і традыцыйныя ўрокі спеваў, работы па дрэве, жывапіс, беларуская мова, гісторыя і культура Беларусі.

•З наступнага навучальнага года ў Кіеўскім нацыянальным універсітэце імя Тараса Шаўчэнкі пачынаецца набор студэнтаў на спецыяльнасць "беларуская мова і літаратура". Беларуская стала трыццатай замежнай мовай, якую будуць вывучаць у Кіеўскім нацыянальным універсітэце. Стварэнне спецыяльнасці стала магчымым на базе Інстытута філалогіі Цэнтра беларусістыкі. Дагэтуль беларускую мову вывучалі ў гэтым універсітэце з 1990 па 1993 год у рамках спецкурса.

•Музыка Лявон Вольскі запісаў альбом "Белая яблыня грому". Гэта праект, які складаецца з 12 песень, напісаных на вершы айчынных паэтаў. Адам Міцкевіч, Францішак Багушэвіч, Янка Купала, Якуб Колас, Пімен Панчанка… Песні класічных паэтаў выконваюцца ў розных музычных накірунках: ад блюза і рэпа да хэві-металу. Такім спосабам рок-музыка хоча прыцягнуць увагу да беларускага высокага пісьменства.

•У кастрычніку-лістападзе 2010 года УП "Кінавідэапракат" плануе адчыніць у Мінску яшчэ адну лічбавую залу для паказу трохмернага кіно. Пра гэта паведаміў генеральны дырэктар прадпрыемства Васіль Коктыш. Ён адзначыў, што лічбавая зала з'явіцца ў сталічным кінатэатры "Салют". У далейшых планах "Кінавідэапраката" — будаўніцтва пяцізалавага лічбавага кінатэатра на базе "Авангарда" ў мікрараёне Грушаўка. Нагадаем, што першы 3D-кінатэатр "Кіеў" пачаў працаваць у Мінску 12 студзеня 2010 года.

•Свет пабачыла кніга дзіцячай паэзіі Міры Лукшы, якая жыве на Падляшшы "Жывінкі з глыбінкі". Кніга цікавая тым, што ўвабрала ў сябе 56 вершаў пра прадстаўнікоў жывёльнага свету Беласточчыны. "Водгукі з Беларусі ўжо з'явіліся, — адзначае Міра Лукша. — У рэдакцыю прыходзяць лісты, мэйлы, людзі пытаюцца, дзе можна набыць гэтую кнігу. Мы зрабілі досыць вялікі тыраж, каб кожны вучань на Беласточчыне, які вывучае беларускую мову, змог атрымаць гэтую кнігу". Выданне выйшла ў кніжнай серыі тыднёвіка беларусаў Польшчы "Ніва".

•Да 1 красавіка ў фотаклубе "Мінск" (вул. Казлова, 2) працуе выстава "Фота са старога альбома". Выстава дае магчымасць зазірнуць у другую палову XIX — першую палову XX ст. Глядач знойдзе тут цікавы этнаграфічны матэрыял: як выглядалі нашы продкі сто гадоў назад, як апраналіся, як ставіліся да самога працэсу фатаграфавання. Экспазіцыя дае ўяўленне пра развіццё фатаграфіі ў Беларусі і за яе межамі, пра культуру фатаграфічнага рамяства.

Падрыхтаваў Павел РАДЫНА

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

### Дзеля творчай моладзі

Як паведаміў старшыня Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Анатоль Крэйдзіч, абвешчаны абласны літаратурны конкурс, прысвечаны 600-гадоваму юбілею Грунвальдскай бітвы і 65-годдзю Вялікай Перамогі над нямецка-фашысцкімі захопнікамі "Доблесць продкаў — нашчадкам у спадчыну!".

Яго арганізатарамі выступаюць Брэсцкае абласное аддзяленне СПБ і кафедра беларускага літаратуразнаўства філалагічнага факультэта Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта імя А. Пушкіна сумесна з упраўленнямі ідэалагічнай работы, культуры і адукацыі Брэсцкага аблвыканкама.

У склад журы конкурсу, старшынёй якога з'яўляецца Анатоль Крэйдзіч, увасходзяць вядомыя пісьменнікі, вучоныя-філолагі, літаратурныя крытыкі, выдаўцы і грамадскія дзеячы Брэстчыны. У кожнай з двюх катэгорый — творчыя і літаратурна-даследчыя работы — сярод удзельнікаў (узростам да 30 гадоў) будзе размеркавана па шэсць месцаў: адно — першае, два — другіх і тры — трэціх. А лепшыя творы — проза, паэзія, эсэ, драматургія — будуць апублікаваны.

Мэта конкурсу — выяўленне літаратурных талентаў навучэнцкай моладзі і падтрымка маладых літаратараў Брэстчыны.

Конкурсныя работы трэба даслаць да 1 кастрычніка бягучага года на адрас: 224013, г. Брэст, пр-т Машэрава, 75/1, к. 605, або на электронны адрас: krejdzich@tut.by

Віктар ЗАЯЦ

### На мовах дзяржаў-сясцёр

У Міжнародны дзень пісьменніка гомельскія літаратары на чале са старшынёй Уладзімірам Гаўрыловічам мелі шэраг сустрэч з расійскімі калегамі. А асноўная падзея, якая сабрала беларусаў і расіян разам у горадзе Злынка, што на Браншчыне, — ушанаванне памяці выдатнага рускага паэта Мікалая Мельнікава, аўтара вядомай праніклівай паэмы "Рускі крыж", напісанай з вялікай верай у рускі народ і прасякнутай надзеяй на духоўнае адраджэнне і еднасць славянскай душы.

На памятнай вечарыне ў гонар паэта, якая сабрала ў зале раённага Дома культуры аматараў творчасці, літаратараў з Бранска і Масквы, прысутнічалі маці, сёстры, жонка і сын, якія прыехалі з Масквы, гучалі ўспаміны пра Мельнікава як пра таленавітага акцёра, рэжысёра, празаіка і паэта, адзначалася, што лёс герояў яго твораў і ўласны — вельмі сугучныя. Аўтара ўжо няма сярод жывых, але засталася людская ўдзячнасць за творы, якія вучаць любіць не чужое, заморскае, а сваё. На малой радзіме Мікалая, у вёсцы Лысыя Бранскай вобласці, агульнымі намаганнямі вернікаў адраджаецца храм Успення.

На Гомельшчыне творчасць Мікалая Мельнікава таксама ведаюць, распавёў У. Гаўрыловіч землякам паэта. Больш таго, за значны ўклад у развіццё творчых стасункаў паміж пісьменнікамі Беларусі і Расіі, умацаванне дружбы паміж народамі ў мінулыя гады паэтэса Ніна Шклярава і кіраўнік Гомельскага абласнога аддзялення СПБ сталі лаўрэатамі расійскай прэміі імя М. Мельнікава. Па ініцыятыве пісьменнікаў і Савета аддзялення лепшы твор расійскага паэта "Рускі крыж" паэтэса Ніна Шклярава пераклала на беларускую мову, а Алена Мацвіенка (Кобзева) —на ўкраінскую. У хуткім часе плануецца выдаць у Гомелі аўтарскую кнігу расійскага паэта на трох мовах і правесці яе прэзентацыю. Урывак перакладу на беларускую мову палымянай паэмы быў надрукаваны напрыканцы мінулага года ў штогодні альманаху "Літаратурная Гомельшчына".

Улад ПРЫАЗЁРНЫ

## З нагоды

Часопіс "Вясёлка" мае шмат традыцый. Адной з іх з'яўляецца святкаванне дня нараджэння выдання, якое зазвычай праходзіць увесну. Прымеркаванае да яго і ўручэнне лепшым аўтарам часопіса прэміі імя Васіля Віткі. Лаўрэаты прэміі "Вясёлкі" за 2009 год былі названы 15 сакавіка ў Доме літаратара.



### «Вясёлка» прыносіць вясну

Прэмія імя Васіля Віткі, заснавальніка і першага галоўнага рэдактара гэтага выдання для дзяцей, уручаецца штогод, ёй зазвычай адзначаецца толькі адзін аўтар, мастак, кампазітар. Цырымонія гэтага года была не зусім звычайнай: вырашалі назваць двух лепшых аўтараў 2009 года. За вершы для дзяцей дыплом і залаты медаль з выявай і подпісам Васіля Віткі атрымаў паэт Анатоль Зэкаў. Другім лаўрэатам прэміі ў гэтым годзе стаў кампазітар, народны артыст Беларусі, член рэдкалегіі часопіса "Вясёлка" Эдуард Зарыцкі. Маэстра паведаміў, што каля дзесяці год працаваў загадчыкам музычнай часткі Тэатра юнага гледача, таму можа лічыць сябе кампазітарам, які піша музыку не толькі для дарослых, але і для дзяцей.

На свяце вясны прысутнічалі сталыя аўтары "Вясёлкі" — паэты і пісьменнікі Уладзімір Мацвеенка, Мікола Чарняўскі, Анатоль Бутэвіч, Мікола Маляўка, Міра Каліноўская і Аксана Спрынчан, мастак Уладзімір Жук. Усе яны ўжо з'яўляюцца лаўрэатамі прэміі часопіса "Вясёлка".

Але ўручэннем прэміі імя Васіля Віткі свята не абмежавалася. "Вясёлка" падпісала дамовы аб супрацоўніцтве з Цэнтрам мастацкай творчасці Фрунзенскага раёна горада Мінска (выхаванцы менавіта гэтай установы радавалі гасцей мерапрыемства цудоўнымі музычнымі нумарамі), з дзіцячым садком з эколага-эканамічным ухілам "Ліхтарык" і з гарадской дзіцячай бібліятэкай № 6.

На імпрэзе былі падведзены і вынікі сумеснага з Цэнтрам мастацкай творчасці Фрунзенскага раёна горада Мінска конкурсу дзіцячых малюнкаў і фотаздымкаў "Люблю Беларусь". Маладыя мастакі атрымалі свае першыя ўзнагароды — яркія, незвычайныя дыпломы "Вясёлкі".

Па заканчэнні мерапрыемства дзеці мелі унікальную магчымасць сфатаграфавацца ў вобразе Васі Вясёлкіна, галоўнага героя часопіса.

Марына ВЕСЯЛУХА

На здымку: У. Ліпскі ўручае прэмію імя В. Віткі народнаму артысту Беларусі Эдуарду Зарыцкаму.

Фота Аксаны Спрынчан

## Новы фармат

### Такога яшчэ не было

Убачыў свет мультымедыйны дыск "Гадуем беларусаў". У яго няма аўтара. Ці, дакладней, у яго аўтараў вельмі шмат — ад літаратурнай класікі накшталт Андэрсена да сучасных дзяцей. Нават арганізатараў назваць складана. Усё ж найперш да іх адносіцца Таварыства беларускай школы і шматлікія дзеячы беларускамоўнага дыскурсу (педагогі, літаратары, гісторыкі, музыкі, а самае галоўнае — бацькі).

Як можна меркаваць па назве, выданне служыць высакароднай мэце — выхаванню падрастаючага пакалення беларусаў. Некаторыя раздзелы дыска прызначаны педагогам, якім прапануецца адпаведны метадычны арсенал, астатнія адрасаваны непасрэдна дзецям. Убачыўшы такое выданне, хацелася крыкнуць: "Даўно пара!" Маўляў, век камп'ютэрных тэхналогій і своеасаблівай акселерацыі ў іх асваенні. Тым больш што, як доказана, 80 працэнтаў інфармацыі чалавек спажывае візуальна. І манітор, пачынаючы з дашкольнага ўзросту, становіцца яшчэ адным важным акном у свет (галоўнае, каб не адзіным).

Безумоўна, настаўнікаў і выхавальнікаў зацікавіць "Метадычная скарбонка", у якой прадстаўлены тэарэтычныя і практычныя матэрыялы па педагогіцы. Цешыць, што акцэнтаванне зроблена не на абстрактных закліках вывучаць беларускую мову, а на ўсеагульным развіцці дзіцяці, яго разумовых здольнасцей. На мове трэба размаўляць, а не зацыкліваца на яе экзістэнцыйных праблемах.

Нацыя беларусаў нараджалася знітаванай з мастацкім словам. Настаў часы яго віртуалізацыі. Таму на дыску ўкладзена і невялічкая бібліятэка. Прычым для дзяцей рознага ўзросту. Ёсць і тэматычныя рубрыкі — пра прыроду, Радзіму, дзетак (вершы), пра легенды Белавежскай пушчы. Аднак бачна, што нейкага адмысловага прынцыпу ўкладання не было. Таму некаторыя з рубрык выглядаюць груваскімі, а дзе-якія — зусім кволымі.

Непасрэдна для дзяцей прызначаны яшчэ "Дыяфільмы" і "Слайды". Зразумела, прыцягнуць увагу і песні, і відэа (на жаль, толькі тры фільмы і мульцік пра курку Рабу).

Асаблівую ўдзячнасць хацелася б выказаць за сцэнарый святаў і заняткаў. Яны ўразілі сваёй разнастайнасцю. Святы прадстаўлены не толькі школьныя, але і грамадскія, а таксама народныя. Заняткі ахопліваюць розныя навучальныя прадметы пачатковай школы.

Анатоль ТРАФІМЧЫК

## Анонс

### Свята дняпроўскіх галасоў

У нядзелю, 21 сакавіка, у Музеі Уладзіміра Караткевіча ў Оршы адбудзецца прэзентацыя літаратурнага зборніка "Дняпроўскія галасы-60. Анталогія паэзіі і прозы Аршаншчыны".

Літаратурная Аршаншчына — гэта найперш жыццёвая і творчая спадчына Уладзіміра Караткевіча. Васьмідзесяцігоддзе геніяльнага прадстаўніка беларускага прыгожага пісьменства будзе адзначацца сёлетняй восенню. Кожны знаны пісьменнік, між тым, рабіў першыя спробы пяра зазвычай у перыядычным друку, дзе мацаваўся, сталеў, набываў выразнае гучанне яго творчы голас.

Летась Орша сустрэла яшчэ адзін юбілей — 60-годдзе з дня выхаду першай пасляваеннай літаратурнай старонкі ў "Аршанскай газеце". З 1949 года і дагэтуль раз на месяц выходзіць адмысловая творчая паласа, дзе чалавечае існаванне асэнсоўваецца творцамі — аўтарамі, якія маюць імя, і літаратарамі-пачаткоўцамі. Пазней пры аршанскай газеце існаваў літаратурны гурток, які называўся "Дняпроўскія галасы". Цяпер ён пераважна грунтуецца на базе музея. Але літаратурная старонка па-ранейшаму выходзіць, дае прастору маладым ды сталым творцам.

Зборнік, прэзентацыя якога плануецца на нядзелю, невыпадкова мае такую ж назву, як і літаратурная газетная старонка. Як нам распавяла Вольга Пашковіч, старшы навуковы супрацоўнік Музея Уладзіміра Караткевіча, гэта анталогія паэзіі і прозы Аршаншчыны за 60 год. Сюды ўвайшлі лепшыя літаратурныя творы прадстаўнікоў "краснага пісьма", пачынаючы ад першых аўтараў літаратурнай старонкі "Аршанскай газеты" і да сучаснай моладзі. У зборніку змешчаны творы вядомых пісьменнікаў, да прыкладу, Уладзіміра Корбана. І Уладзімір Караткевіч у 1951 годзе яшчэ студэнтам пачынаў з публікацый у "Аршанскай газеце". У гарадскую газету, калі вучыўся ў Зубрэвіцкай школе, дасылаў свае творы Янка Сіпакоў. Вольга Пашковіч згадвае аршанца Леаніда Калодзежнага, і лёс такіх пісьменнікаў, як Анэля Тулупава, Адольф Варановіч, Мікола Воранаў, таксама звязаны з гэтымі мясцінамі. У зборнік увайшлі творы тых, хто тут нарадзіўся і жыў, і тых, чый творчы шлях нейкім чынам праходзіў праз Аршаншчыну.

Наклад кнігі — 200 асобнікаў, у ёй 448 старонак, тут прадстаўлены 87 аўтараў. Прадмову напісаў былы кіраўнік літаб'яднання Фёдар Кулакоў. Асноўныя тэмы — вечныя: гэта сучаснае жыццё, лёс бацькаўшчыны, моладзевыя праблемы, каханне, прырода, творы пра вайну. Зборнік — шматтэмны, у ім прадстаўлены розныя жанры: лірыка, сатыра, гумар, проза, публіцыстыка, нават песні. Укладальнікі — супрацоўнік музея Вольга Пашковіч і аршанская паэтэса Марыя Дзмітранок.

Ірына ТУЛУПАВА

## Літ-абсягі

# Сціскаюць сэрца ўспаміны

У мінскай бібліятэцы імя Льва Талстога адбылася прэзентацыя кнігі Таццяны Падаляк "Нашчадкі вогненных вёсак", выдадзенай у канцы мінулага года ў РВУ "Літаратура і Мастацтва" па заказе і пры фінансавай падтрымцы Міністэрства інфармацыі Беларусі.

— Кніга прысвечана беларускім спаленым вёскам. Такога страхоцця, якое здарылася з беларускімі вёскамі падчас Другой сусветнай вайны, не было нідзе: вёскі палілі разам з людзьмі, не шкадуючы ні дзяцей, ні жанчын, ні старых... Тыя, каму пашчасціла ўратавацца і дажыць да сённяшніх дзён, расказалі пра тое, як было, — адзначае Таццяна Падаляк.

На прэзентацыі кнігі прысутнічалі навучэнцы ліцэя № 5 г. Мінска — будучыя зваршчыкі, электрыкі... Яны вельмі ўважліва слухалі выступленне вядомага беларускага пісьменніка-франтавіка Алеся Савіцкага. Ён даў надзвычай важны наказ маладому пакаленню:

— Самае каштоўнае, што ёсць у чалавека — гэта памяць. Заўсёды помніце, што кажа вам маці, што кажа вам бацька, што кажа вам сапраўдная гісторыя. Кніга "Нашчадкі вогненных вёсак" — гэта памяць нашай зямлі. Калі вы будзеце ведаць і помніць нашу гісторыю, дык ніхто і ніколі не зможа зламаць і перапісаць яе на свой лад!

Пра трагедыю роднай вёскі Лозкі Калінкавіцкага раёна расказаў ліцэістам адзін з герояў кнігі Віктар Жарэла. Старшы навуковы супрацоўнік Дзяржаўнага мемарыяльнага комплексу "Хатынь" Ірына Напрэева падкрэсліла: калі чытаеш успаміны нашчадкаў вогненных вёсак, сведкаў тых жудасных падзей, — сціскаецца сэрца...

"Яшчэ і назаўтра, і на дзесяты дзень над папялішчам стаяў густы цяжкі пах. Ветрам яго данесла да блізкіх і далёкіх вёсак... Дзесяць дзён і начэй ляжалі пад адкрытым небам спаленых дальвінцы. Ішоў дождж, пякло сонца... Але не было каму хаваць...", — гэта ўспамін Мікалая Гірыловіча (яго ўжо няма з намі) з вёскі Дальва Лагойскага раёна, спаленай літаральна за некалькі дзён да вызвалення...



Гісторыя стварэння кнігі даволі адметная. У пачатку 2006 года рэдакцыя газеты "Звязда" і ДМК "Хатынь" звярнуліся да сведкаў трагедыі спаленых вёсак з просьбай-прапановай адгукнуцца. Зварот атрымаў шырокі рэзананс. Публікуючы на сваіх старонках матэрыялы акцыі "Нашчадкі вогненных вёсак", найстарэйшая беларуская газета яшчэ раз пацвердзіла ўсю жудаснасць тых крывавых падзей. І вось — кніга аднайменнай назвы. Ва ўмовах, калі ўсё больш настойліва праяўляюцца тэндэнцыйныя памкненні перапісаць гісторыю народнай трагедыі і народнай Перамогі яе з'яўленне — своечасовае і неабходнае.

Уладзімір СТАЛОВІЧ

На здымку: удзельнікі прэзентацыі.

Фота аўтара

## Арт-лінія

# Талент жыве па-за ўзростам

Легендарную зорку нашай опернай сцэны, народную артыстку СССР прафесара Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Тамару Ніжнікаву віншавалі нядаўна з 85-годдзем. Некалькі пакаленняў прыхільнікаў, некалькі пакаленняў вучняў, добрае імя ў гісторыі айчыннай музычна-тэатральнай культуры — бясцэннае багацце яе доўгага, дзейснага і напоўненага творчасцю жыцця. Зрэшты, талент — катэгорыя не ўзроставая.



Сапраўды, гады мінаюць — застаецца маладой, прыгожай і шчодрай душа Тамары Ніжнікавай, застаецца невычэрпным артыстычны і настаўніцкі талент, якім шчодра надзяліў яе Бог. Апынуўшыся ў Мінску на пачатку 1950-х, гэтая мініяцюрная і жвавая, надзвычай абаяльная самарская дзяўчына, выпускніца Маскоўскай дзяржаўнай кансерваторыі, дзякуючы рэдкаснаму спеўнаму таленту (і, вядома ж, вялікай працавітасці) неўзабаве зрабілася прымадоннай беларускай опернай сцэны. Ужо ў 1954-м яна атрымала званне заслужанай, а праз год — народнай артысткі БССР. І далёка за межамі Беларусі захапляліся слухачы яе дзівосным, крынічнай чысціні, каларатурным сапрана, віртуознай, філіграннай вакальнай тэхнікай. У 1964 годзе Т. Ніжнікава, на той час ужо народная артыстка Савецкага Саюза, пачала сумяшчаць оперна-канцэртную дзейнасць з педагагічнай. На сцэне тэатра яна выступала да 1976 года. А ў камерных вакальных вечарах, у філарманічных праграмах удзельнічала яшчэ доўга, спалучаючы сольную творчасць з кіраўніцтвам кафедрай спеваў Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, з абавязкамі прафесара. Талент і самаадданая праца Тамары Мікалаеўны адзначаныя ордэнам Францыска Скарыны.

Бліскучая сольная кар'ера гэтай артысткі сталася яркай старонкай у агульнай гісторыі айчыннага музычна-тэатральнага мастацтва. Першыя крокі на беларускай опернай сцэне яна рабіла пад кіраўніцтвам Ларысы Александроўскай — легендарнай спявачкі, якая ў пасляваенны час занялася таксама і пастаноўкай спектакляў. Тамара Ніжнікава ствараля жывыя і шматгранныя вобразы, дамінантай якіх рабіліся то летуценны лірызм, то гарэзлівая жаноцкасць, то кранальная камічнасць, то шчодрая душэўная цеплыня, то яскравая характарнасць, то рамантычная крохкасць. Разіна ў "Севільскім цырульніку", Джыльда ў "Рыгалетта", Віялета ў "Травіяце", Мюзета ў "Багеме", Антаніда ў "Іване Сусаніне", Марфа ў "Царскай нявесце", Шамаханская царыца ў "Залатым пеўніку"... Яна ўвасобіла практычна ўсіх цэнтральных гераінь заходнееўрапейскага і рускага опернага рэпертуару. І, вядома ж, — беларускага: гэта Марфачка ў "Дзяўчыне з Палесся", Баба-Лапатуха ў "Міхасі Падгорным", Ірына ў "Калючай ружы" ды інш. З фантастычным майстэрствам яна спявала і партыі ў класічных аперэтах, і нашу каларытную "Польку-Янку", і папулярнага аляб'еўскага "Салаўя". А багаты канцэртны рэпертуар Т. Ніжнікавай папаўняўся новымі творамі беларускіх кампазітараў: спецыяльна для яе пісалі Л. Абеліёвіч, Р. Пукст, Ю. Семяняка, Я. Цікоцкі.

Тамара Мікалаеўна шчодра дзеліцца з сённяшнімі студэнтамі сваім прафесійным досведам і сакрэтамі вакальнага даўгалецця; ахвотна распавядае маладзейшым сучаснікам пра колішняе творчае жыццё Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі, пра сваіх таленавітых калег... Дарэчы, тэатр прысвяціў яе юбілею нядаўні канцэрт цыкла "Музычныя вечары ў Вялікім", а 31 сакавіка пакажа ў гонар Т.Ніжнікавай оперу "Севільскі цырульнік".

Лана ІВАНОВА

## Повязі

# Пластычнасць... паперы

Нацыянальная бібліятэка Беларусі запрашае ўсіх жадаючых наведаць выстаўку "Чэрпаний папір" аднайменнай эксперыментальнай студыі, якая ўжо шэсць гадоў дзейнічае на базе Цэнтра творчасці дзяцей і юнацтва Галічыны (Львоў, Украіна).

Экспазіцыя акцэнтуе ўвагу на новым кірунку выкарыстання ў сучасным мастацтве паперы як самадастатковага матэрыялу. Унікальнасць старажытнай тэхнікі ў простым працэсе выкарыстання рознакаляровай папяровай масы ў вадкім стане — яна набіраецца спецыяльнай сеткай і выкладваецца на аснову да поўнага высыхання — для мастацкага вобраза.

Як сціпла зазначыў кіраўнік студыі, мастак Віктар Хаджынаў, нічога асабліва новага тут няма, бо кітайцы вынайшлі паперу яшчэ ў 105 годзе. Гэта проста наноў адкрытая тэхніка, якая вельмі распаўсюджана на Захадзе. Цяпер нават прамысловым спосабам вырабляюць і прадаюць у крамах для мастакоў чарпаную паперу. У адрозненне ад той паперы, якую мы прызвычаіліся бачыць штодня ў побыце, — гэта непраклееная і непрэсаваная цэлюлозная папера. Пры стварэнні работ у цэлюлозную масу можна ўкладваць ніткі, лісце і г.д. Увогуле, тэхніка універсальная: можна рабіць прасторавыя рэчы, фантазія тут неабмежаваная. Са слоў Віктара Хаджынава, як ні дзіўна, але ў студыі займаюцца ў асноўным студэнты старшых курсаў Львоўскай нацыянальнай акадэміі мастацтваў — з факультэтаў керамікі, шкла, ткацтва, а жывапісцы і графікі яго ігнаруюць.

Ідэя правядзення выстаўкі належыць куратару гэтай творчай акцыі, загадчыку аддзела галерэйна-выставачнай дзейнасці НББ Фёдару Ястрабу. А нарадзілася яна падчас мінулагодняга пленэру ў Польшчы, дзе сустрэліся беларускі і украінскія мастакі.



Фёдар Адамавіч падкрэсліў, што дадзены праект з'яўляецца яшчэ адным дзейсным крокам насустрач адно аднаму нашых вельмі блізкіх славянскіх культур. У тэхніцы чарпанай паперы ў нашай краіне ніхто, на жаль, не працуе. Але пасля ўдалых майстар-класаў, якія былі праведзены ў Рэспубліканскай гімназіі-каледжы мастацтваў імя І. Ахрэмчыка, можна спадзявацца, што і нашы юныя творцы звернуцца да гэтай незвычайнай і плённай тэхнікі.

Разам з кіраўніком эксперыментальнай студыі ў Мінск прыехалі дзве яго выхаванкі Марына Лазарук і Валянціна Бэра. Марына Лазарук, студэнтка трэцяга курса факультэта мастацкага тэкстылю Львоўскай нацыянальнай акадэміі мастацтваў, нягледзячы на тое, што наведвае студыю ўсяго два месяцы, на прыкладзе сваіх работ пазнаёміла з працэсам іх стварэння ў тэхніцы чарпанай паперы.

Усяго на выстаўцы прадстаўлена сорак работ — акрамя ўжо названых аўтараў з Украіны — Тараса Дзідулы, Яны Андруховай, Хрысціны Мелянчук.

Да слова, з 1986 года ў горадзе Дзюрэн (Германія) пачала сваю дзейнасць IAPMA — першая афіцыйна зарэгістраваная арганізацыя мастакоў, якія працуюць у тэхніцы чарпанай паперы. Гэты мастацкі кірунак набывае значнае развіццё ў Еўропе. Штогод праводзяцца з'езды мастакоў, рэстаўратараў, гісторыкаў, калекцыянераў, кнігавыдаўцоў ды вытворцаў паперы — усіх, каго цікавіць глыбокае вывучэнне пластычных магчымасцей паперы.

Віктар КАВАЛЁЎ

На здымку: Валянціна Бэра і Марына Лазарук падчас адкрыцця выстаўкі.

Фота аўтара

## З-пад пяра

На мінулым тыдні ў Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны ў рамках святкавання 65-годдзя Вялікай Перамогі савецкага народа над нямецка-фашысцкімі захопнікамі адбылася прэзентацыя мастацка-дакументальнага выдання "Іх подзвіг бессмяротны".

Удзел у гэтым мерапрыемстве прынялі Пасол Расіі ў Беларусі Аляксандр Сурыкаў. Аўтар узгаданага альбома, заслужаны работнік культуры Расійскай Федэрацыі Барыс Ізмайлаў прадставіў выданне, прысвечанае помнікам савецкім воінам, якія ўстаноўлены ў розных краінах свету. Як паведамілі ў музеі, прэзентацыі альбома ўжо прайшлі ў Германіі, Францыі, Ізраілі і будуць арганізаваныя ў іншых краінах. Пасля прагучала літаратурна-мастацкая кампазіцыя "Вершы, абпаленыя вайною" ў выкананні народнай артысткі Расіі Валянціны Талызінай.

Бажэна СТРОК

Ужо не першы год Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў дорыць аматарам тэатра, жывапісу і кіно прыемныя імгненні сустрэч з прыгожым. Не так даўно ў акадэміі адбылася прэм'ера дыпломнага спектакля студэнтаў чацвёртага курса спецыяльнасці "Акцёрскае мастацтва драматычнага тэатра і кіно". Пастаноўку здзейсніла і аформіла студэнтка шостага курса спецыяльнасці "Рэжысура драмы" Вольга Бураўлёва. Госці і "гаспадары" акадэміі з цікавасцю назіралі за падзеямі сацыяльна-псіхалагічнай драмы "Парог" паводле п'есы Аляксея Дударава. Студэнцкае тэатральнае мастацтва — адметная з'ява, якая мае шматлікіх прыхільнікаў у маладзёжным асяроддзі сталіцы.

Уладзімір СТАРАСЦЕНКА

Школа "Малады літаратар", што працуе ў Гомельскім Палацы творчасці дзяцей і моладзі "Юнацтва", арганізавала літаратурны слэм. Праходзіў ён у Гомельскай спецыялізаванай Славянскай бібліятэцы. У конкурсе ўдзельнічалі гурткоўцы, якія маюць празаічныя творы. У зале прысутнічала прафесійнае журы, члены Саюза пісьменнікаў Беларусі: Ніна Шклярава, Алег Ананьеў, Аляксандр Атрушкевіч і паэт Уладзімір Тумiловіч. Але ў якасці галоўнага журы былі гледачы. Кожны мог аддаць свой голас за аднаго з удзельнікаў конкурсу. Першай прачытала свой твор Іна Спасібіна — апавяданне "Пожар" на рускай мове. Уразіла таксама проза Яўгена Малевіча, Валянціна Вараб'ёва, Аляксея Казачэнкі. Вечар завяршыў самы малады сярод удзельнікаў — чатырнаццацігадовы Уладзіслаў Крукоўскі. Пасля кожнага выступлення журы давала парады, рабіла заўвагі. Большасць слухачоў аддалі свой голас за Іну Спасібіну, якая і стала пераможцам. Яна атрымала грашовую прэмію.

Ала ДАРАШЭНКА

У Радашковіцкай бібліятэцы адбылася прэзентацыя кнігі Леаніда Левановіча "Палыновы вецер". Загадчыца бібліятэкі Ала Краўцова расказала пра творчасць госця, зрабіла аналіз новага рамана, які працягвае цыкл твораў пісьменніка, пачаты раманам "Шчыглы", — пра пасляваеннае адраджэнне Беларусі. У новай кнізе ўзнаўляюцца драматычныя падзеі 1991 г. — распад СССР, белавежскія пагадненні, жыццё ў радыяцыйнай зоне.

— Я працую ў санаторыі "Сасновы Бор". Леанід Кірэевіч — часты наш госць, — сказала бібліятэкар Ларыса Пішчальнікава. — Адпачываючы, у тым ліку і масквічы, ахвотна набываюць яго кнігі з аўтографам. У новай кнізе аўтара мяне, як перасяленку з Брагінскага раёна, уразіла праўдзівае апісанне жыцця ў радыяцыйнай зоне.

Чытачы адзначалі, што з твораў Л.Левановіча можна навучыцца, як і калі сеяць грэчку, як сячы дровы, як скласці сена ў стажок, як пасадзіць пчаліны рой.

Аляксей КАРЧЭЎСКІ

# Ажывіць засмучаную душу

**У Гродне адкрылася выстаўка работ вядомых майстроў мастацкай апрацоўкі скуры Таццяны і Ігара Пярвухіных. Скураная пластыка, якая дазваляе ствараць аб'ёмную выяву розных прадметаў, даўно ацэнена народнымі ўмельцамі.**



Таццяна — лаўрэат прэміі імя Аляксандра Дубко Гродзенскага аблвыканкама, стыпендыі Беларускага саюза майстроў народнай творчасці, на конкурсе ў Маскве ўганаравана званнем "Майстар залатыя рукі".

Творчая майстэрня Пярвухіных існуе 20 гадоў. Да гэтага з мужам Ігарам працавалі мастакамі-афармiцелямі на розных прадпрыемствах горада. Таццяна скончыла Маскоўскі універсітэт мастацтваў. А яшчэ яна малявала, пісала алеем. Захапленне скурай прыйшло дастаткова нечакана. Майстрам прапанавалі зрабіць адбітак на скуры, бо муж дастаткова добра валодаў тэхнікай апрацоўкі металу, рабіў чаканку, ліццё, траўленне. Эксперымент са скурай стаўся ўдалым. З таго часу, а адбылося гэта на самым пачатку дзевяностых гадоў гарадзенскія майстры пачалі займацца апрацоўкай скуры.

У тую пару мала ў каго былі камп'ютэры, распаўсюджаным сярод умельцаў досыць працаёмкім, але павучальным метадам індывідуальных спроб і памылак Таццяна і Ігар прыйшлі да высновы, што можна атрымаць адбітак, зрабіўшы металічны штамп уласнымі рукамі. Цяпер Таццяна Аляксееўна перакanana: скура вабіць іх невычэрпнымі магчымасцямі, яна захоўвае ў сабе шмат таямніцаў і незвычайных адкрыццяў. Таму і знаходзяцца майстры ў пастаянным пошуку новых рашэнняў.

Нарадзілася Таццяна ў Рызе, але праз паўгода разам з бацькамі пераехала ў Гродна. "Рыга для мяне — толькі "біялагічная" радзіма, — распавядае Таццяна Пярвухіна. — А сапраўдная радзіма — горад Гродна, Беларусь. Таму ў творчасці пераважаюць беларускія матывы. Гродзеншчына — край велічных замкаў, помнікі, што захаваліся праз вякі, цяпер рэстаўруюцца, да таго ж архітэктура — гэта тое,



што развіваецца. Вось гэта ўсё мы імкнёмся ўвасобіць у сваіх працах. Гэта блізкае і дарагое сэрцу. Яно, засмучанае, ажывае, калі бачыш паўтораны ў сваім вырабе мастацкі шэдэўр, пакінуты нам у спадчыну таленавітымі продкамі".

Сапраўды, рэчы, выраблены майстрамі, проста альбомам, альбо карцінай, альбо нататнікам не назавеш. Кожная рэч — твор мастацтва. Акрамя таго, што дарагі і прэстыжны (скура не танная), у ім — цеплыня рук майстроў і іх асаблівае бачанне наваколля, прыроды, архітэктуры, гісторыі краю.

Таццяна Аляксееўна распавядае: неяк з Брэста папрасілі іх зрабіць калаж, на якім можна было б паказаць асноўныя гістарычныя помнікі крэпасці-героя (на той час працы па Гродзенскіх святынях былі выкананыя). "Але там, дзе не жывеш, не бываеш часта і не адчуваеш значнасці гэтых помнікаў, — сабраць іх у калаж значна складаней, чым у родным і блізкім Гродна", — даводзіць майстар.

Рэчы, створаныя сям'ёй Пярвухіных, цяпер упрыгожваюць не толькі іх уласную майстэрню альбо памяшканні, дзе ладкуюцца выстаўкі. Арыгінальны герб са скуры Пярвухіны рабілі для Гродзенскага аблвыканкама, пано для Уладыкі Філарэта, і нават адмысловае вядро для вады стварылі са скуры. Як адзін з сімвалаў працы пажарных яно знаходзіцца ў музеі на старажытнай Пажарнай вежы ў Гродне.

У Гродзенскім аблвыканкаме цяпер знаходзіцца карціна, створаная майстрамі Пярвухінымі, дзе адлюстраваны самыя значныя помнікі архітэктуры рэгіёна. У першую чаргу — Каложская царква, помнік беларускага дойлідства XII стагоддзя, адзіны ў свеце, гонар усяго беларускага народа. Таксама — велічны і непаўторны Мірскі замак. "Нам пашча-



сціла, што ў Гродзенскай вобласці захаваліся старажытныя святыні сусветнага ўзроўню", — не хавае гонар за свой край Таццяна Аляксееўна. І для Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі Філарэта майстры вырабілі карціну, на якой ва ўсёй сваёй велічы паўстае Каложская царква. Адкуль, пытаюся, такі дакладны гістарычны пасыл? На карціне досыць падрабязна вымаляваны ўсе канструкцыі старажытнага будынка. Аказваецца, у Таццяны Пярвухінай захаваліся даўнія фотаздымкі царквы, таму выява атрымалася досыць дакументальнай і цэласнай. Гэта почырк сапраўдных майстроў: быць максімальна дакладнымі і праўдзівымі ў творчасці, асабліва, калі яна датычыць гістарычных падзей. І паўсядзённай працай народныя ўмельцы дадаюць у летапіс гісторыі краю свае ўласныя знаходкі.

Пярвухіны — пастаянныя ўдзельнікі кірмашоў мастацтваў, штогадовага фестывалю "Славянскі базар у Віцебску". Але працамі майстроў захапляліся не толькі ў розных гарадах Беларусі, Расіі, іх мела магчымасць ацаніць і Еўропа. "У Францыі не прымаюць фарбаваную скуру, ненатуральных колераў у арганічным матэрыяле, — робіць высновы Таццяна Аляксееўна пасля выстаўкі ў Францыі. — Найбольш нашых суседзяў вабіла скура ў форме кветак, лісця. Высока былі ацэнены працы, створаныя самаруч, без дапамогі машын".

На выстаўцы 2010 года ў сваім родным горадзе Гродна майстры Пярвухіны паказваюць новыя працы — вырабы са скуры ў спалучэнні з іншымі матэрыяламі. Скура і жывапіс, скура і фотаздымкі — цяжкаспалучальныя формы матэрыі цяпер знітаваныя адной аўтарскай задумай і ўвасобленыя ў рэальных прадметах. Майстры асвойваюць новыя аб'ёмы, калі праца выконваецца з выкарыстаннем лічбавых тэхналогій (апрацоўка фотаздымкаў). Пры сумяшчэнні розных відаў, колераў і фактуры скуры дасягаецца выключны, ні з чым непараўнальны эфект. Менавіта гэтая непаўторнасць і вабіць да сябе гледача.

Ірына ТУЛУПАВА

На здымках: карціны Таццяны Пярвухінай — "Мірскі Замак"; "Каложская царква"; альбом з выявай Чырвонага касцёла ў Мінску.

Фота з архіва Пярвухіных

## У працяг тэмы

# Застаецца толькі — узаконіць...

**Пра тое, што цяпер складаецца надзвычай рухомы "Зводны план устаноўкі манументальных збудаванняў у Рэспубліцы Беларусь", разлічаны да 2012 года, у "ЛіМе" паведамлялася неаднойчы. Рухомы — таму што нават пры яго складанні некаторыя помнікі пачалі ўжо ўстанаўлівацца. І многія з тых прапаноў, што сталі асобнымі пунктамі плана, рэалізаваныя. Але чалавек заўсёды неабыякавы да дадзенай зямлі, на якой жыве, і да памяці, якую будуць берагчы пасля яго нашчадкі. Таму з'яўляюцца новыя ідэі, вяртаюцца з небыцця забытыя імёны. Гісторыкі, публіцысты, краязнаўцы прапануюць ушаноўваць дагэтуль нічым не абазначаныя ў населеных пунктах гістарычныя падзеі і асоб, якія пакінулі ў іх свой значны след.**

Высвечваюцца новыя грані, і часта да такога плана хочацца дадаць нешта, што, магчыма, падуладна дзеянню іншых прынятых у Беларусі законаў (прыкладам, "Аб захаванні гісторыка-культурнай спадчыны"), але вельмі блізкае па сваім грамадзянскім гучанні.

Сёння руіны палацаў і сядзіб разглядаюцца як найвялікшая каштоўнасць у справе выхавання нацыянальнай годнасці. А іх аднаўленне толькі паспрыяе адраджэнню гістарычнай памяці.

Але калі значныя помнікі архітэктуры ўключаны ў спіс тых, якія ахоўваюцца дзяржавай, то больш дробныя па-ранейшаму не маюць гаспадара, рабуюцца ці застаюцца закінутымі. Асабліва балюча казаць пра былыя паркавыя комплексы. Дрэвы, якім не адно стагоддзе, сёння можа спілаваць любы жадаючы. Як высветлілася, у гэтым пытанні якая-кольвечы заканадаўчая база ўвогуле адсутнічае. Раённыя ўлады (якім больш за ўсё дастаецца кпінаў) не маюць падстаў унесці мясцовыя помнікі ў лік тых, якія ахоўваюцца. Самога паняцця "помнік дойлідства ці ландшафтна-паркавага ... мясцовага значэння" сёння не існуе. Паказальны ў гэтым плане вопыт па наданні такога статуса ўрочышчу "Ліпкі" на месцы былой сядзібы Магдалены Радзівіл у вёсцы Жорнаўка на Асіповічыне. Раённы савет дэпутатаў прыняў рашэнне аб мемарыялізацыі месца былой сядзібы. Ліпавую пасадку, узрост якой каля двух стагоддзяў, можна было б увесці ў лік помнікаў мясцовага значэння, але, як высветлілася, у краіне існуе толькі рэспубліканскі спіс падобных помнікаў. Патрапіць у яго няпроста... Вырашылі прыбраць, правесці санітарную сцілоўку дрэў у парку — сутыкнуліся з іншай праблемай: у сельсавета грошай няма, лясніцтва таксама не мае ні бензіну, ні рабочай сілы, каб гэтым займацца. Пра нейкія ўжо большыя захады і казаць не даводзіцца. Вось і гасне краязнаўчая ініцыятыва. А ліпы тыя хоць зараз прыходзь і пілуй. А колькі такіх паркаў у краіне!

Вядома ж, на Асіповічыне давядуць да ладу як Жорнаўскую сядзібу, так і іншыя помнікі. Але пытанне пра змены ў заканадаўстве застаецца. Чаму каб узяць пад ахову стары парк, трэба ехаць у Мінск, траціць сродкі і час, калі ўсё можна было б зрабіць адпаведным рашэннем райвыканкама? Для гэтага толькі і трэба, што дапоўніць існуючы Закон "Аб захаванні гісторыка-культурнай спадчыны" артыкулам пра помнікі мясцовага значэння.

Віктар ХУРСІК
г. Мінск

## Кніжная паліца



У РВУ "Літаратура і Мастацтва" выдадзены асобнай кнігай раман Сяргея ТРАХІМЁНКА "Записки "чёрного полковника"". Аўтар распавядае, хто такія "чорныя палкоўнікі", чым яны займаліся ў пасляваенная Еўропе і які ўплыў аказвалі на супрацоўнікаў разведкі і контрразведкі нашага часу. У цэнтры твора лёс двух пакаленняў афіцэраў спецслужб, выпускнікоў Вышэйшых курсаў КДБ СССР у горадзе Мінску.



У выдавецтве "Мастацкая літаратура" ў серыі "Залатое пяро" пабачыла свет кніга прозы Віктара ПРАЎДЗІНА "Нелюбімыя гінуць". Адначменны раман у значнай меры сентыментальны, у цэнтры ўвагі — лёсы трох жанчын, двух беларусак і чачэнкі. У рамане чаргуюцца нямецкія, чачэнскія і беларускія карціны-раздзелы, сюжэт востры і напружаны. У кнігу таксама ўключаны дэтэктыўна-прыгодніцкая аповесць "Экскурсанты" і апавяданне "Па-чалавечы". У афармленні кнігі выкарыстана карціна М. Савіцкага "Партызанская Мадонна". Прадмова Віктара Гардзея.



Выдавецтва "Тэхналогія" выпусціла рэгіянальны "Атлас гаворак паўночна-ўсходняй Брэстчыны" Ю. В. ЧАРНЯКЕВІЧА. Выданне складаецца з 365 лінгвістычных карт, у тым ліку 90 фанетычных, 74 марфалагічных, 180 лексічных і 20 ізаглосных. Карты прысвечаны найбольш важным з'явам моўнай сістэмы гаворак жыхароў паўночна-ўсходняй Берасцейшчыны. Навуковы рэдактар кандыдат філалагічных навук П. А. Міхайлаў.



У выдавецтве "Кнігазбор" выйшаў раман-успамін Міхася АМЯЛІШКІ "Заблудныя". Гэта шэраг эсэ, якія аўтар напісаў на падставе аповедаў сваіх бацькоў і сваякоў. Іх можна назваць і паданнямі сям'і Амялішкаў. У цэнтры расповеду — вёскі Бортнікі, Вольна, мястэчкі Сноў і Нясвіж.



У "Кнігазборы" пабачыла свет кніга прозы (аповесці, апавяданні і навелы) Ладыся БАРАБАНАВА (чарговы псеўданім Уладзіміра Цішурова) "Пад зоркай Су..." Аўтар прагне распрацоўваць тэму сучаснага жыцця як яно ёсць — найчасцей складанага, бязрадаснага. Нездарма пісьменнік задаецца пытаннем: "Ці можна з дапамогай мастацкага слова палепшыць гэты свет?"



У "Кнігазборы" выйшла анталогія беларуска-літоўскага гістарычнага і літаратурнага ўзаемадзеяння "Тысяча гадоў добраму суседству". Складальнік Сяргей ПАНІЗНІК. Зборнік выдадзены з нагоды 1000-годдзя ўпамінання Літвы ў пісьмовых крыніцах. Ёсць у анталогіі і гістарычныя дакументы, і мастацкія творы беларускіх пісьменнікаў і паэтаў, і пераклады твораў літоўскіх пісьменнікаў на беларускую мову, і літаратуразнаўчыя і крытычныя артыкулы.

# Інструкцыя аб Рэспубліканскім конкурсе на лепшы твор года ў галіне паэзіі, прозы, драматургіі, літаратурнай крытыкі, дзіцячай літаратуры

Кожны год падводзяцца вынікі Рэспубліканскага конкурсу на лепшы твор года ў галіне паэзіі, прозы, драматургіі, літаратурнай крытыкі, дзіцячай літаратуры. На конкурс прымаюцца літаратурныя творы, выдадзеныя ў Беларусі і за мяжой, а таксама апублікаваныя ў рэспубліканскіх літаратурна-мастацкіх перыядычных выданнях у 2009 годзе. Адпаведныя ўзнагароды пераможцам конкурсу ўручаюцца падчас святочных мерапрыемстваў Дня беларускага пісьменства. Сёлета свята пройдзе ў горадзе Хойнікі Гомельскай вобласці.

Саюз пісьменнікаў Беларусі і рэдакцыя штотыднёвіка "ЛіМ" палічылі неабходным надрукаваць дзеючую інструкцыю пра ўмовы правядзення конкурсу, зацверджаную Пастановай Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь ад 20. 04. 2007 № 7.

1. Інструкцыя аб рэспубліканскім конкурсе на лепшы твор года ў галіне паэзіі, прозы, драматургіі, літаратурнай крытыкі, дзіцячай літаратуры (далей — Інструкцыя), распрацавана ў адпаведнасці з Палажэннем аб Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь, зацверджаным пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 26 кастрычніка 2001 г. № 1545 (Нацыянальны рэестр прававых актаў Рэспублікі Беларусь, 2001 г., № 103, 5/9271) у мэтах развіцця айчыннай літаратуры, прапаганды лепшых твораў беларускіх аўтараў.

2. Дадзеная Інструкцыя рэгулюе стасункі ў працэсе арганізацыі і правядзення рэспубліканскага конкурсу на лепшы твор года ў галіне паэзіі, прозы, драматургіі, літаратурнай крытыкі, дзіцячай літаратуры (далей — конкурс).

3. Заснавальнікамі конкурсу з'яўляюцца: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, Мінскі гарадскі выканаўчы камітэт, Грамадскае аб'яднанне "Саюз пісьменнікаў Беларусі".

4. Конкурс з'яўляецца адкрытым.

5. Асноўнымі мэтамі конкурсу з'яўляюцца ўсебаковае садзейнічанне развіццю беларускай літаратуры, прапаганда яе лепшых узораў, павышэнне прэстыжу творчай працы ў галіне літаратуры.

6. Для арганізацыі і правядзення конкурсу з ліку прадстаўнікоў арганізацый-заснавальнікаў фарміруецца арганізацыйны камітэт (далей — аргкамітэт), які дзейнічае на падставе дадзенага Палажэння.

7. Персанальны склад аргкамітэта зацвярджаецца рашэннем Праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі па ўзгадненні з арганізацыямі-заснавальнікамі конкурсу.

8. Аргкамітэт:

фарміруе журы конкурсу (далей — журы);

фарміруе рабочы орган для арганізацыі і правядзення конкурсу на базе ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі";

вызначае парадак арганізацыі, правядзення конкурсу, формы заявы для ўдзелу ў ім;

разглядае пытанні, якія паўстаюць падчас падрыхтоўкі конкурсу;

складае каштарыс выдаткаў конкурсу і прадстаўляе яго на зацвярджэнне заснавальнікам конкурсу.

9. Фінансаванне конкурсу ажыццяўляецца за кошт уласных сродкаў заснавальнікаў і спонсараў конкурсу.

10. Умовы прыцягнення фінансавых сродкаў спонсараў аргкамітэт узгадняе з заснавальнікамі конкурсу.

11. У конкурсе могуць браць удзел літаратурныя творы ў галіне паэзіі, прозы, драматургіі, літаратурнай крытыкі, дзіцячай літаратуры, выдадзеныя ў Рэспубліцы Беларусь і за мяжой, а таксама апублікаваныя ў рэспубліканскіх літаратурна-мастацкіх перыядычных друкаваных выданнях у мінулым годзе. У склад аўтарскага калектыву можа ўваходзіць не больш як чатыры чалавекі.

12. Для ўдзелу ў конкурсе не могуць быць прадстаўленыя творы, якія адначасова вылучаныя на атрыманне дзяржаўнай і іншых прэмій Рэспублікі Беларусь, міжнародных прэмій або прэмій іншых дзяржаў.

Прэмія паўторна не прысуджаецца.

13. Дакументы і матэрыялы для ўдзелу ў конкурсе накіроўваюцца ў ГА Саюз пісьменнікаў Беларусі" да 15 студзеня бягучага года, вынікі падводзяцца 1 сакавіка бягучага года.

14. Конкурс праводзіцца па наступных намінацыях з прысуджэннем пераможцам адпаведных узнагарод:

14.1. "Лепшы твор у галіне паэзіі":

1-е месца — прэмія ў памеры 15 базавых велічынь, памятны знак-сімвал конкурсу, дыплом;

2-е месца — прэмія ў памеры 10 базавых велічынь, дыплом;

3-е месца — прэмія ў памеры 5 базавых велічынь, дыплом.

14.2. "Лепшы твор у галіне прозы":

1-е месца — прэмія ў памеры 15 базавых велічынь, памятны знак-сімвал конкурсу, дыплом;

2-е месца — прэмія ў памеры 10 базавых велічынь, дыплом;

3-е месца — прэмія ў памеры 5 базавых велічынь, дыплом.

14.3. "Лепшы твор у галіне дзіцячай літаратуры":

1-е месца — прэмія ў памеры 15 базавых велічынь, памятны знак-сімвал конкурсу, дыплом;

2-е месца — прэмія ў памеры 10 базавых велічынь, дыплом;

3-е месца — прэмія ў памеры 5 базавых велічынь, дыплом.

14.4. "Лепшы твор у галіне драматургіі":

прэмія ў памеры 15 базавых велічынь, памятны знак-сімвал конкурсу, дыплом.

14.5. "Лепшы твор у галіне літаратурнай крытыкі":

прэмія ў памеры 15 базавых велічынь, памятны знак-сімвал конкурсу, дыплом.

15. У кожнай з намінацый журы па таксама можа прысуджаць заахвочвальны дыплом.

16. У выпадку, калі пераможцам конкурсу з'яўляецца аўтарскі калектыў, яму ўручаецца памятны знак-сімвал конкурсу, дыплом выдаецца кожнаму з удзельнікаў калектыву, а грашовая ўзнагарода размяркоўваецца паміж удзельнікамі пароўну.



# У чаканні пераможцаў

Першы сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі Генадзь Пашкоў вылучыў некаторых аўтараў і іх выданні, якія спаборнічаюць у сёлетнім, чацвёртым па ліку, конкурсе на лепшы твор:

— Так, у намінацыі "Паэзія" — кнігі "Афганское эхо" Рыгора Сакалоўскага, "Ветра евразийские" Таццяны Ляйко, "Ля цяпельца зары" Алеся Жыгунова, "Дзе хвалі срэбна-залатыя…" Яўгена Хвалея, "Озёрная святыня" Марыі Шаўчонак, "Пра Нарбутаў моўлю я слова…" Уладзіміра Руля, "Сонца маё — Беларусь" Генадзя Казака, "Единые нити" Надзеі Стаховіч, "Короткий февраль" Сяргея Барысаўца.

Прозу прадстаўляюць кнігі, выдадзеныя ў серыях: "Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі", — "Мутныя росы" Уладзіміра Федасеенкі, "Малиновый набат" Аляксандра Суслава, "Снукер" Васіля Ткачова; "Бібліятэка сучаснай беларускай фантастычнай і прыгодніцкай прозы" — "Клуб города N" Уладзіміра Кулічэнкі, а таксама "Горад у нябёсах" Анатоля Казлова, "Варяжский круг" Сяргея Зайцава, "Берёза чёрная, берёза белая…" Аляксандра Валковіча, "Старый двор моего детства" Ірыны Шатыронак…

У намінацыі пад агульнай назвай "Публіцыстыка, краязнаўства" — эсэ, нарысы, дзённікі — "Его хлебов держава" Васіля Шырко пра лепшы СВК краіны "Кастрычнік-Гродна", "Сто асоб беларускай гісторыі" і "Сто асоб беларускага спорту" Анатоля Мяснікова, "Путь полной луны: Японский дневник" Зіновія Прыгодзіча, "Правда и ложь на весах истории. Великая Отечественная война Советского Союза в контексте Второй мировой войны" Уладзіміра Ягорычава, "Свята для сэрца" Анатоля Бензерука…

Літаратура для самых маленькіх чытачоў акрэслена выданнямі "Сонечны кошык" Міколы Чарняўскага, "Где же солнышко ночует?" Тамары Красновай-Гусачэнкі, "Вася Лайдачкін у краіне Шкодных Звычак" Генадзя Аўласенкі.

Пераклады прадстаўляюць паэты Надзея Салодкая і Андрэй Цяўлоўскі, а сатыру і гумар — "Віртуальнае каханне" Міхася Слівы і іншыя.

Зразумела, пералічаны спіс прэтэндэнтаў на лепшы твор года не зусім поўны. Але і названыя пісьменнікі і іх кнігі ўжо цяпер даюць уяўленне, што сёлетняе літаратурнае спаборніцтва мае быць не з простых. Нам з вамі застаецца толькі чакаць Дня беларускага пісьменства, калі будуць названы пераможцы.

Запісаў Віктар КАВАЛЁЎ
Фота аўтара

## З пошты «ЛіМа»

# Цвярозы шлях

Трымаю ў руках толькі што выдадзеную ў РВУ "Літаратура і Мастацтва" кнігу Н. Саветнай "За краем света".

Гэта сапраўды выбітны твор сучаснай літаратуры. Кніга напісана ў форме дзённіка практычнага псіхолага. Аўтар — кандыдат псіхалагічных навук — на працягу 25 гадоў сваёй дзейнасці па крупінках збірае практычны матэрыял, сустракаючыся з людзьмі ўсіх узростаў, якім аказвае канкрэтную псіхалагічную дапамогу.

Амаль кожны дзённікавы запіс можна разглядаць як асобны літаратурны твор, што нясе эмацыянальную, сэнсавую і псіхалагічную нагрузку. На аснове аналізу фактаў аўтар выходзіць да мастацкіх абагульненняў.

У кнізе знойдзены адказы на хвалюючыя нас пытанні — як пражыць жыццё з поўнай выкладкай, зрабіць у ім шмат годных учынкаў.

Прачытала кнігу залпам, зразумела, што праўды, звязанай з паталагічнай залежнасцю, мы не ведаем.

Багаты практычны вопыт Саветнай дапамог адкрыць заслону над гэтым пытаннем.

Яркія ўражанні пакідаюць прызнанні тых пацыентаў, што вырataваліся ад залежнасці, калі так можна сказаць, атрымалі другое жыццё. А пазней дапамаглі стаць на цвярозы шлях сваім блізкім і дарагім людзям.

У апошні час мы часта чуем пра духоўнасць, чытаем і знаходзім цікавыя матэрыялы на старонках перыядычных выданняў на гэтую тэму. Раней пра тое, як і чым трэба лячыць фізічны стан чалавека амаль не ведалі, мала працавалі над яго духоўным станаўленнем. Толькі ранімая душа ўмее суперажываць, дапамагаць, а галоўнае — любіць!

У Наталлі Саветнай гэта атрымліваецца, таму што яна сапраўды псіхолаг, чалавек з вялікай душою.

Напрацаваны практычны матэрыял, які лёг у аснову дзённіка і аповесці, не прыдуманы, ён узяты з сучаснага жыцця. На сённяшні дзень гэта, бадай, самая неабходная практычная кніга, якую будуць чытаць, матэрыяламі якой будуць карыстацца тыя, хто працуе з падобным кантынгентам людзей, нясе ў масы праўду пра здаровы лад жыцця, дапамагае выбраць свой шлях у ім.

Галіна САКАЛОВА,
выдатнік народнай асветы Рэспублікі Беларусь

# Кніга змушае выказацца

Я дазволю сабе паразважаць аб прачытаным. Сказаць усё немагчыма, але выказаць некаторыя думкі пра кнігу Міколы Маляўкі "Дзічка ў полі" лічу патрэбным. Гэтая кніга пра кожнага з нас канкрэтна, і кожны з чытачоў знойдзе ў ёй самыя галоўныя пытанні для сябе.

Творы не ўзнікаюць з пустога, для іх патрэбна неабходнасць спазнаць сябе, патрэбен гістарычны час, сацыяльнае асяроддзе, неабходнасць прадоўжыць сябе ў нашчадках. Пытанне веры — самае галоўнае ў пошуках сэнсу жыцця. Толькі вера вызначае, які ты. Сапраўдная паэзія — вышэйшая праява веры і вышэйшая праява меназіта боскага ў прыродзе чалавека. Разгледзець боскае ў чалавеку і данесці гэта да іншых — задача літаратуры. Паэт спраўляецца з гэтым вельмі таленавіта, бо верыць і ў боскае, і ў велічнае ў чалавеку. Напраўду ж, трэба мець смеласць, каб напісаць, што Ігар Лучанок "ідзе па зорках басанож".

Песняй засталася сярод нас і балючая рана беларускай паэзіі — Яўгенія Янішчыц. Як піша М. Маляўка: "крыніцай у траве, жаваранкам у зеніце". З вышыні птушынага палёту будзе сыпацца перазвон бессмяротнай песні столькі часу, колькі будзе існаваць Беларусь.

Пра каго б з вядомых ні пісаў паэт, да праўды ён дадае крышачку міфа. Праўда ў супольнасці з міфам — гэта велічнасць. А душа наша смуткуе па велічнасці. Я дзякую Мікалаю Аляксандравічу за такія адкрыцці і творчасць. Усё на зямлі ўзаемазвязана, ні адзін чалавек не можа быць аддзелены ад глабальнага руху, меназіта на асобным чалавечым лёсе праяўляюцца рысы эпохі. Вялікі талент Міколы Маляўкі ў тым, што ён у асобных прадметах, не звязаных ніяк між сабою, здольны разгледзець тэндэнцыі часу. Радкі з балады паэта пра касу, сякеру і кельму яскрава сведчаць пра духоўную сілу народа, пра яго характар і сутнасць. Асобныя эпізоды жыцця канкрэтных людзей адлюстроўваюць стан беларускага асяроддзя, нацыянальнага характару, а то і ўсёй эпохі.

Мастак нараджаецца ў народзе, і толькі народ фарміруе і вызначае яго нацыянальную самасвядомасць, каб праз сваё "я" ён мог выказаць сутнасць чалавечага існавання. М. Маляўка непарыўна звязаны са сваімі землякамі. Цэласнасць, духоўнасць прыроды беларусаў Мікола Маляўка бачыць ва ўнутранай сіле кожнага з іх. Чытаеш "Дзічку ў полі" і — перад табой паўстаюць вядомыя і невядомыя, сур'ёзныя і смешныя, герaічныя і звычайныя суайчыннікі паэта. Гэта рэдкае і поўнае зліццё душы аўтара з жыццём свайго народа.

Час не спыняецца, і чалавек шукае верную дарогу. Памяць людзей, памяць пакаленняў і памяць цэлых эпох — каштоўнасць гістарычная і пастаянная, яна спараджае рух наперад. Хто мы, адкуль мы, куды ідзем? На гэтыя і шмат іншых пытанняў адказваюць балады, напісаныя паэтам пра звычайных, але годных у сваіх учынках людзей. Чытаеш і разумееш, што тлумны час адыходзіць у нябыт, а застаецца толькі зорны шлях.

Аб чым бы ні пісаў Мікола Маляўка, у кожным яго радку, у кожным слове нязменнай застаецца ўнутраная сіла, нацыянальная самасвядомасць і высокая духоўнасць.

Валянціна ГЕРАСІМАВА,
пасёлак Жылічы Кіраўскага раёна




Новы зборнік вершаў Надзеі Стаховіч, аршанскай паэтэсы, назвала "Единые нити", быццам папярэджваючы, што яго раздзелы "Земные нити", "На горных вершинах", "Мелодии тонкой струны" змацаваны асобай самой аўтаркі. Уражанне такое, нібыта з чыстай крынічкі б'е фантанчык паэзіі, дзе ўдумлівы чытач знойдзе для сябе сугучныя душы тэмы і настроі. Пра што б ні складваліся вершы (маленства, "малая" Радзіма, часам невытлумачальныя "свавольніцтвы" і "дзівацтвы" кахання, замежжа, блізкія і родныя людзі, непаўторная прыгажосць Аршаншчыны, курортныя ўражанні і г.д.), у іх адчувальны яркі асабісты пачатак.

# Дыялог пачуцця і розуму

"Я" ў агромністым, неабдымным, крыштальным свеце і свет, невымерны і непаўторны ў ім, — тое, што гучыць як лейтматыў зборніка, вызначаючы ягонае ідэйна-змястоўнае напаўненне, сутнасць лірычнага героя, цэльнага і рознага. Адсюль і вышыня, і глыбокае разуменне вечнага і часовага:

Я — ничто, случайное явленье,
Во Вселенной беглый эпизод,
Искорка, короткое мгновенье,
Перышко от птицы, что поет.
"Кто я, кто я в этом мире
тленном..."

Не абмяжоўваючы сябе агульнафіласофскім разуменнем суадносін "Чалавек — Сусвет", паэтэса пастаянна ўдакладняе сваё крэда і месца ў жыцці. "Я как эта трудяга-лошадка, день-деньской все пашу и пашу" ("На промокшем, на сером асфальте…"), — сцвярджаецца першапачаткова. "Я как та вольная птица в просторе небосвода", — гаворыцца ў другім лірычным фрагменце. "Я странница, бредущая по миру: по травам, рекам, звездам и луне", — гучыць затым голас улюбёнага ў жыццё чалавека", а за ім — і прызнанне, і адчай, і выклік рэчаіснасці, і бяссілле перад ёй: "А душа моя — вьюга с заметью // Вьюга с заметью, горькой памятью".

Прыведзеныя радкі фіксуюць розныя адчуванні — сведчанні шматгранnасці і глыбіні перааасэнсавання жыцця, няпростых адносін з ім.

Крыніца абуджэння палкага, шчырага пачуцця — родная вёска, сваяго роду планіда, дзе і нараджаюцца натуральныя "мелодыі тонкай душы", часта драматычныя і нацягнутыя, як цеціва.

Там, где небо зарею
подкрашено
И просторы еще нагие,
Чуть капель —
меня тянет в Кашино,
Душу мучает ностальгия.
Колыбель растворит
все печали,
Унесет их ветрами, как пух.
Здесь начал всех моих начало,
Здесь окрепнет
ослабший мой дух.

Вершы, навеяныя вясковым і прыродным ладам, запрашаюць нас туды, дзе "тихо воздух дрожит переливами", "полощется листвою береза у крыльца", дзе "пчела, повиснув на цветке, дрожала", а сама восень "облила багрянцем лето"; перад намі не толькі прыродная з'ява, але пара чалавечага жыцця.

"Земные нити" — напэўна, "загаловачны верш" не толькі зборніка "Единые нити", але і ўсёй творчасці Н. Стаховіч. У ім новае, больш тонкае, чым раней, разуменне багацця зямнога быцця, дзе ўсяму сваё месца, а з'явы культуры і прыроды аб'яднаны адзіным універсальным паняццем — "скарб", у якім ёсць матэрыяльнае і духоўнае, яўнае і таемнае, злучаныя паміж сабою нябачнымі сіламі:

Здесь связано все единою нитью:
Рисунки, наброски,
штрихи и граффити,
И лето, и осень, морозы и зной,
И небо, и звезды, и месяц резной,
Олень, и букашка, и рыба, и птица,
И грозы, и ливни, и блески зарницы,
Крапива, и мята, и липовый цвет
И тени заката, и радужный свет.

У простых пералічэннях — водбліск складанай рэальнасці, адлюстраванне пераплеценай шматграннасці сучаснага свету, які пачынаецца з будзённых рэчаў і ў той жа час застаецца вечна зменлівым і непаўторным.

Відаць, кожны паэт марыць стварыць вобраз непаўторнай "Шагань", перадаць "дзіўнае імгненне", "пах чабаровы". Але, вядома, не кожнаму ўдаецца зрабіць гэта па-майстэрску. У Н. Стаховіч ёсць вершы, якія ўцягваюць чытача ў асэнсаванне пачуццяў і перажыванняў закаханага чалавека. Часцей яны вяртаюць у мінулае. І тады пераважае праблематыка незабытых з юнацкай пары надзей, незваротных расчараванняў і страт, калі касцёр любові — толькі ва ўспамінах:

Вот и кончилось лето,
Зашумели дожди.
Ты порою осенней
Листопад пережди.
Уходить не спеши
Ни в рассвет, ни в закат,
Бабье лето возьми
В октябре напрокат.

Подари, подари
Жар последней любви
И огонь разведи
От калины в крови…

Калі зварот да вясны — гэта ажыўленне надзей і ўспамінаў пра маладыя гады, прага жыцця, то з'яўленне вобраза восені спачатку ў зборніку "Асяніны", затым у "Апаленых фрэсках" і асабліва ў "Единых нитях" нагадвае пра тое, што не склалася і чаго так прагла душа ("Давно исчезло наше лето…", "Все чаще осень снится", "Гладил нежно тонкое запястье…", "Осень шалая", "Невозвратное").

Паэтэса з адкрытай душой сустракае кожны новы дзень, багаты на ўражанні і насычаны добрымі справамі, імкнецца прыпыніць час, які непрыкметна сплывае ў вечнасць: «Я уплываю в тишину, // Как в неизвестность. // Ладонью трогаю волну, // Душою — вечность». І дом свой, і вёску сваю яна, быццам баючыся злых сіл, бачыць "у края неба, на краю земли" як бяспечнае сховішча радасных, светлых дзён, непаўторнага дзяцінства, яркага юнацтва («Земные дни так хороши», "Душа здесь птицею поет", "Корабль жизни держит курс в исток").

Тэматычны абсяг зборніка пашыраецца за кошт вершаў, дзе відавочнае імкненне злучыць зямное і боскае. Спробы знайсці адказ на адвечнае пытанне: "Что смерть…? Рождение или тлен?" — так і застаецца для паэтэсы філасофскай дылемай.

Адметнасць зборніку надае раздзел "Мелодии тонкой струны", куды ўвайшлі вершы розных гадоў, якія дзякуючы кампазітарам М. Яцкову і Б. Гракоўскаму сталі песнямі. Ім уласцівы душэўнасць і напеўнасць.

Зборнік "Единые нити" мае зямную аснову, цесна аплеценую і штодзённымі буднямі, і святамі, дзе з'явы, факты падаюцца эмацыянальна, праз цяжка сумяшчальны дыялог пачуцця і розуму, адкрытае выражэнне патаемных думак, улюбёнасці ў жыццё. Агулам вершы робяць уражанне адзінага лірычнага дыхання.

Міхась КУЗЬМІЧ

# Нашчадкі Фантаза

Натуральнае для чалавека жаданне зазірнуць у будучыню не ў апошнюю чаргу абумоўлівае заўсёдную цікавасць чытачкай аўдыторыі да твораў фантастычнага зместу. А ці ёсць будучыня ў самой фантастычнай літаратуры? Гэтае балючае пытанне апошнім часам усё часцей уздымаецца на старонках "ЛіМа" (у нумарах за 19 і 26 лютага 2010 г.). Адказ Марыны Аммон – маладой даследчыцы беларускай фантастыкі, лаўрэата Рэспубліканскага конкурсу 2008 года студэнцкіх навуковых работ з працай "Футуралагічная плынь у сучаснай беларускай фантастычнай літаратуры", аўтара спецкурса "Беларуская фантастыка: традыцыі і сучаснасць", які ўжо два гады чытаецца ў ГДУ імя Ф.Скарыны, – дае падставы для аптымізму.

Час ад часу ў беларускім перыядычным друку з'яўляюцца як грунтоўныя крытычныя і літаратуразнаўчыя артыкулы, так і павярхоўныя опусы, прысвечаныя фантастыцы. Называецца некалькі імёнаў, узгадваецца пара-тройка цікавых твораў і амаль заўсёды... выказваецца думка аб звышцяжкім становішчы гэтага жанру на Беларусі. Прычыны, якія прывялі да стварэння такой непрыглядннай сітуацыі, аматарам і даследчыкам адной з самых папулярных з'яў у сусветным вербальным мастацтве бачацца па-рознаму: і адносна "малады ўзрост" беларускай фантастычнай літаратуры (як па часе з'яўлення, так і па ўзросце яе стваральнікаў), і адсутнасць дастатковай колькасці выдавецтваў, і недахоп вопытных маркетолагаў, здольных прэзентаваць "тавар" публіцы і г.д. У якасці найбольш уплывовага фактару нярэдка ўзгадваецца неканкурэнтаздольнасць на кніжным рынку айчыннага аўтара ў параўнанні з расійскім.

Адсюль узнікае пытанне: а якія мэты, па сутнасці, ставіць перад сабой беларуская фантасты? Калі — запаланіць паліцы шапікаў максімальнай колькасцю сваіх кніг і забяспечыць іх хуткі продаж, то, хутчэй за ўсё, ім варта заняцца цалкам фармальным тыражаваннем такіх сюжэтаў, як "перамяшчэнне ў часе, пакарэнне далёкіх планет, барацьба цывілізацый, кантакты з іншымі формамі розуму, эвалюцыя чалавецтва пасля глабальных катаклізмаў" і г.д. (менавіта гэтыя тэмы былі асобна вылучаны старшынёю секцыі прыгод і фантастыкі Саюза пісьменнікаў Беларусі У. Кулічэнкам, відаць, у якасці найбольш выбітных). У такім выпадку беларуская фантастычная кніга мае магчымасць трапіць у так званы мэйнстрым і заняць свой "пачэсны пасад" між іншымі відамі масавай літаратуры, што выпускаюцца ў свеце мільярдамі асобнікаў кожны месяц і ў хуткім часе патанаюць у шматлікіх хвалях аналагічных па змесце і якасці тэкстаў. Дарэчы, менавіта дзякуючы сваёй "несур'ёзнасці", імкненню да прыцягнення ўвагі чытача выключна з дапамогай дынамічнага развіцця дзеяння ды мудрагелістай інтрыгі, дадзеная разнавіднасць літаратуры не любімая ў той жа ступені, як і папулярная.

Зразумела, каб прыцягнуць і да апошняй старонкі ўтрымліваць увагу чытача цікавым і непрадказальным сюжэтам, пісьменнік вымушаны валодаць пэўным талентам. Тым не менш, аддаючы перавагу чыста фармальнай арганізацыі тэксту, беларускі фантаст, як бы гэта пафасна ні гучала, мусіць забыцца на тыя традыцыі, якія былі сфарміраваны сусветнай культурай у цэлым і беларускай у прыватнасці яшчэ задоўга да яго нараджэння.

Нездарма паняцце "фантазія", а разам з ім і "фантастыка", паходзяць ад імя старажытнагрэчаскага бога Фантаза, які прыходзіў да людзей у сне ў выглядзе прадметаў акаляючага іх свету (вады, дрэў, зямлі, камянёў і г.д.) з рознымі мэтамі: папярэдзіць пра небяспеку, супакоіць падчас найвышэйшага ўзрушэння, прымусіць задумацца пра магчымыя наступствы прынятага рашэння і т.п. Па аналогіі з міфічным майстрам снабачанняў, катэгорыя фантастычнага заклікана ў метафарычным, прыхаваным выглядзе данесці да чытача пэўную экзістэнцыйную праблему.

Такі метад вербальнае мастацтва засвоіла яшчэ ў эпоху Антычнасці (у дадзеным кантэксце ўзгадваюцца, напрыклад, словы Х.Л. Борхеса, які лічыў і філасофію, і багаслоўе толькі асобнымі праявамі фантастычнай літаратуры). Беларуская літаратура плённа спасцігала шматлікія прыёмы мэтанакіраванага скажэння аб'ектыўнай рэчаіснасці, пачынаючы з эпохі старажытнасці (варта толькі звярнуць увагу на старабеларускія – арыгінальныя ці засвоеныя ў перакладзе — апокрыфы, хаджэнні, летапісы, дыярыушы ды многія іншыя тэксты) да пачатку ХХ стагоддзя (а гэта ўлічваючы, перш за ўсё, багаты вопыт пісьменнікаў-рамантыкаў) для таго каб, нарэшце, даць магчымасць фантастыцы вылучыцца ў якасці асобнай разнавіднасці айчыннага мастацтва слова. Разнавіднасці, здольнай, як і любая іншая, у сваім адмысловым выглядзе несці ідэю. Гэта, па сутнасці, і пацвярджае беларускі літаратурны працэс мінулага стагоддзя, прадстаўлены паспяховай практыкай у галіне фантастыкі такіх прызнаных аўтараў, як В. Ластоўскі, К. Крапіва, А. Адамовіч, В. Гігевіч, Я. Сіпакоў, А. Мінкін, У. Шыцік ды іншых.

Тэндэнцыя да ўзмацнення вартасці зместу твора ў дадзенай галіне вербальнага мастацтва не перапыняецца і па сённяшні дзень. Вялікая колькасць аўтараў, акрамя вылучаных У. Кулічэнкам Ю. Брайдэра і М. Чадовіча, і зусім не абавязкова "прафесійных" фантастаў, абірае менавіта дадзеную разнавіднасць літаратуры ў якасці сродку данясення сваёй думкі чытачу: Л. Дайнека, А. Бароўскі, Р. Баравікова, Ю. Станкевіч, А. Казлоў, А. Федарэнка, Л. Рублеўская, А. Бадак, У. Клімовіч, У. Цвяткоў, Н. Ракіціна, А. Аляшкевіч, Г. Ануфрыеў, С. Мінскевіч, А. Бычкоўскі, А. Паўлухін і многія іншыя. З іх творами можна пазнаёміцца на старонках як перыядычнага друку, так і асобных зборнікаў (асабліва заслуга ў гэтым належыць часопісу ўнутры часопіса "Фантаст" — надзвычай удаламу праекту "Маладосці").

Больш таго, сучасная беларуская фантастыка пасталела і ў жанравых адносінах. Яна даўно ўжо выйшла па-за межы навукова-папулярнай: у яе межах плённа развіваюцца кіберпанк, экатопія, апакаліптыка, постапакаліптыка, антыўтопія, фэнтэзі, містычная проза, псіхалагічная, сацыяльная, філасофская фантастыка і г.д.

Можна, вядома, наракаць на тое, што напісанне фантастычных твораў для сучаснага беларускага пісьменніка далёка не самая ўдзячная у грашовым плане справа. Але дадзеная праблема актуальная як для айчыннай, так і сусветнай літаратуры ў цэлым, што звязана з шэрагам фактараў (агульная камп'ютэрызацыя, зніжэнне чытацкага попыту і г.д.). Трэцяе тысячагоддзе вымагае ад літаратуры не толькі новых сродкаў у перадачы сваіх ідэй, але і захаванне спрадвечных базісных традыцый, якія дапамагаюць ёй не сысці ў нябыт. Відавочна, што беларускім нашчадкам Фантаза з гэтай задачай давядзецца справіцца.

Марына АММОН

Ён нарадзіўся ў Расіі, у Разанскай вобласці. Але просты (і шчаслівы) выпадак прывёў яго ў Беларусь. На трэцім годзе службы ў войску (у Ліепаі), ён паслаў свае вершы ў Мінск, у газету "Знамя юности", — яны былі адразу апублікаваныя. Думаю, усім зразумела, што значыць першая публікацыя на палову газетнай паласы для маладога паэта? Салдата! І хіба станеш пасля такога поспеху шукаць іншы горад, іншую краіну?.. Мне здаецца, ён ехаў у Беларусь, як на свята.

# Сэрца прагне волі

Паступіў у БДУ на факультэт журналістыкі. Відаць, быў здольным студэнтам і журналістам: на трэцім курсе яго запрасілі ў "Советскую Белоруссию", у аддзел будаўніцтва і гарадской гаспадаркі — вельмі сур'ёзны аддзел. Далейшы яго паслужны спіс таксама аказаўся прыкметным: пасля "СБ" — часопіс "Нёман", Агенцтва друку "Навіны", Інфармацыйны цэнтр АПН у Індыі (Дэлі), і зноў Мінск — часопісы "Всемирная литература", "Нёман".

А між тым пісаліся вершы. У 1972-м у выдавецтве "Мастацкая літаратура" выйшла першая кніга паэта — "На счастье", а потым "Возраст", "Очертания греха", "Письмо другу", "Точка невозврата"… Сёння, да юбілею, іх аказалася пяць. Шмат гэта ці не? Заўсёды хочацца больш. Аб'ёмней. Але тут ужо далёка не ўсё ад нас залежыць. Акрамя галоўнага: якасці. Вось некалькі радкоў з рэцэнзій розных часоў:

"…Толькі глухі да паэзіі чалавек не адчуе дзіцячую свежасць слоў Юрыя Сапажкова, адвагу і адкрытасць думкі, а дзякуючы мудрасці ды іранічнасці аўтара — абсалютную натуральнасць гутаркі пра глыбока асабістае і патаемнае". "…Увесь досціп пачуццяў, увесь драматызм жыццёвай калізіі, нарэшце, глыбіня філасофскага асэнсавання гэтай калізіі, усё гэта азначана толькі пункцірам, усё сышло ў падтэкст і стаілася там у чаканні свайго чытача і слухача. Па-мойму, усе мы цалкам нечакана для сябе сталі сведкамі з'яўлення на свет паэтычнага шэдэўра".

Пераканаўчыя словы. Але ж мы і самі з вусамі. Не-не ды і з'явіцца новая публікацыя Юрыя Сапажкова. І мы зноў бачым: сярод нас Паэт. Так, здараюцца і ў яго не надта ўдалыя радкі, але заўсёды ў вершах ёсць думкі, якія адразу адгукаюцца ў тваёй душы.

Я думаю, яго цікава перакладаць на іншыя мовы. І нездарма вершы Ю. Сапажкова перастворваны на англійскую, таджыкскую, фарсі, хіндзі, урду, малаялам, а галоўнае — клопатамі М. Мятліцкага — на беларускую мову.

Адзінокі воран,
Пазабыты птах,
Сэрца прагне волі,
Ды не па гадах!

З неба камнем падаў
Ён на куранят.
А цяпер і падле
Стары воран рад.

Чэрствай булкі луста —
Удзяўбі яе!
У жыцці нятлустым
Радасці стае.

Час ад часу чуваць спрэчкі аб тым, меншае ці прыбывае талент з узростам. Адны адукаваныя людзі пры гэтым узгадваюць жыццё, скажам, Арцюра Рэмбо, другія — Талстога... Кансенсус знаходзіцца проста: талент — велічыня пастаянная. Калі ён ёсць. А вось як распарадзіцца ім і сваім жыццём — ніхто не ведае, і вельмі часта людзі прасоўваюцца наперад метадам спроб ды памылак. Шчасце, калі ў цябе першапачаткова ёсць любімая справа, мэта — хай і самому не цалкам ясная, а галоўнае — Божы дар да гэтай справы. (І нават, калі няма дара, усё роўна — шчасце. Бог з ім, з дарам, галоўнае ў жыцці — твая справа!) Юрыю Сапажкову пашанцавала ад нараджэння: слова і справа заўсёды былі з ім. А яшчэ — была і ёсць шчаслівая творчая натура. Адымі штосьці ад гэтага — і няма паэта.

І ўсё ж не забудзем, што быў доўгі, больш за дзесяць гадоў, перыяд, калі Юрый Сапажкоў не пісаў вершаў.



На наша разуменне, не тое, што распавядаць, але і здагадвацца — чаму, мы не маем права. Скажам толькі, што менавіта ў гэты перыяд напісаліся радкі:

Гнев Господа,
Мертвое море
Поэт,
переставший писать.

Здаецца, што ў душу чалавека, які загадвае аддзелам паэзіі часопіса і штодзень бясконца чытае і рэдагуе вершы вядомых ды невядомых аўтараў, павінен закрасціся скепсіс, бо, як ні сумна, большасць вершаў — вучнёўскія. Але ж акрамя ўласнага паэтычнага дара, ёсць у яго іншы, не меней значны для людзей: дар захаплення. "Увага! — раптам раздаецца ў рэдакцыі голас Сапажкова. — Слухайце!" Значыць, зноў ён убачыў: удалечыні замігцела зорка паэта. Часам гэта верш дзяўчынкі семнаццаці гадоў, якая раптам ўсвядоміла, што такое для чалавека вайна і смерць, часам — вершы ссівелага ветэрана, які ўцяміў нарэшце, што такое маладосць.

Шмат каго з прафесійных літаратараў не задавальняюць рамкі аднаго жанру і нават літаратуры наогул. Ведаю таленавітага паэта, рэзервы душы якога пацягнулі ў бок далёкі ад літаратуры, ён стаў знакамітым ва ўсім свеце спінінгістам, аўтарам кніг на гэтую тэму. Ёсць, як вядома, паэты-грыбнікі, падарожнікі, лецішчавыя гаспадары-старацелі. Ведаю творцаў, якія, скончыўшы верш або аповед, з жахам думаюць пра заўтрашні дзень: ці прыйдзе новая раніца, то бок творчая ідэя? Сапажкову, відаць, гэта не пагражае. Як "не ідуць" вершы, ён працуе ў сумежных жанрах: перакладае з беларускай і англійскай моў (так ён стаў "сярэбраным" лаўрэатам, віцэ-каралём Першага міжнароднага турніру літаратурнага перакладу (Лондан, 2009), так з'явілася кніга знакамітага араба-амерыканскага паэта Халіля Джэбрана (2010), пра якую мы пачуем яшчэ не раз; так узнікла зусім ужо не паэтычная (а літаратурна-крытычная) кніга "На просторы слова" (2008). Пра гэтую кнігу хочацца сказаць падрабязней.

Таленавіты паэт мае права адпрэчваць паэтыку іншага таленавітага паэта. Гаворка пойдзе пра супрацьстаянне Сапажкова — Хадановіча. Наўрад ці хтосьці яшчэ падвяргаў паэзію Андрэя Хадановіча такому скрупулёзнаму і бязлітаснаму аналізу. Гэты паэт прывык да безумоўнай ухвалы крытыкаў, да апладысментаў і захаплення моладзі. Здавалася б, пасля крытычнага артыкула Сапажкова сустрэча і мір паміж гэтымі паэтамі немагчымы. Але мне пашчасціла прысутнічаць пры іх нядаўняй выпадковай сустрэчы на Міжнароднай кніжнай выставе: Хадановіч, убачыўшы свайго крытыка, рашуча працягнуў яму руку. Так і павінна было адбыцца, бо артыкул Сапажкова быў не столькі крытыкай, колькі абвяшчэннем, сцвярджэннем уласнай паэтычнай праграмы.

Ці ведаю я яго? Не, я з ім проста знаёмы. Ніхто яго не ведае. Хіба што ён сам. Але і то не цалкам. Хіба ведаў ён яшчэ ўчора, што сёння, пачуўшы па радыё пра тое, што ў Віцебск, на "Славянскі базар" прыехаў знакаміты расійскі паэт, сарвецца з месца і панясецца да яго на сустрэчу? (Не толькі дзеля асабістай паэтычнай цікавасці, але і — часопіса "Нёман"). Хіба ведаў хвіліну таму, што выкіне за дзверы чалавека, які зрабіў яму ганебную прапанову? Хіба ведаў, што аднойчы прыйдзе блазната ў галаву — і сам прыдумае мелодыю на адзін з сваіх вершаў і сарве ў зале бурныя апладысменты? (Не, пра славу барда ён не марыць, але і, відаць, цяжка стрымаць парыў, калі мелодыя раптам зазвініць у вушах.)

Зрэшты, калі трэба, калі неабходна, ён пакідае за дзвярыма ўсе экспромты і паводзіць сябе адэкватна сітуацыі. Такі ён, калі бярэ інтэрв'ю ў французскага пісьменніка Андрэя Макіна (не ўнікнуўшы магчымасці задаць па-журналісцкі правакацыйнае пытанне), або ў знакамітага англійскага празаіка Джуліяна Барнса. Або ў разважаннях пра кнігу "Дыялогі з Богам" беларускага філосафа Валянціна Акудовіча.

Ну, а што яму прыйдзе ў галаву заўтра, не ведае і ён сам.

Літаратары любяць пагаварыць пра пісьменніцкі лёс і прызначэнне, пра натхненне і рамяство, пра тое, як трэба пісаць і як нельга. Але ж прызнаемся: часам горкая яна, пісьменніцкая праца. І што ж рабіць, калі такі лёс...

Тащи свой труд,
как крест таскают.
И наплевать
на то сто крат,
Что нынче нас
еще не знают,
А завтра знать
не захотят.

Вось адказ Ю. Сапажкова. Калі ён гэта сказаў? На світанку імглістай юнацкасці? Перад сваім юбілеем, разважаючы ў адзіноце пра мінулае і будучае? Гэта не мае значэнне, бо шчырыя радкі з адчувальным прысмакам горкаты знойдуць водгук у душы чытача ў любы час.

Натуральна, што ён, рускі чалавек, больш за іншых шануе рускую мову, на ёй думае і адчувае. Але і не праміне паразмаўляць па-беларуску, калі выпадае такая нагода. І адзін з найважнейшых кампліментаў для яго — пахваліць яго даволі багатае словаўжыванне ды беларускае вымаўленне.

Ён чалавек, безумоўна, добры. Але і добрыя бываюць гарачлівыя і не заўсёды справядлівыя... Аднойчы яго гонар паранила нейкая дама-службоўка. Ён у некаторай ступені залежаў ад яе стаўлення і рашэння, але тут жа адказаў цвёрда і непрымірыма: вы нічога не разумееце ў паэзіі!

І тое, што абразіў службоўку, яго не хвалявала. Аднак тое, што пакрыўдзіў Жанчыну, не давала спакою. І калі выпадак зноў звёў іх, Юрый Міхайлавіч папрасіў прабачэння. Жанчына з радасцю прыняла ягоныя словы: яна ўжо пазнаёмілася з яго вершамі і высока ацаніла іх.

І яшчэ, як кажуць, быў выпадак... Зноў Жанчына і зноў — справакавана, але неадэкватна рэзка. У выніку — ноч пакаяння, а раніцай чатыры радкі вершаў:

Твержу себе,
убитый горем, снова:
"Запомни,
неразумная башка,
Что ничего нет
тяжелее слова,
Чем слово,
что сорвалось с языка".

У рэдакцыі "Нёмана", дзе працуе Юрый Сапажкоў — палова калектыва жанчыны. Ён памятае ўсе дні нараджэнняў, і кожная жанчына атрымае ад яго ў свой дзень і час сваю прыгожую кветку.

Юбілей, здавалася мне, заўсёды нясе ў сабе смутак, нават калі чалавек, жадаючы апярэдзіць будучыню, прызначае яго ў 30 або 40 гадоў. І святкаванне яго — спроба гэты смутак развеяць. (Калі мне самому споўнілася 60 гадоў, я быў трохі збянтэжаны. Але галоўны рэдактар "Нёмана" Анатоль Кудравец, зразумеўшы мой стан, паклаў мне руку на плячо і вымавіў простыя словы: "Нічога, Алег. Можна жыць". І адразу стала лёгка. Бо гэта галоўнае: можна жыць! Хіба не так?) Але вось 70 Юрыю Міхайлавічу — і адчуваеш радасць, гледзячы на гэтага жывога, жыццярадаснага, таленавітага чалавека.

Не, 70 — гэта не шмат. Гэта — у самы раз. Яшчэ ўсё можна і нічога не забаронена. Можна нават выпіць лішняе, а раніцай за гэта аблаяць самога сябе. Можна праімчацца на аўтамабілі тысячу кіламетраў за дзень. Можна напісаць верш і захапіцца ім, як Пушкін "Барысам Гадуновым". Можна... Усё можна, да чаго ляжыць душа і на што здольнае цела.

Ён нарадзіўся ўвесну. Дні хутка прыбывалі. Сонца ўпэўнена ішло да зеніту.

Алег ЖДАН

## Калонка Алы БРАДЗІХІНАЙ

# Тэатральны раман, або Як прыгатаваць настой ад бяспамяцтва



Гістарычная проза ў пэўнай ступені звязана з міфатворчасцю. Апошняя вынікае з умоўнасці літаратурных персанажаў і сітуацый, а таксама суб'ектыўных уяўленняў аўтара пра эпоху. Падобнага меркавання пра спецыфіку ўвасаблення тэмы мінулага прытрымліваецца і аўтар аповесці "Здані Гарадніцы" ("Маладосць". 2009. №№ 1—2) Я.Конеў, што выяўлена ў творы і прама ("…кожны <…> бачыць у гісторыі тое, што хоча ўбачыць"), і ўскосна, праз сумяшчэнне легенды і рэалістычных (навукова-папулярных?) нататкаў пра сапраўдныя падзеі першай паловы мінулага стагоддзя. Любоўна-авантурны сюжэт аповесці аўтар "абцяжарвае" высокай і, на жаль, заўсёды актуальнай, хоць і не аднойчы, яшчэ ад Я.Баршчэўскага, паўторанай, ідэяй неабходнасці захавання беларусамі памяці пра мінулае. Праўда, фармулюецца яна сентэнцыйна: "Бяспамяцтва — наша адметная рыса". Або: "…абыякавасць да сваёй мінуўшчыны — наша адмысловая рыса". Нават зварот да вобразаў зданяў (у цэлым удалы для данясення ўказанай вышэй ідэі) падлягае аўтавытлумачэнню: "Мне часам здаецца, што здані гэтых забітых і неадпетых зараз блукаюць у сутарэннях нашага тэатра. Быццам крыўдуюць на наша бяспамяцтва".

Гісторыя тэатра на Гарадніцы, якая знаходзіцца ў цэнтры твора, паказваецца на фоне пераломных падзей у лёсе краіны. Аўтар выяўляе зайздросную абазнанасць у абраным перыядзе — ад нюансаў палітычнага, эканамічнага і культурнага жыцця, рэлігійнага і нацыянальнага пытанняў (якія, дарэчы, набываюць адмысловую трактоўку) да дэталяў кшталту розніцы колераў афіцэрскіх пятліц. Разам з тым колькасць інфармацыі, маштабнасць ахопу падзей у спалучэнні з вастрынёй і разнастайнасцю сюжэтных калізій, якіх, без перабольшвання, хапіла б на тры аповесці, наводзяць на думку, што перад намі накіды някепскага рамана. Так, многія эпізоды, якія толькі пазначаны ў творы, патэнцыйна маглі б аформіцца ў асобныя лініі гісторыі. Гэта і першы арышт галоўнага героя Пётры Куцыёнка з наступным "цудадзейным" вызваленнем, і "лаканічны аповед" персанажа пра падарожжа па Еўропе і Амерыцы, і нетрывіяльна ўвасобленая думка пра паўтаральнасць гісторыі (каханая Куцыёнка, актрыса Апалонія Дарэўская, з'яўляецца цёзкай знакамітай танцоўшчыцы тэатра Тызенгаўза), і казка-легенда пра Зорку і Жабку, і інш.

У меншай ступені пераконвае ў сваёй праўдзівасці і псіхалагічнай дакладнасці вобраз галоўнага персанажа. Відавочна, аўтар імкнуўся стварыць складаны і супярэчлівы характар. Куцыёнак надзелены наборам самых разнастайных якасцей. Гэта адораны артыстычна, прычым ва ўсіх галінах мастацтва, чалавек; самабытны філосаф, які сыпле афарызмамі, цытуе Ніцшэ і Ласаля, які свабодна валодае некалькімі мовамі. Праўда, дзе Пётра заканчваў "свае універсітэты", застаецца незразумелым, бо "вучыўся гімназіст Куцыёнак пасрэдна", за артыкул у "Нашай ніве" яго "адлічылі з гімназіі з «воўчым білетам»", а вечная нястача наўрад ці дазваляла герою купляць кнігі (хіба толькі ён меў магчымасць чытаць "дзённікі, дыярыушы ды ўспаміны некаторых яснавяльможных жыхароў Наднямоння" падчас працы апальшчыкам у архіве).

За свае патрыятычныя перакананні Куцыёнак цярпеў не аднойчы. Схільны да суіцыду, ён урэшце скарыўся і прыняў як належнае сваё гаротнае існаванне: "Такая мая планіда, — спакойна вымавіў статыст. — Можна абурацца, крыўдаваць, енчыць. А можна прыняць жыццё, як ёсць…" Жыццёвая філасофія персанажа — "стаіцца – <…> цішэй травы" і "…сядзець ціха. Як мыш пад венікам." — нагадвае пазіцыю прамудрага пячкура М.Салтыкова-Шчадрына. Тым не менш за свае крыўды Куцыёнак помсціць наколькі жорстка, настолькі ж ціха і незаўважна. Яго зброя — настоі з зёлак, лекавыя і атрутныя ўласцівасці якіх ён, дзякуючы сваёй бабулі-знахарцы, ведае бездакорна. У выніку па прычыне "дзіўнай інфекцыі" вымушаны пакінуць працу дырэктар, а пасля — інспектар згаданай вышэй гімназіі, ад "сардэчнага прыступу" памірае Бенедыкт Заяц, які вырашыў напісаць данос на Дарэўскую і яе мужа. Нарэшце, у арганізацыю апошняга забойства (па разліках — Гімлера, а насамрэч — Гёца), герой уцягвае і Апалонію.

Калі насычанасць элементамі прыгодніцтва сведчыць пра руплівую працу ў накірунку надання твору займальнасці, то любоўная лінія выпісана аўтарам схематычна. Тое ж можна сказаць і пра сам вобраз Дарэўскай. Імклівыя метамарфозы яе адносін да Куцыёнка — ад гідлівасці да шчырага кахання — па меншай меры выглядаюць ненатуральна. Асабліва расчароўваюць штучна змайстраваныя размовы паміж гэтымі персанажамі. Варта паасобку прачытаць рэплікі Пётры і Апалоніі, каб пераканацца ў ілюзіі дыялогу. У большасці выпадкаў Дарэўскай належаць толькі лаканічныя заўвагі ці пытанні, якія сведчаць пра яе прысутнасць у тым эпізодзе, калі гучаць доўгія філасофскія, часам пафасныя, прамовы Куцыёнка. Відавочна, апошні "надзелены паўнамоцтвамі" гаварыць ад імя аўтара.

Але галоўнае — аповесць Я.Конева пераконвае: нецікавых эпох у гісторыі не бывае.



## Мар'ян ДУКСА

* * *

У горшыя часы
падобны лёс
для многіх: голад блізкі,
як і смага.
Яднае ўсіх
бесперапыннасць слёз
і цешыць думка:
а каму не блага?

У лепшыя часы
крыху не так.
Няма таго яднання
абсалютна.
І зараз ты,
як спісаны пятак
сярод купюры
залатавалютнай.

* * *

Тэлевізійныя каналы
шматлікія і многія,
нібы спакуслівы кавалак,
аналізуюць паталогію.
Тэлевізійныя каналы
па духу дужа-дужа блізкія
да тых асобных філіялаў,
што маюць цэнтры медыцынскія.
Яны з мастацкім аздабленнем
чамусьці радасна-угодліва
падсоўваюць для ўсведамлення
ўсе адхіленні душ звыродлівых,
шал буйны ультрачалавекаў,
іх нораў прыдзічэла-ярасны…
Але маўчаць адносна лекаў.
Амаль не ставяцца дыягназы.

* * *

Ісці — пакута і абуза.
Бяссільны крок. Пагляд пусты.
Брыдуць і падаюць французы
Год восемсот дванаццаты…
Ад роспачы хоць загалёкай.
Чаму такі фінал вайны?
О, як да Францыі далёка
ад гэтай вось Беразіны.
Жыццё, ці сонечная дзіва,
пагасне зараз. Як шкада…
Цяпер іх вечная радзіма —
вось гэта страшная вада.
Ах, як страляюць пушкі брава.
І шкадавання не відно.
Бярэзінская пераправа,
з якой адзін быў шлях — на дно.
Хто даганяў, было ім проста
чыніць свой суд без лішніх слоў.
Хоць… ці вялікае геройства
тапіць слабых уцекачоў?

* * *

Анамальная зона.
Ніжніх нетраў разлом.
Тут людскія законы
рушыць дзікі фантом.
Тут ты думаць не ў стане,
халадзее ў грудзях.
І пачварныя здані
нам падкідваюць жах.
Над зямлёй той чырвонай —
горкай памяці груз…
Анамальнаю зонай
ці не быў ён — Саюз?..
Дзе за людствам ганяўся
прывід байкі са злом —
у прасторы і часе
быў вялікі разлом.

* * *

Агніста зязеісціна — нязменна,
не траціць непаўторнасці сваёй.
Але чарговы творца задуменны
не хоча пахіліцца перад ёй.
Яе абвергнуць — вось яго шанец.
Навошта словы прамаўляць цішэй?
А раптам бойк
стылістычны танец
за бронзавую ісціну вышэй.
Хоць, можа, і цураецца бязвер'я,
хоць па душы — нябесны херувім.
Ён, як паўлін, высока ставіць пер'е,
хаваючы нядошлы дух пад ім.

* * *

Згрызоты, звягі гвалцяць згоду,
не гінуць бойкі і сутычкі.
Жадаем вельмі асалоды,
але атрымліваем пстрычкі.
Ад бедаў войкаюць стагоддзі,
паразумнелі, а — наколькі?
Людзей кусаюць пры нагодзе,
залізваюць пасля іх болькі.
А хто ж нам дасць такія гранты,
каб мець ад іх адну суцеху?
А прага наступаць на граблі
ужо не выклікае смеху.



## Марыя МАЛІНОЎСКАЯ

### Дэбют

Тое, што Марыя Маліноўская – таленавітая рускамоўная паэтэса, – ужо не з'яўляецца навіной. Плюс да чытацкай увагі гэта пацвярджаюць шэраг "цэхавых" узнагарод і публікацыі ў рэспубліканскім літаратурным друку. Аднак сённяшні лімаўскі дэбют асаблівы: аўтарка ўпершыню выступае з вершамі на беларускай мове. Будзем спадзявацца, што Марыя адной публікацыяй не абмяжуецца, і яе паэзія ўнясе новыя павевы ва "ўласнабеларускую" літаратурную сітуацыю.

Літаратурны аддзел штотыднёвіка "ЛіМ"

### Позірк

У цёплых абдымках
вандруючай хвалі
Раскрыўся чароўны
вячэрні бутон.
Пялёсткі яго пачуццёва палалі
Таемна-марудлівым
чорным агнём.

Пад імі хавалася страшнае джала:
Кранууўшы,
пампэ ад яго чалавек.
Але я ў бутоне
Ваш вобраз пазнала
Ці позірк Ваш
з-пад пацяжэлых павек…

* * *

Пакуль ты молішся,
ён будзе жыць.
Ён будзе жыць,
пакуль ты молішся.
І лёд на бледным,
як твой твар, Сажы
Пад ім не ўсхліпне,
не праломіцца.

Пакуль ён моліцца,
ты будзеш жыць.
Ты будзеш жыць,
пакуль ён моліцца.
І ў вашай хаце
ў срэбранай глушы
Дзіця народзіцца.

І будзе жыць.



## Змітрок МАРОЗАЎ

### Маўчанне

Маўчанне — гэта родзіч ладу.
Што слова ў параўнанне з ім?..
Ды ад маўчання — крок да здрады...
Не давярайцеся нямым!

### Унучцы Машы

О, як нялёгка першы крок зрабіць!
І слова першае сказаць таксама...
Затое, як прасветлена гучыць
На выдыху адным святое "МАМА".

### Чытаючы Алеся Пісьмянкова

Не раз яшчэ напіша бібліёграф:
"Паэт.Пакутнік.
Светлы чалавек..."
Прачулы верш –
душы тваёй аўтограф,
Слязінкі выціскае з-пад павек.

### Самота

Самота — не выпрабаванне,
Як дар нябесаў дарагі
Яна — з народзін дараванне
За ўсе памылкі і грахі.
Дык не стагні ва ўгоду плоці,
Калі старэеш у журбе,
А ціха радуйся самоце,
Што не пакінула цябе.

* * *

Сярод тлуму і ляманту,
Недарэчных сугуччаў —
Салаўінае — Лермантаў,
І шляхетнае — Цютчаў
Уздымаюць да чыстага...
Мне ж у сэрца запала,
Як слязінка, празрыстае,
І святое — Купала.

* * *

Чорны мармур.
Бяроза белая...
Тут спіць мама, —
Душа збалелая
Размаўляе
З травою спелаю...
Чорны мармур.
Бяроза белая.

### Час

Час чалавечых мас
І расцуглянай волі...
Ды толькі кожны з нас
Самотны, як ніколі.
У пошуках святла,
Дабра і разумення
Згасаем без цяпла,
Як знічкі ў час асенні.
Ды толькі кожны раз
Гучыць, як апраўданне:
"Што зробіш – гэткі час!.."
Хоць іншым час не стане.

* * *

Адлятае лісце
Ў светлы восеньскі вырай...
Падсумую жыццё,
Развітаюся з лірай.
Не з санетаў вянком
Завяршу шлях, пры гэтым, —
Развітальным радком,
У якім – лёс паэта.

* * *

Я падняў камяк зямлі з долу,
У якім майго жыцця доля,
Пот аратых, кроў салдат...
Сіла,
Што бяскрылым надае крылы...
Песня маці,
смак жыцця й хлеба –
У звычайным камяку глебы.

### Маналог развітання

Астывае пустая хата.
Сад спавіты марозным сном...
Заблудзілася цётка Наста
Паміж горадам і сялом.
"Добра ў горадзе ногі лечаць...
Побач доня і два сыны.
Ды зіма там даўжэй за вечнасць,
Дачакацца б хутчэй вясны!
Знаў прыеду сюды на лета,
Грады спячыя ўзварушу,
Каля пчол, матылёў і кветак
Прысуседжу сваю душу.
Ну бывай, дарагая хата,
Мо пабачымся ясным днём..."
Заблудзілася цетка Наста
Паміж горадам і сялом.



Фота Аляксандра Вашчанкі

# Ідэальныя людзі



Кацярына ХАДАСЕВІЧ-ЛІСАВАЯ

## Апавяданне

Далёкая будучыня, 2103 год. Ганна, нарэшце, вярнулася дадому і толькі цяпер адчула наколькі стамілася маральна і фізічна. Жанчына паволі акінула позіркам сваю кватэру, якая прыйшла ў абсалютнае запусценне без клапатлівых рук гаспадыні. Мэбля і падлога пакрыліся роўным пластом белаватага пылу, застаялае паветра не давала магчымасці дыхаць на поўныя грудзі. Пакоі выглядалі непрыбранымі, нежылымі, непрывабнымі. Толькі электронныя рыбкі ў акварыуме нястомна-весела плавалі ўздоўж цьмянага шкла, прарываючыся скрозь бясконцыя струменьчыкі паветраных бурбалак. Нежывыя стварэнні здаваліся найбольш жыццярадаснымі ў гэтай бруднай закінутай кватэры.

Ганна правяла пальцам па пыльным шкле акварыума, ад чаго рознакаляровыя стракатыя рыбкі мудрагелістых формаў рэзка змянілі траекторыю руху і шаснулі ў розныя бакі, быццам спалохаўшыся раптоўнага ўварвання кагосьці чужога. Плаўна закалыхаліся штучныя водарасці, закруціліся ў віхуры паветраныя бурбалкі, на паверхні вады з'явілася ледзь прыкметная рабізна.

Жанчына слаба ўсміхнулася. Да чаго ж прыемна вярнуцца дадому! Шкада толькі – няма каму сустрэць яе пасля доўгай адсутнасці. Ганне больш за ўсё хацелася выкрасліць з памяці два апошнія гады жыцця, праведзеныя ў турме.

— Не думаць пра гэта! Забыцца назаўжды! – загадала сабе жанчына. – Гэты жах застаўся ў мінулым. Цяпер у мяне ёсць усе шанцы стаць шчаслівай. І я абавязкова дамагуся гэтага!

Ганна падышла да акна і расчыніла яго, каб упусціць у пакой струмень свежага паветра; што праўда, чысціня таго паветра была вельмі сумнеўная. Яна магла проста націснуць кнопку на пульце і ўключыць ачышчальнік, потым гэтак жа, з дапамогай дыстанцыйнага кіравання, змяніць у кватэры брудныя падлогавыя пакрыцці і наогул зрабіць генеральную ўборку, не ўстаючы з крэсла, але не стала звяртацца да дасягненняў прагрэсу і занялася ўборкай па даўняй традыцыі, уручную. Бясконца доўга гуў старэнькі, яшчэ ад бабулі, пыласос. Сапраўдны рарытэт па цяперашнім часе!

Ганна доўга ваявала з пылам і брудам. Стомленасць адчувалася не абы-якая: нылі рукі, ногі, спіна і нават шыя. Стваралася ўражанне, быццам няма на целе месца, якое не баліць. Але, нягледзячы на ўсё гэта, жанчына адчула непаўторнае задавальненне ад праробленай працы і яе вынікаў. Зараз паўсюль былі чысціня і парадак. З апошніх сіл Ганна ўстала з крэсла і пайшла выносіць смецце.

На лесвіцы яна сустрэлася з суседкай.

— Дзень добры! – шчыра ўсміхнулася Ганна.

Суседка кінула на яе пагардлівы позірк і прайшла міма, так нічога і не адказаўшы. Ганна паглядзела ёй услед і паспрабавала ўзгадаць, хто ж гэта: маці альбо дачка з 189-й кватэры?

У дзвярах пад'езда Ганна сутыкнулася з незнаёмым мужчынам. Яны з цяжкасцю размінуліся ў вузкім праёме.

— Вось гэта габарыты! – ашчэрыўся малады чалавек. – Ты адкуль такая ўзялася? Дагістарычная асобіна, няйначай! І як толькі ў дзверы пралазіш? А адзежу пад заказ шыеш, ці што? Я дык думаў, стагоддзе тлустых пачварных баб даўно скончылася! Фу! Мяне зараз званітуе!

Шчокі Ганны пакрыліся чырвонымі плямамі. Ёй было вельмі крыўдна і непрыемна пачуць такія словы. Яна паспяшалася прэч, вырашыўшы не распачынаць гаворку з нявыхаваным чалавекам. Ганна адышла зусім недалёка ад пад'езда, але і падчас гэтага кароткага шпацыру атрымала шмат брыдкіх слоў на свой адрас і адчула дзесяткі калючых паглядаў.

Гэткая пільная непрыемная ўвага да яе асобы была звязана з яе знешнасцю. Усе людзі вакол былі інакшымі. Ганна глядзела на гэтых прыгожых людзей і ніяк не магла зразумець, чаму ўсе яны імкнуцца выглядаць ідэальна хораша. Хутчэй за ўсё, больш не засталося ніводнага чалавека, які не звяртаўся б да паслуг пластычных хірургаў, пачынаючы з ранняга дзяцінства. Мабыць, яна засталася адзінай жыхаркай горада, краіны, а можа, і ўсяго свету, хто не стаў спрачацца з прыродай.

— Ай-яй, Ганна-Аўгусціна! Ну калі ж ты зоймешся сваёй знешнасцю?! – прарыпела бабулька з суседняга пад'езда. – Сваім выглядам, даражэнькая, парушаеш грамадскі спакой, ты не проста не паважаеш, я нават сказала б, абражаеш нас! Ты паглядзі ў люстэрка! Колькі ж лішніх кілаграмаў? А гэты няправільны нос? Я ж табе па-добраму, па-суседску раю…

Ганна падціснула вусны і моўчкі прайшла міма. Ото ж гэтыя бабулі-суседкі! Ды іх і бабулямі назваць нельга, бо ўсе яны цяпер вечна маладыя і прыгожыя. Ані лішняй вагі, ані маршчынаў, сівізны... Так лёгка заблытацца ў пакаленнях!

Жыць стала цяжэй. Да таго, як Ганна трапіла ў турму, яна ведала даволі шмат людзей, якія не лічылі патрэбным наведваць кабінет пластычнага хірурга гэтак жа часта, як, напрыклад, стаматолага. За два гады ўсё змянілася. А яна цешылася, што прымусова не патрапіла ў аперацыйную, знаходзячыся ў турме, паспела вызваліцца. Відаць, "на волі" справы ідуць яшчэ горш.

А за што Ганна трапіла ў турму? Ды толькі за тое, што жадала нарадзіць дзіця, але не была замужам. Гэта яшчэ было не самым цяжкім пунктам абвінавачання, а вось тое, што яна рашылася на гэты крок без атрымання ліцэнзіі, разглядалася, як злачынства.

Дачушка нарадзілася, а маці выправілася ў турму. На цэлыя два гады. "Гуманны" закон усё ж дазваляе забраць дзіця, і Ганна абавязкова зробіць гэта. Не далей, як заўтра, яна паедзе па сваю дачку…

…Але дзяўчынку ёй так і не аддалі.

— Вы атрымаеце права ўбачыцца з дзяўчынкай толькі ў тым выпадку, калі вернеце сабе належны выгляд, – строга сказала дырэктар прытулку. – Да таго часу прыходзіць сюды абсалютна бессэнсоўна. Да пабачэння.

Яна больш ні хвіліны не стала слухаць Ганну-Аўгусціну, як цяпер прынята было яе зваць. Падвоеныя імёны былі вельмі модныя.

Ганна вярнулася дадому. Вось і надышла тая гадзіна, калі ёй усё ж прыйдзецца далучыцца да грамадства ідэальна-прыгожых людзей. Яна доўга супраціўлялася гэтаму, але акалічнасці, як заўсёды, аказаліся мацнейшыя. Ганна не разумела, чаму ўсе павінны выглядаць аднолькава. Гэтыя людзі страцілі самі сябе! Мала хто з іх памятае тое сваё аблічча, якое стварыла прырода. Усе сталі стрункімі і гнуткімі. Вакол былі прыгожыя асобы, не скажоныя ні адной, нават маленькай, няправільнай рысачкай. Вусны, насы, разрэз вачэй, павекі, скура… Усё ідэальна. Іх целы дасканалыя.

Ганна ж любіла сваё роднае, далёка не ідэальнае цела, якім яно было створана, шанавала яго натуральнасць і адрозненне ад іншых. Яна ніколі не жадала зазірнуць у люстэрка і ўбачыць тамака прыгожую, але чужую асобу, таму што гэта ўжо будзе не яна.

Але гэта была адзіная магчымасць вярнуць дачку і Ганна змушаная была зрабіць гэты крок, насуперак уласнаму жаданню. Яна з вялікім шкадаваннем развіталася з самой сабою. Надышоў той жудасны момант, калі над ёй запаліліся лямпы ў аперацыйнай і задаволеныя пластычныя хірургі схіліліся над апошнім недасканалым целам.

Так знікла сапраўдная Ганна, але зусім хутка да грамадства ідэальных людзей далучылася яшчэ адна прыгожая асобіна — Ганна-Аўгусціна. І ў гэтай асобіны пачалося абсалютна іншае жыццё...

Генадзь РАМАНАЎ

# Сябар-кат

## Казка

Гарачынёй дыхала ўсё: каменне пад нагамі, кайданы, якімі ён быў прыкуты да скалы, сама скала. Гарачае паветра паліла горла, сушыла лёгкія. Дыск сонца паволі плыў па блакітным небе. Вось калі ён схаваецца за тым выступам, з'явіцца палёгка. Але ўжо зранку ледзяное горнае паветра зноў пачне драць горла і сушыць лёгкія. І з той жа нецярплівасцю, што зараз, ён чакае захаду сонца, ён будзе чакаць яго першых промні.

Праметэй зірнуў у далечыню, накрытую ценем ад горных вяршынь. Тысячы агеньчыкаў ператваралі зямлю ў зорнае неба. На душы рабілася ўтульна. Дзеля гэтага можна было цярпець і гарачыню, і холад. Тым больш, што і да таго, і да другога ён пачаў прызвычайвацца. Адзінота — вось да чаго герой не мог прывыкнуць. Парадаксальна, але адзіным яго суразмоўцам быў яго ж кат. "Дзе яго сёння носіць?" Звычайна вельмі пунктуальная, птушка прылятала ў першай палове дня, калі промні сонца ўжо паспявалі сагрэць цела, але яшчэ не ператваралі навакольны свет у пекла. Разам яны абмяркоўвалі навіны з зямлі, крыху пляткарылі пра жыхароў Алімпа. Затым Арол хуценька і вінавата рабіў сваю справу, развітваўся і адлятаў, а Праметэй заставаўся адзін са сваімі думкамі.

Праметэй зноў зірнуў на сонца — дыск вырас у памерах і зрабіўся крывава-чырвоным. Дзесьці крыху вышэй жывата пачала ўтварацца трывожная пустота. Праметэй злавіў сябе на думцы, што ён турбуецца пра жыццё і здароўе свайго ката: "Што здарылася? Можа?.." Але не! Вось ён, не па гадах зухавата, прызямліўся каля ног Праметэя.

— Што з табой здарылася, мудрая птушка? Ты сёння больш падобны да дурнога паўліна, чым да старога арла.

— Праметэй! Я сёння дурны ад шчасця! Каб ты ведаў, з якой арліцай я сёння раніцай пазнаёміўся, як цудоўна мы бавілі час! — Арол летуценна закаціў вочы, і ад гэтага яго выгляд стаў яшчэ больш камічны. Праметэй рассмяяўся:

— Ну, заставаўся б са сваёй прыгажуняй, а я ўжо як-небудзь абышоўся і без тваіх "працэдур".

— Абавязак! Ты, Праметэй, няправільна разумееш сэнс гэтага слова, вось таму і прыкаваны да скалы.

— Абавязак? Звычайнае апраўданне ката, які не згубіў яшчэ сумлення.

— За сумленне дзякуй, але, пагадзіся, маім жаданнем ці не жаданнем ніхто не цікавіўся. Ды і наогул, што ты ўсё спрабуеш зваліць на мяне! Гэта не я, а ты скраў агонь з Алімпа. Заўваж, Праметэй, — скраў. Калі б ты не зрабіў гэтага, то і я зараз міласаваўся б са сваёй маладзіцай, і ты баляваў бы на Алімпе сярод багоў і герояў, альбо весяліўся ў цяністых садах з німфамі.

— Табе, птушка, гэтага не зразумець. Калі б я не даў людзям агонь, мне было б цяжэй, чым зараз Я не змог бы забаўляцца з німфамі, ведаючы, як цёмна і холадна зімнімі начамі ў жытле людзей. Мне не лез бы кавалак у горла, бо я ведаў бы: людзі слабеюць ад голаду і самі становяцца ежай драпежнікаў. Зараз жа яны не залежаць ад міласціны багоў. Я даў ім не проста агонь — я падараваў ім свабоду!

— У цябе такі ж атрымалася сапсаваць мне настрой, — Арол зноў ператварыўся ў старую, стомленую птушку. — Няўжо ты, Праметэй, да гэтага часу верыш, што можна падараваць свабоду тым, хто не мроіць ёю, хто яе не прагне? Хіба ж ты не ведаеш, што ёсць птушкі, якія не жадаюць лётаць? За сотню гадоў, што я правёў у палётах над зямлёй, я бачыў тысячы лясных пажараў. Гэта, безумоўна, не святарны агонь Алімпа, але і ён свяціў бы і саграваў не горш за той, што ты ім прынёс.

Арол падышоў да краю скалы і, гледзячы на адзін з агеньчыкаў, пачаў зноў гаварыць:

— Калі б у цябе быў такі ж востры зрок, як у мяне, то ты ўбачыў бы, што больш за ўсё людзей прыходзіць ву-у-унь да таго агню. Гэта алтар. Алтар Зеўса. Падумай, Праметэй, яны прыносяць ахвяры на агні, які ты ім падараваў, – таму, хто цябе за гэта пакараў. Ты ж сам бачыў, якім натоўпам яны ідуць на Алімп. Сварацца, б'юцца, штурхаюць адзін аднаго. Багі, каб пацешыцца, кідаюць у іх камяні. А яны ўсё лезуць, лезуць, лезуць! А да цябе, хаця б адзін за гэтыя гады, ускараскаўся? Ну, проста, каб сказаць "дзякуй"? А, Праметэй?

Арол павярнуўся да скалы і анямеў. Ён нават уявіць сабе не мог, які боль ён прычыняе герою. Нават, калі ўпершыню пад грозным і задаволеным позіркам Зеўса Арол, праклінаючы сябе, рваў цела Праметэя, нават тады на твары героя не было такіх пакут і болю. Трэба было неяк выправіць становішча, але замест слоў вырывалася толькі недарэчнае крактанне.

— Не трэба. Я ведаю, ты не хацеў зрабіць мне балюча. — Праметэй усміхнуўся і, жыццё пачало вяртацца на яго твар. — Ну што ж, рабі сваю справу, мой сябар-кат.

Як яны розняцца між сабой! Іранічныя, наіўныя, жыццярадасныя, гераічныя, самотныя, загадкавыя, кранальна-рамантычныя, парадыйныя, падкрэслена рэалістычныя і знарочыста неверагодныя, мудрыя і сур'ёзныя. Усе гэтыя стракатыя персанажы дзіцячых кніжак прыйшлі да нас, так скажам, праз візуальнае ўвасабленне літаратурных вобразаў у ілюстрацыях. Але яны нібы крочылі за межы кніжных старонак і, пакінуўшы сваё звыклае асяроддзе, пачалі вандраваць па выставачных залах. Так атрымаўся міжнародны праект — выстаўка сучаснай дзіцячай кніжнай ілюстрацыі пад назваю "Жылі-былі...".



# Малюнкі-вандроўнікі

Амаль месяц з гэтай выстаўкай, якую арганізавалі Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў, Ізраільскі культурны цэнтр пры пасольстве Дзяржавы Ізраіль у Рэспубліцы Беларусь, Інстытут імя Гётэ ў Мінску, Польскі інстытут у Мінску, знаёмілася сталічная публіка. Экспазіцыя пабывае таксама ў Магілёве, Гомелі, Баранавічах, Брэсце, Гродне, Віцебску. Мінскаму гледачу пашанцавала асабліва: можна было не толькі ўбачыць работы 33-х мастакоў з Беларусі, Германіі, Ізраіля, Польшчы, прадстаўленыя ў музеі БДАМ, а і спрычыніцца да прафесійнай размовы пра тэндэнцыі, дасягненні ды праблемы ў адпаведнай сферы. У канферэнцыі на тэму "Сучасная дзіцячая кніжная ілюстрацыя", праведзенай падчас выстаўкі, удзельнічалі практыкі і мастацтвазнаўцы з Беларусі, Ізраіля ды Польшчы. Спецыялістам было пра што пагаварыць, бо працэс афармлення кнігі, які сінтэзуе ў сабе літаратурную творчасць, выяўленчае мастацтва і дызайн, — сам па сабе складаны. Што ўжо казаць пра стварэнне ілюстрацый да дзіцячых выданняў! Аднаго майстэрства ці прафесійнай эрудыцыі тут недастаткова. Мастак, які "чытае" літаратуру, асабліва для самых маленькіх, спешчаных вынаходлівай і высакакласнай камп'ютэрнай анімацыяй, мусіць быць неўтаймоўным фантазёрам і псіхолагам, гісторыкам і філосафам, эстэтам і... прагматыкам, здатным сустаднесіць свае творчыя памкненні з рэальнымі магчымасцямі паліграфіі.

Як зазначыла куратар выстаўкі "Жылі-былі" Кацярына Кенігсберг, работы ўдзельнікаў праекта прадэманстравалі разнастайнасць творчых пазіцый, а яшчэ — уразілі надзвычай шырокім дыяпазонам выяўленчых тэхнік: тут і вытанчаныя акварэлі, і шаўкаграфія, пастэль і гуаш, і выразанне нажом на пергаменце, малюнкі, зробленыя пяром, эксперыменты з дапамогай лічбавых тэхналогій і калажы... Між іншым, для многіх наведнікаў адкрыццём сталася творчасць ізраільцянкі Ірэны Абольскі, якая прадставіла серыю ілюстрацый у літары. Работы грунтуюцца на традыцыі старажытных манускрыптаў, у якіх буквіцы выконваюць функцыю рамак для ілюстрацый. У такой тэхніцы яна афармляе рэлігійныя тэксты і мастацкія творы на біблейскую тэматыку. Кнігі, якія мастачка ўручную робіць па індывідуальных замовах, сапраўды ўнікальныя, бо тыраж кожнага такога аўтарскага твора — адзін асобнік, і капіраванне ўжо немагчымае.

Размаіты і захапляльны свет паўстае ў малюнках Рамана Карчмарчыка, Катажыны Самборак, Ганны Чэх, Эвы Юшчук з Польшчы; Юты Баўэр, Каці Венер, Нікалаўса Хайдэльбаха, Акселя Шэфлера з Германіі; Юрася Алісевіча, Валерыя Славука, Мікалая Казлова, Рамана Сустава, Веры Ягоўдзік з Беларусі... Удзельнікаў праекта, паўтаруся, больш як трыццаць, так што пералік далёка не поўны. Але ж галоўнае, вядома, не ў колькасці прозвішчаў. Галоўнае ў тым, што беларускія мастакі, якія працуюць з дзіцячай кнігай, атрымалі рэдкасную магчымасць прадставіць уласную творчасць менавіта ў міжнародным кантэксце і паглядзець на традыцыі айчыннай графікі вачамі замежных калег.

Няма патрэбы даводзіць, што ўсе чытачы, а тым больш дзеці, любяць, каб кніжка была прыгожая, у прывабнай вокладцы, з яркімі цікавымі малюнкамі. Ды не проста малюнкамі, а трапнымі дапаўненнямі да тэксту, у якіх адлюстроўваюцца дух і падтэкст, сюжэт і змест. Бясспрэчна і тое, што сакрэты арганічнага, трапнага аздаблення кніг не знікаюць з развіццём выдавецкай справы. Тыя, хто працуе ў жанры ілюстрацыі, маюць патрэбу ў выстаўках і абмеркаваннях, у абмене прафесійным досведам з калегамі, у сустрэчах з прадстаўнікамі замежных школ. Беларускім жа кніжным графікам сёння ўсяго гэтага бракуе. Вызначэнню тэндэнцый айчыннай школы афармлення выдавецкай прадукцыі, развіццю жанру кніжнай ілюстрацыі спрыялі ў свой час выстаўкі "Мастак і кніга". Але традыцыя рэгулярнага іх правядзення была падзабытая ў апошнія гады і аднавілася толькі летась. На рэспубліканскай выстаўцы "Мастак і кніга-2009" суседнічалі работы спанатраных практыкаў і прадстаўнікоў новай генерацыі беларускіх графікаў. Пры ўсёй іх рознасці было відавочна, што творцы-профі не проста захапляюцца пошукамі гожых ліній і колеравых спалучэнняў, а з большым ці меншым поспехам імкнуцца абагульніць у кніжным малюнку адмысловы вобразны свет. І не парушыць мяжу, што аддзяляе сапраўдную ілюстрацыю ад звычайнага станковага твора.

І вось — "Жылі-былі...". Яшчэ адна магчымасць падзівіцца на ілюстрацыі ў па-за кніжным, выключна мастацкім, выставачным асяроддзі. І, гледзячы на малюнкі, якія вандруюць па выставачных залах, пакінуўшы свой родны літаратурны кантэкст, задумацца пра тое, што кніга — калектыўная справа, у якой творчасць мастака — вечны пошук і вечны кампраміс.

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

На здымках: кніжныя ілюстрацыі мастакоў Паўла Татарнікава (Беларусь), Каралінэ Кер і Філіпа Вехтэра з Германіі.

Фота Віктара Кавалёва






# Творчасць як сямейны скарб

**У Кобрынскай дзіцячай школе мастацтваў наладзілі выстаўку мастакоў Сяргея і Кацярыны Плотнікавых — бацькі і дачкі. Галоўны арганізатар экспазіцыі — метадыст установы адукацыі "Усенавуч" Валянціна Шахалевіч.**



Карціны, напісаныя пераважна ў стылі постмадэрнізму, зацікавілі жыхароў горада. Незвычайнае ўспрыманне свету, філасофскі погляд на навакольнае асяроддзе вылучаюць творчасць Сяргея і Кацярыны. Магчыма, менавіта гэтая незвычайнасць прываблівае гледачоў, якія наведваюцца ў школу мастацтваў, каб апынуцца ў чароўным свеце творчасці і нібы ўбачыць багацце душы мастакоў.

Сяргей і Кацярына, а яшчэ і Сяргей-малодшы, які, хоць і не браў удзел у выстаўцы, але таксама малюе, складаюць вершы, і нелагія. Крыху адстае ад сямейнікаў маці, але толькі ў тым, што яна не паэтэса. А Сяргей-старэйшы яшчэ і музыку піша. Да таго ж, ён і са спортам сябруе, нават дзесяць гадоў быў кіраўніком гуртка каратэ. Пра такіх, як бацька сям'і Плотнікавых, і кажуць: таленавіты чалавек таленавіты ва ўсім.

На карцінах Сяргея Плотнікава — краявіды і партрэты, казачныя персанажы і матывы наскальнага жывапісу, хрысціянскія сюжэты і інш. Сур'ёзна займацца жывапісам (спачатку акварэллю, потым алеем, акрылам) ён пачаў гадоў 20 таму, калі пасля заканчэння мастацка-графічнага факультэта Віцебскага педагагічнага інстытута (1989 г.) працаваў настаўнікам у школе г. Маладзечна. Амаль адразу як Сяргей пераехаў на Брэстчыну, яго творчасць заўважылі нямецкія аматары мастацтва і запрасілі зрабіць выставу ў Германіі.

Такім чынам, у сярэдзіне 1990-х Сяргей Плотнікаў і яго сябар Ігар Абуховіч пабывалі са сваімі карцінамі ў некалькіх нямецкіх гарадах. Там кобрынскія мастакі нават увайшлі ў гісторыю горада Шмёльна. У мясцовым музеі ёсць панарамы горада ўсіх стагоддзяў, пачынаючы з сярэднявечча. І Сяргею ды Ігару прапанавалі зрабіць панараму Шмёльна XX стагоддзя. Для гэтага ім трэба было ўзняцца на самую высокую кропку горада — вежу, размешчаную на гары, адкуль адкрываўся выдатны краявід. Цяпер карціны беларускіх мастакоў знаходзяцца ў гарадскім музеі Шмёльна. Акрамя таго, работы С. Плотнікава трапілі ў прыватныя калекцыі Германіі і Францыі.

Пасля прызнання за межамі краіны карціны Сяргея Плотнікава пачалі выстаўляцца ў галерэях і салонах Беларусі. Канечне ж, прайшло і некалькі вернісажаў у Кобрыне. Аднойчы была нават сямейная выстаўка, дзе жыхары і госці горада маглі пабачыць карціны Сяргея, яго жонкі Аксаны і малюнкі іх дзяцей Кацярыны ды Сяргея.

Думаю, малодшым Плотнікавым пашчасціла з бацькамі, якія змаглі заўважыць у дзецях і развіць іх пэўныя таленты.

Выстаўка завершыцца, а творчае жыццё сям'і Плотнікавых працягнецца. І наперадзе — новыя поспехі.

Наталля КАНДРАШУК

На здымку: "Петрагліф" С. Плотнікава.

Фота Рамана Мельніка
г. Кобрын

## Радуемся разам

Міжнародны фестываль ірландскай культуры, прымеркаваны да Дня св. Патрыка — вясёлага вясновага свята, якое перасягнула ўжо нацыянальныя межы і набывае шырокую папулярнасць у свеце, — завяршыўся ўчора ў



сталіцы. Арганізавалі яго Новы драматычны тэатр г. Мінска, Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі, таварыства "Беларусь — Ірландыя". На працягу трох дзён у тэатры праходзілі канцэрты ірландскай музыкі і танца, ладзіліся конкурсы і разыгрываліся прызы, працавала фотавыстаўка "Вобраз Ірландыі". А ўчора адбыўся паказ спектакля рэжысёра Дзяніса Нупрэйчыка "Каралева прыгажосці" паводле п'есы Майкла МакДонаха. Дарэчы, у мінулым сезоне Новы драматычны тэатр стаў першаадкрывальнікам імя і творчасці гэтага сусветна вядомага сучаснага ірландскага драматурга для беларускай публікі.

Магілёў рыхтуецца прыняць V Міжнародны маладзёжны тэатральны форум "М.арт.кантакт". Плануецца, што з 21 па 27 сакавіка тут пройдзе 14 спектакляў з 6 краін: Беларусі, Літвы, Малдовы, Польшчы, Расіі, Украіны. Прадугледжана конкурсная праграма: яе ацэніць міжнароднае журы, у яго складзе будуць працаваць знаныя мастацтвазнаўцы, тэатральныя крытыкі, драматургі.

Подых абуджанай прыроды прынесла ў сталічную мастацкую галерэю "Універсітэт культуры" выстаўка пад назвай "Вясновая сесія". Работы, прадстаўленыя тут пятнаццацю студэнтамі і двума выкладчыкамі БДУ культуры і мастацтваў, нібы ўвабралі ў сябе святлынь беларускіх краявідаў, пяшчотны подых майскіх садоў, маляўнічасць кветкавага кілімy, сагрэтага сонцам, гармо-



нію радасці жыцця, шчырасць творчай душы... Нібы нябачнымі промнямі працятыя фарбы на ўсіх гэтых прыгожых карцінах і дэкаратыўных шалях: такі эфект стварае тэхніка гарачага або халоднага батыку. Менавіта студэнты майстэрні батыка кафедры народнага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва БДУКіМ разам са сваімі кіраўнікамі — педагогамі Людмілай Дамнянковай ды Лідзіяй Катлярскай наладзілі такую мажорную і кранальную "Вясновую сесію".

Лана ІВАНОВА

На здымках: сцэна са спектакля "Каралева прыгажосці"; работа Таццяны Майсейчыкавай "Я пасадзіла дрэва" (шоўк, батык, змяшаная тэхніка).

Фота Віктара Кавалёва
і Аляксандра Дзмітрыева

Знаёмства чытачоў "ЛіМа" з маладзёжным камерным хорам "Salutaris" Беларускага саюза музычных дзеячаў адбылося ў красавіку мінулага года. З тае пары калектыў неаднаразова быў удзельнікам разнастайных творчых праектаў і канцэртаў харавой музыкі, што сведчыць пра яго надзвычай актыўную дзейнасць і ўлучанасць у цэнтр культурнага жыцця краіны.

# Гарачая была зіма

Увагу да творчасці калектыву і яго таленавітага кіраўніка Вольгі Янум выказваюць аматары класічнага і сучаснага напрамкаў у харавым мастацтве як у нашай краіне, так і па-за яе межамі. Увага гэтая выявілася і ў лавіне запрашэнняў да ўдзелу ў зімовых імпрэзах, канцэртах, запісах на радыё і тэлебачанні. Можна з упэўненасцю сказаць, што для камернага хору "Salutaris" пачатак 2010 года атрымаўся насамрэч гарачы.

Прыгадайма святочныя падзеі з удзелам калектыву.

Трэцяга студзеня "Salutaris" узяў удзел у праваслаўным кірмашы "Раство Хрыстова" і выканаў калядныя і народныя песні, якія гэтак падабаюцца многім з нас. Пасля кароткага канцэрта ўражаныя слухачы рушылі да сцэны, каб пагутарыць з удзельнікамі калектыву і выказаць свае падзяку і захапленне, аднак "Salutaris" ужо спяшаўся на іншую сустрэчу. Увечары таго ж дня на прыходзе ў гонар іконы Божай Маці "Усіх тужлівых Радасць" адбыўся відэазапіс калядных твораў для тэлеканала "Союз" — такім чынам наўздзіў светлы і чысты спеў маладзёжнага хору стаў падарункам не толькі для мінчукоў, але і для ўсіх аматараў харавога мастацтва на прасторы СНД.



Восьмага студзеня ў жывым эфіры радыё "Мир" гучалі кампазіцыі ў выкананні хору "Salutaris". У гутарцы з дырыжорам хору Вольгай Янум, яго выканаўчым дырэктарам Дзянісам Жыгуновым і сцэнічным дырэктарам Таццянай Александровіч вядучы праграмы "Мірная размова" Дзмітрый Смірноў спрабаваў высветліць, у чым сакрэт поспеху калектыву, што вабіць ахвочых яшчэ і яшчэ наведваць яго канцэрты.

"Кожны наш канцэрт, — кажа Вольга Янум, — гэта адкрыццё. Мы хочам, каб слухач адкрыў для сябе харавую музыку як унікальны, дзівосны від мастацтва і палюбіў яе". Асноўны рэпертуар хору складае духоўная музыка розных кірункаў, "Salutaris" таксама выконвае кампазіцыі сучасных айчынных і замежных аўтараў. Адна з адметных рыс — прага дырыжора і кожнага з выканаўцаў да новага, да эксперыментаў у падборы твораў, у манеры выканання, што робіць канцэрты хору незабыўнымі і дазваляе слухачам пазнаёміцца з музыкай, якую не пачуеш сёння ў выкананні ніякага іншага калектыву.

"Людзі столькі часу бавяць разам, але не стамляюцца адно ад аднаго," — са здзіўленнем і павагай заўважае Дзмітрый Смірноў. Насамрэч, унікальны ўнутраны лад гэтай спеўнай суполкі, станоўчую энергію і аптымізм, што выпраменьваюць выканаўцы, нельга растлумачыць. І нельга не паддацца чарадзейству гэтых празрыстых гукаў, светлых паглядаў і пранікнёных слоў. "Salutaris — гэта унікальны хор, — задаволена ўсміхаецца Вольга Янум. — Усе стасункі тут носяць нематэрыяльны характар. Гэта хор абсалютных фанатаў харавых спеваў".

Прасветленая ўзнёсласць свята Раства Хрыстова сталася духоўнай дамінантай калядных канцэртаў калектыву — двух кароткіх выступленняў у Цэнтры асветы і міласэрнасці Беларускага Экзархата і Доме міласэрнасці, а таксама двух сольных канцэртаў: у Архікатэдральным касцёле Найсвяцейшай Дзевы Марыі і ў Тарасаве, у храме Раства Прасвятой Багародзіцы. Неабходна адзначыць, што на апошнія два канцэрты ўваход быў бясплатны, што стала своеасаблівым падарункам для прыхільнікаў хору, а таксама сведчыла пра тое, што "Salutaris" не забываецца на дабрачыннасць і міласэрнасць.

Заключным акордам у гарачым студзеньскім раскладзе камернага хору "Salutaris" прагучалі духоўныя песняспевы, выкананыя на вечарыне рускай музыкі, прысвечанай 10-годдзю школы званароў, у Белдзяржфілармоніі. Напярэдадні — удзел у паўторным выкананні оперы Г. Пёрсела "Дзідона і Эней", сольныя канцэрты, выступленні на міжнародных конкурсах і фестывалях, запіс унікальнага беларускага альбома і шмат іншых яскравых планаў, здзяйсненне якіх чакаюць усе, хто знаёмы з творчасцю маладзёжнага хору "Salutaris".

Вольга ШЫМАНСКАЯ

# Пачуем срэбны звон



Асацыяцыя беларускіх цымбалістаў (АБЦ) Беларускага саюза музычных дзеячаў рыхтуецца да сваёй галоўнай падзеі года — Форуму цымбалістаў "Срэбны звон цымбалаў". Пачынаючы з 1998 года, рэспубліканскія фестывалі пад гэтай назвай праходзілі кожныя два-тры гады з нязменным поспехам і адзначаліся масавасцю, творчай актыўнасцю ўдзельнікаў, ператвараліся ў сапраўдныя святы нацыянальнага мастацтва. Безумоўна, яны спрыялі развіццю і ўдасканальванню выканальніцкага і педагагічнага майстэрства шматлікіх прадстаўнікоў беларускай цымбальнай школы. Прыйшоў час выйсці за гэтыя межы і прадэманстраваць свае дасягненні ў міжнародным асяроддзі.



Такім чынам, 25 — 28 сакавіка ў Маладзечне адбудзецца адкрыты Форум цымбалістаў "Срэбны звон цымбалаў" з удзелам музыкантаў з Латвіі, Літвы, Малдовы, Расіі, Украіны. Як заўсёды, ахвочых узяць удзел у гэтым прэстыжным праекце больш чым дастаткова. Таму ў Беларусі прайшлі адборачныя туры, арганізаваныя рэгіянальнымі аддзяленнямі АБЦ сумесна з органамі культуры і адукацыі: праслухоўваліся салісты і ансамблі музычных вучылішчаў, каледжаў, дзіцячых музычных школ і школ мастацтваў, сярэдніх школ з музычным напрамкам. Была, як заўсёды, вялікая колькасць удзельнікаў, і яны звярнулі на сябе ўвагу высокім узроўнем падрыхтоўкі. Дастаткова сказаць, што ў Мінску на гарадскі фестываль-конкурс ад сярэдніх школ з музычным напрамкам былі пададзены 53 заяўкі, і журы пасля двухдзённага адборачнага праслухоўвання рэкамендавала ў фінал 27 удзельнікаў. У сваю чаргу, фінал прадэманстраваў настолькі высокі ўзровень юных прэтэндэнтаў, што журы з прадстаўленых 57 удзельнікаў ад ДМШ, ДШМ і СШ не без шкадавання пакінула 13: пяць салістаў і восем ансамбляў.

Наогул жа, 25 сакавіка ў Маладзечне збяруцца больш як 200 чалавек, адданых свайму любімаму інструменту. Што ў праграме форуму? Справаздачна-выбарная канферэнцыя АБЦ, канцэрты, майстар-класы, конкурс юных цымбалістаў. Мы сочым за працягам гэтай значнай падзеі і абавязкова раскажам пра яе чытачам "ЛіМа".

Наталля ВІТЧАНКА

На здымках: ансамбль "Васількі" гімназіі № 10; Яніна Шушкевіч, вучаніца СШ № 99; цымбалісткі СШ № 4.



Сябры! На вашы пытанні, якія датычаць падрыхтоўкі матэрыялаў для гэтай старонкі, адкажа першы намеснік старшыні праўлення Беларускага саюза музычных дзеячаў Наталля Васільеўна ВІТЧАНКА.
Тэлефоны: (017) 222-37-33 — працоўны; (029) 507-55-05 — МТС; (029) 699-32-00 — Velcom.

# Брава, хлопцы!



Усё пачалося 40 гадоў таму. Тады Ігар Жураўленка стварыў у Рэспубліканскім ліцэі пры Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі (цяпер Беларуская дзяржаўная акадэмія музыкі) унікальны хор хлопчыкаў. Сёння выхаванцы гэтага калектыву працуюць амаль ва ўсіх дзяржаўных харавых калектывах краіны, выкладаюць у дзіцячых, сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных установах, спяваюць у вакальных ансамблях "Чысты голас" і "Камерата", у Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета Беларусі. Іван Касцяхін — дырыжор НАВТа, Андрэй Лапцёнак — намеснік генеральнага дырэктара Белдзяржфілармоніі таксама з ліку харавікоў-ліцэістаў.

У студзені 2006 г. пры Беларускім саюзе музычных дзеячаў была створана Асацыяцыя кіраўнікоў хароў хлопчыкаў і юнакоў, у якую ўвайшлі энтузіясты, улюбёныя ў харавыя спевы. Яны паставілі мэту абʼяднаць намаганні ў развіцці дзіцячай і маладзёжнай творчасці, у фарміраванні духоўнага патэнцыялу прадстаўнікоў новых пакаленняў, патрыятычнага светапогляду на аснове любові да сусветнай і нацыянальнай музычнай культуры.

Праз два гады на базе асацыяцыі ў Малой зале імя Р. Шырмы прадзюсерскім цэнтрам "Класіка" БСМД быў арганізаваны абанемент "Спяваюць хлопчыкі". У абанементных канцэртах выступалі хоры хлопчыкаў і юнакоў не толькі Мінска, але і госці з іншых гарадоў нашай краіны. Кожны канцэрт завяршаўся песняй, якую рыхтавалі ўсе яго ўдзельнікі. Так паступова фарміраваўся зводны рэпертуар.

І вось надышоў 2010 год — год 65-годдзя Вялікай Перамогі над фашызмам, год заканчэння Другой сусветнай вайны. Да гэтай даты калектывы асацыяцыі падрыхтавалі спецыяльную праграму — "Песні вайны — песні Перамогі". У нядаўнім канцэрце ўдзельнічалі 10 хароў. Пачаўся гэты філарманічны вечар хвілінай маўчання ў памяць пра мільёны загінулых за наша светлае і мірнае неба… Першым спяваў малодшы хор хлопчыкаў Рэспубліканскай гімназіі-каледжа пры Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі пад кіраўніцтвам Юрыя Казакевіча. Прагучалі песні "Арлёнак", "Стары марш", "Казакі ў Берліне". Затым адбыліся выступленні хароў хлопчыкаў "Красавік" СШ № 13 (мастацкі кіраўнік Таццяна Сільчанка), "Крылы" СШ № 115 (мастацкі кіраўнік Вольга Тарасава), "Славія" (мастацкі кіраўнік Алена Славінская), зводнага хору "Галасы сяброў" Дзіцячай школы мастацтваў і гімназіі № 10 (мастацкія кіраўнікі Аляксандр і Марыяна Драбышэўскія), узорнага хору "Ветразь" ДМШ № 2 (мастацкі кіраўнік Святлана Савельева), ансамбль хлопчыкаў "Солерс" ДМШ № 8 (мастацкі кіраўнік Лізавета Папова), юнацкага вакальнага ансамбля "Каравела" Мінскага гарадскога Палаца дзяцей і моладзі (мастацкі кіраўнік Анатоль Варлахін), узорнага хору "Салоўка" СШ № 133 (мастацкі кіраўнік Андрэй Кунцэвіч). Выконваліся такія вядомыя і любімыя творы, як "Эх, дарогі" А. Новікава, "Салаўі" В. Салаўёва-Сядога, "Хатынь" І. Лучанка і інш.

Паўтары гадзіны без перапынку адзін хор змяняў наступны. У зале панавала атмасфера свята. А калі пачалі гучаць зводныя песні ў 200 галасоў хлопчыкаў, усе зразумелі, што нарадзіўся новы калектыў: зводны хор хлопчыкаў і юнакоў Беларускага саюза музычных дзеячаў. Брава!

Валерый УКОЛАЎ,
арт-дырэктар прадзюсерскага цэнтра "Класіка" Беларускага саюза музычных дзеячаў

Фота аўтара




## Слова краязнаўцы



Ілья ЯНУШ з Лепеля знаёміць з краязнаўчымі поспехамі калег-землякоў:

— Валерый Тухта, настаўнік гісторыі Слабадской сярэдняй школы. Ён стварыў вучнёўскі краязнаўча-патрыятычны гурток "Нашчадкі". Яго ўдзельнікі даследуюць месцы баявых дзеянняў у Вялікую Айчынную вайну, выяўляюць захаванні чырвонаармейцаў, партызанаў. Ужо адшуканыя дзевяць такіх месцаў. А па ініцыятыве гуртка з удзелам 59-га Асобнага спецыяльнага пошукавага батальёна Мінабароны перазахаваныя 29 салдат.

Краязнавец Васіль Шкіндзер жыве ў вёсцы Вялікі Поўсвіж. Займаецца прадпрымальніцкай дзейнасцю, а ў вольны час любіць вандраваць. Яшчэ студэнтам ён хадзіў у пешыя і лыжныя паходы. Цяпер Васіль даследуе мінуўшчыну нашага краю. Дапамагаў археолагам праводзіць раскопкі курганоў у Валосавічах, на востраве Лепельскага возера адшукаў некалькі манет XVI ст. Ён сабраў багатую калекцыю прадметаў даўніны. Гэта старыя фотаапараты, гадзіннікі, самавары…

Вялікім энтузіястам турыстычна-краязнаўчай працы з вучнямі з'яўляецца настаўнік фізкультуры Лепельскай СШ № 1 Валерый Булах. Ён — удзельнік шматлікіх паходаў, падарожжаў з дзецьмі. Падчас двухдзённага велапрабегу з Лепеля ў вёску Гогалеўка Чашніцкага раёна (90 км) зрабіў некалькі адкрыццяў. За тры кіламетры ад Лепеля ў хмызняку агледзеў Святы камень, на якім бачны адбіткі слядоў чалавечых ступняў і лап жывёл. Побач з вёскай Гогалеўка адшукаў вялізны Змееў камень, каля Двор-Таронкавічы – помнік архітэктуры канца XIX — пачатку XX ст. — панскі бровар.

Самым вопытным краязнаўцам з'яўляецца журналіст Уладзімір Шушкевіч. Разам са сваімі сынамі, сябрамі прайшоў, праехаў, а найчасцей пешшу пераадолеў тысячы кіламетраў. Са школьнай пары ён прымаў удзел у разнастайных паходах і экскурсіях. А сістэматычным вывучэннем роднага краю заняўся толькі ў 1986. Наш зямляк прайшоў ад вытокаў да вусцяў амаль усіх буйнейшых мясцовых рэчак, даследаваў азёры, гідратэхнічныя збудаванні былой Бярэзінскай воднай сістэмы, населеныя пункты. На працягу двух гадоў здзейсніў па перыметры абход адміністрацыйнай мяжы Лепельскага раёна. Усё пачутае, даследаванае занатоўвае ў падарожны дзённік, які, трэба спадзявацца, складзе ў асобную кнігу.

## Паставазнаўства — у кожную школу



Свет пабачыла кніга краязнаўцы Ігара Пракаповіча "Чароўны край — Пастаўшчына: гісторыка-краязнаўчы курс "Паставазнаўства".

Кніга падзелена на тэмы. "Мой родны край — Пастаўшчына", прысвечана геаграфіі раёна. "Мінулае і сучаснасць" — нарыс пра гісторыю раёна. У "Матэрыяльнай і духоўнай спадчыне" распавядаецца пра легенды і паданні, традыцыі рэгіёна. У раздзеле "Я спадчыну ад продкаў атрымаў" аўтар заахвочвае вучняў да вывучэння гісторыі свайго роду і свайго краю і дае парады ў гэтай справе. Адрасуецца выданне вучням, настаўнікам, студэнтам — усім, хто цікавіцца краязнаўствам.

Дзмітрый БЕРАЖНЫ

Як паведамлялася ўжо ў папярэднім выпуску рубрыкі "Зямля пад белымі крыламі", надрукаваныя ў студзеньскім і лютаўскім нумарах часопіса "Беларуская думка" вытрымкі з пятай главы рукапісу Яўсея Канчара "З гісторыі Грамадзянскай вайны ў Беларусі ў 1917 — 1920-х гг." выклікалі значны рэзананс. І гэта зразумела: упершыню друкуецца сведчанне ўдзельніка пра абставіны склікання, працы і разгону Усебеларускага з'езда ў снежні 1917 года, пададзены запісы гутарак Канчара з Леніным і Сталіным. Працу над рукапісам Я. Канчар пачаў па "гарачых слядах" і ўжо ў 1918 годзе рыхтаваў да друку біябібліяграфічны слоўнік беларускіх літаратараў і навукоўцаў, гісторыю класавай, нацыянальнай і рэлігійнай барацьбы, грамадскіх нацыянальных і рэвалюцыйных рухаў беларусаў са старажытных часоў да сучаснасці. Ён імкнуўся быць не толькі сведкам, але і летапісцам, архіварыусам падзей, у якіх яму было наканавана ўдзельнічаць.

Прапануем увазе чытачоў "ЛіМа" фрагменты з трэцяй главы, якая мае назву "Кароткі агляд беларускіх нацыянальных грамадзянскіх і ваенных арганізацый мясцовага апорна-выканаўчага характару", пад якімі аўтар разумеў не палітычныя партыі (называў партыі арганізацыямі дырэктыўнага характару), а грамадскія арганізацыі. У асобным раздзеле "Грамадзянскія арганізацыі" Я. Канчар прывёў даволі падрабязныя звесткі пра 12 з іх, што дзейнічалі ў Маскве, Магілёве, Віцебску, Гельсінгфорсе, Кіеве, Адэсе, Петраградзе. Праца Я. Канчара багатая на унікальныя факты, але вельмі суб'ектыўная, патрабуе ўважлівага каментарыя, выпраўлення недакладнасцей, фактычных памылак. Некаторыя ўдакладненні ўжо зроблены публікатарам непасрэдна ў тэксце і ўзяты ў дужкі, пазначаны ініцыяламі В.С. Тэхнічныя памылкі аўтара (напісанне прозвішчаў, ініцыялаў) выпраўляліся без агаворак.

Віталь СКАЛАБАН

# Беларусь абуджаная

## Грамадзянскія арганізацыі 1917 — 1920 гг.



Яўсей Канчар у Сочы (1967 год).



Дарчы надпіс на адваротным баку здымка.

Маскоўская беларуская народная грамада (МБНГ). Узнікла 22 (9).4.1917 г. у Маскве з ініцыятывы Маскоўскай арганізацыі Беларускай сацыялістычнай грамады з наданнем ёй знарокава несацыялістычнага характару. Аб'ядноўвала элементы ад правых нацыянал-дэмакратаў да правых нацыянал-сацыялістаў. Абапіралася на бежанскія масы, якія, як ужо адзначалася, у вялікай колькасці размяшчаліся ў цэнтральных губернях вялікарускіх, украінскіх, паўднёва-ўсходніх і сібірскіх. Праз гэта яе пранікненне ў іншыя гарады мела свае аддзелы ў Туле, Калузе, Тамбове, Саратаве, Оршы, Жыздры, Таржку, Беляве і некаторых іншых гарадах з бежанскім насельніцтвам. У цэнтры найбольш актыўнае ядро: Васілевіч, Дружылоўскі, Брайцаў, Перавой, Рудзяк, Вакусевіч, святар Карчынскі, святар Вінаградаў, Нікіцюк, святар Мітрапольскі, Цвікевіч, святар Укоўскі (прадзед музыканта Андрэя Макарэвіча. — В.С.), Дзяшук, Сычоў, Бурбіс, Місан, Дыла, Бонч-Асмалоўскі, Бадунова, Прушынскі (Алесь Гарун), Крэйдзіч, Пічэта. Усяго налічвалася членаў у цэнтры да 120 чалавек, у аддзелах — да 320 чалавек. У грамадскіх адносінах члены ўяўлялі сабой буржуазную і дробнабуржуазную інтэлігенцыю: чыноўнікаў, настаўнікаў, выкладчыкаў вышэйшай школы, пісьменнікаў, артыстаў, святароў, афіцэраў, уласнікаў і інш. У аддзелах Грамады былі сяляне і рабочыя. МБНГ ставіла наступныя мэты: а) аб'яднанне беларусаў на глебе нацыянальна-дэмакратычнага адраджэння; б) абарона беларускіх краёвых інтарэсаў перад урадам і суседнімі народнасцямі; в) стварэнне тэрытарыяльна-дзяржаўнай аўтаноміі Беларусі; г) спрыянне ў распрацоўцы закона і правіл землеўладкавання і землекарыстання ("зямельнай культуры"); д) спрыянне развіццю краёвага промыслу і гандлю; е) абарона і ахова гістарычных помнікаў і твораў мастацтва; ж) спрыянне развіццю і распаўсюджванню асветы грамадзян; з) аказанне розных відаў дапамогі грамадзянам-беларусам.

За час свайго існавання МБНГ правяла два з'езды Маскоўскай беларускай калоніі і бежанцаў-беларусаў, размешчаных у цэнтральных губернях, прымала ўдзел у другім, трэцім і чацвёртым з'ездах на сесіях БНЦ у Мінску, а таксама ва Усебеларускім дэмакратычным з'ездзе 28 (15) — 31 (18). 12.1917 у Мінску. Акрамя таго, МБНГ займалася ўладкаваннем вечарын, лекцый і пасрэднічала па розных пытаннях паміж урадавымі ўстановамі і бежанцамі. Намагалася ўзяць у свае рукі ўсю бежанскую справу беларусаў, але ЦК па бежанскіх справах на гэта не пайшоў. Прыняла ўдзел у выбарах ва Устаноўчы сход, блакуючыся з расійскімі эсэрамі. Яе кандыдаты ва Устаноўчы сход: А. Цвікевіч, Прушынскі (Алесь Гарун), І. Васілевіч, Ф. Турук, В. Пятроўскі, О. Кісель. Арыентацыя выразна агульнарасійская, буржуазна-дэмакратычная, федэратыўная. На гэтай глебе МБНГ не карысталася даверам з боку БНЦ і ЦБВР. Пасля кастрычніцкага перавароту заняла арыентацыю незалежную, што выявілася ў яе дэкларацыі з нагоды мірных перамоў Саветаў у Брэст-Літоўску. Дала для БНЦ некалькі дзейсных працаўнікоў, у тым ліку махровага контррэвалюцыянера А. Цвікевіча і яго санча панса Васілевіча. Характэрна, што Цвікевіч да Усебеларускага дэмакратычнага з'езда, то бок да паловы снежня 1917 года, знаходзіўся ў апазіцыі да БНЦ па пытанні абвяшчэння БНР і карыстаўся ў мінскіх нацыяналістычных колах недаверам. Як старшыня МБНГ Цвікевіч у гэтым пытанні выражаў меркаванне сваёй арганізацыі і сваё асабіста. Распалася ў пачатку 1918 года, прычым яе члены разышліся па іншых беларускіх арганізацыях.

Магілёўская беларуская народная грамада (МгБНГ). Арганізавана 3.5 (20.4).1917 г. у г. Магілёве з ініцыятывы рэдактара і выдаўца газеты "Могилевский весник" М.С. Кахановіча, членам Беларускага нацыянальнага цэнтра ў Мінску. Мела свае ячэйкі ў Гомелі, Оршы, Рагачове, Чавусах. Аб'ядноўвала ад правых нацыянал-дэмакратаў да правых нацыянал-сацыялістаў. Шукала падтрымкі сярод дробнай і сярэдняй беларускай буржуазіі. Цэнтральнае ядро: І. І. Рэут, Д. І. Даўгяла, В. К. Кміта, М. К. Кажамяка, В. Я. Какашынскі, М. С. Кахановіч, ксёндз Дэнат-Лапошка, Я. С. Аляхновіч, Я. І. Плябанская, А. Л. Прэферансаў, Н. Н. Раманкевіч, І. А. Сербаў, І. Няцецкі. Усяго налічвала 80 чалавек у цэнтры і да 130 чалавек у мясцовых ячэйках. Ставіла сваёй мэтай: а) беларускае нацыянальнае, культурнае і буржуазна-дзяржаўнае адраджэнне; б) беларуская дзяржаўна-тэрытарыяльная аўтаномія ў складзе Расійскай дэмакратычнай федэратыўнай рэспублікі; в) удзел у выбарах ва Усерасійскі ўстаноўчы сход; г) культурны і матэрыяльны пад'ём культурных мас Беларусі.

МгБНГ прымала ўдзел на другім, трэцім і чацвёртым з'ездах Беларускага нацыянальнага цэнтра ў Мінску, дзе нязменна быў старшынёй Кахановіч. Удзельнічала таксама ва Усебеларускім дэмакратычным з'ездзе 28 (15) — 31 (18). 12.1917 г. Арыентацыя агульнарасійская буржуазна-дэмакратычная федэратыўная, а пасля кастрычніцкага перавароту — антысавецкая, незалежніцкая. Абставіны ў Магілёве і губерні не спрыялі поспеху яе дзейнасці. Найбольш важныя ўсходнія стратэгічныя цэнтры губерні знаходзіліся ў руках рускіх вайсковых частак, у самім Магілёве знаходзіўся штаб Галоўнакамандуючага ўзброенымі сіламі Расіі, а пасля Карнілаўскага паўстання па ўсіх гарадах і чыгуначных вузлах размясціліся польскія легіёны, якія адразу абурылі супраць сябе ўсё насельніцтва. Пры наяўнасці гвалту і бясчынстваў польскіх легіёнаў у дачыненні да беларусаў на іх глядзелі як на агентуру. МгБНГ распалася ў 1918 годзе.

Віцебская беларуская народная грамада (Віцебскі беларускі народны саюз) (ВБНГ). Арганізавана 16.(3) 5.1917 г. у Віцебску з ініцыятывы У. К. Стукаліча і доктара Ф. І. Грыгаровіча. Аддзелаў і ячэек на месцах не мела. Аб'ядноўвала правых дэмакратаў і правых народных сацыялістаў краёвага (беларускага) ухілу. Асноўнае ядро: Палонскі, Грыневіч, Бялыніцкі-Біруля, Мялешка, Дашкевіч, святар Гусарэвіч, В. Панятоўскі, Стукаліч, Збіткоўскі, Петухоў. Усяго налічвала членаў да 120 чалавек. У грамадскіх адносінах члены ўяўлялі дробную і сярэднюю буржуазію і буржуазную інтэлігенцыю: домаўласнікаў, саматужнікаў, арандатараў, кулакоў, урачоў, выкладчыкаў, афіцэраў, святароў, чыноўнікаў і інш. ВБНГ ставіла сваёй мэтай: а) аб'яднанне беларусаў на нацыянальна-дэмакратынай глебе; б) абарона матэрыяльных і духоўных патрэб насельніцтва краю; в) народная асвета на роднай мове; г) аўтаномія краю на правах шырокага самакіравання з рускай мовай у якасці дзяржаўнай; д) падрыхтоўка выбараў ва Усерасійскі ўстаноўчы сход, які адзін павінен вырашыць усе дзяржаўныя, прававыя, эканамічныя і нацыянальныя пытанні.

На працягу ўсяго існавання ўвесь час "лявела", прычым ад яе адыходзілі крайнія правыя і русафільскія элементы. Тым не менш, дзякуючы сваёй русафільскай і агульнарасійскай арыентацыі, якая захавалася на ўвесь час, ніколі не карысталася даверам з боку БНЦ у Мінску. Яе дэлегаты з другога з'езда Беларускага цэнтра пакінулі залу, маючы супярэчнасці па ўсіх пытаннях праграмы і тактыкі з'езда, на трэцім з'ездзе прадстаўнікі абмежаваліся простым назіраннем, на чацвёртым – занялі пазіцыю супраць усіх беларускіх партый. ВБНГ удзельнічала ва Усебеларускім дэмакратычным з'ездзе 28 (15) — 31 (18).12.1917 г. у Міснку. З яе шэрагаў выйшаў толькі адзін працаўнік, вядомы ў беларускім нацыянальна-буржуазным руху, — Мялешка. Распалася ў 1918 годзе.

Гельсінгфорская беларуская народная грамада (ГБНГ). Арганізавана з ініцыятывы беларусаў-маракоў Балтыйскага флоту і Гельсінгфорскага порту Н. Асіповіча, Вяржбіцкага, Сямёнава, Грыгор'ева 21.(8).7.1917 г. у Гельсінгфорсе. Аб'ядноўвала афіцэраў, ваенных, чыноўнікаў, майстроў, матросаў, бежанцаў і г.д. З першых жа крокаў выявіла дэмакратызм і рэвалюцыйнасць, якія спалучаліся з трывалымі нацыянальна-шавіністычнымі выступамі і выказваннямі. Кіруючае ядро: Н. Асіповіч, Вяржбіцкі, Семянкоў, Грыгор'еў, генерал Аляксееўскі, матросы Дулін, Муха, Васілеўскі, Язік, Косцін, Жук, Васільеў, Шмыцінскі. Мела мясцовыя партовыя і карабельныя ячэйкі. Усяго налічвала членаў да 150 – 180 чалавек. З першых жа дзён узнікнення ўвесь час "лявела", у выніку чаго змяняліся праграма і патрабаванні. Гэта адбывалася пад уплывам агульных рэвалюцыйных тэмпаў Гельсінгфорса і Свеаборга, якія ўяўлялі бурлівыя рэвалюцыйныя крыніцы Фінляндыі і Балтыйскага флоту ў 1917 г. Нагадаем, што ў адным толькі Гельсінгфорсе перад кастрычніцкім пераваротам налічвалася звыш 25 нацыянальных арганізацый, сярод якіх былі польскія, літоўскія, украінскія, латышскія, эстонскія, яўрэйскія, мусульманскія і г.д., не ўлічваючы рускіх і мясцовых, а таксама агульнарэвалюцыйных, інтэрнацыянальных. Пасля роспуску Усебеларускага дэмакратычнага з'езда 31(18).12.1917 г. перайменавалася ў Беларускую сацыял-дэмакратычную (бальшавікоў) і сацыял-рэвалюцыйную грамаду ў Гельсінгфорсе […]

(Заканчэнне на стар. 14)



# Смерць забірае лепшых…

Калі скончым шлях жыццёвы,
Нам ведаць няма патрэбы.
Навошта смерць
косіць лепшых?
Мо лепшыя Богу патрэбны?

Мікола Ільючык

3 сакавіка ў Вілейцы памёр краязнаўца Анатоль Рогач.

Анатоль Валянцінавіч быў самым дасведчаным віляйчанінам. Гэта бясспрэчна. За тыя гады, што займаўся краязнаўствам, ён напісаў сотні артыкулаў. Зрабіў дзесяткі адкрыццяў. А кніжак выдаў толькі дзве — пра электрыфікацыю Маладзечанскага рэгіёна і пра Адама Гурыновіча. Ён сціпла ставіўся да сваёй асобы. Прыярытэты былі іншымі. Для яго было самамэтай выправіць памылкі, расказаць пра белыя плямы гісторыі. Некалі запытаўся ў краязнаўцы: "Чаму кнігі не выдаеце?" А ён адказаў: "Па пэўнай тэме сабраў матэрыял. Але раптам высвятліліся новыя факты. Прыходзіцца пашыраць напрацоўкі. Абы-які матэрыял друкаваць у кніжцы не хочацца. Дасць Бог здароўя, можа і выйдзе кніжка, а мо і не адна". Здароўе, праўда, не дазволіла здзейсніць усіх планаў.

Для Валянціна Рогача не было падзялення на "правільную" гісторыю і "няправільную". Ён да ўсіх фактаў падыходзіў асцярожна. А пакуль не высветліць усё дакладна, стараўся не выказваць ніякіх версій. Не дзяліў гісторыю на сваю і чужую. Ён звярнуў увагу на тое, што на Вілейшчыне ў вёсцы Касута нарадзіўся аўтар першай украінскай канстытуцыі Піліп Орлік. І зрабіў грунтоўнае даследаванне. У выніку — у Вілейцы прайшла канферэнцыя, прысвечаная славутаму ўкраінцу, адну з вуліц горада назвалі яго імем, а ў Касуце з'явіўся памятны знак.

Прыгадваецца яшчэ гісторыя з каменем Юзафу Пілсудскаму. У 2004 годзе Пасольства Польшчы ў Беларусі атрымала ад уладаў Вілейскага раёна згоду на перанос валуна з прысвячэннем Пілсудскаму з раёна на тэрыторыю дыпламатычнай місіі ў Мінску. Але калі дыпламаты сабраліся вывезці памятны камень, то яго на месцы не аказалася. Анатоль Рогач разам з іншымі краязнаўцамі здолелі адстаяць. І камень пакінулі ў Вілейцы. "Я ўпэўнены, што калі мы будзем раздаваць гістарычныя рарытэты з нашай зямлі направа і налева, у нас нічога не застанецца", — адзначыў тады Анатоль Рогач. І сёння кожны жадаючы можа зайсці на тэрыторыю Вілейскіх раённых электрычных сетак, каб паглядзець на валун з шыльдай на польскай мове: "Маршалку Юзафу Пілсудзкаму, 1935, які даў Польшчы свабоду, межы, моц і пашану".

Пры непасрэдным удзеле Анатоля Валянцінавіча на Вілейшчыне паўсталі памятныя знакі мастакам Нікадзіму Сілівановічу і Льву Альпяровічу, пісьменнікам Ігнацыю Ходзьку і Эдуарду Жалігоўскаму, Адаму Гурыновічу і Тарасу Шаўчэнку, дзяржаўнаму дзеячу Пятру Машэраву, паўстанцам 1863 года, забітым царскімі войскамі… Імёны землякоў пачалі насіць вуліцы горада. А колькі яшчэ засталося ў задумах…

Цяпер, калі гэтага рупліўцы на ніве краязнаўства не стала, абавязкам сяброў і калег Анатоля Валянцінавіча застаецца выдаць кнігу яго прац. Вядома, што ўсё выдаць за адзін раз складана, ды і часу на падрыхтоўку пойдзе шмат. Хаця б сабраць разам выбраныя краязнаўчыя артыкулы з "Рэгіянальнай газеты" і газеты "Шлях перамогі", на старонках якіх краязнаўца рэгулярна выступаў са сваімі адкрыццямі. Сёлета Вілейка будзе адзначаць свой юбілей. Дзякуючы пошукам Анатоля Рогача ўдалося высветліць больш даўнюю дату першага ўпамінання горада. Мо да гэтага юбілею і зможам патрымаць у руках яго кнігу. Надта хочацца, каб тое адбылося.

Сяргей МАКАРЭВІЧ



Даведка. Анатоль Валянцінавіч Рогач нарадзіўся ў вёсцы Каралеўцы на Вілейшчыне 1 чэрвеня 1947 года. Скончыў Іжанскую сярэднюю школу. Служыў у войску. З 1967 года працаваў у Вілейскіх раённых электрычных сетках (РЭС), якія ў 1988 годзе ўзначаліў. У 1972 годзе завочна скончыў Беларускі інстытут механізацыі сельскай гаспадаркі. Акрамя краязнаўства, захапляўся шашкамі. З'яўляўся майстрам спорту па шашках па перапісцы.

На здымках: Анатоль Рогач, студзень 2010; Анатоль Рогач разам з сябрамі на адкрыцці памятнага знака роднай вёсцы Каралеўцы.

Фота аўтара

## Культура слова

# А ў нас сказалі б так…

Добра запомніўся мне апублікаваны яшчэ ў рэдагаваным Аляксандрам Твардоўскім часопісе "Новый мир" нарыс В. Беркава пра Ісландыю, запомніўся тымі старонкамі, дзе расказвалася пра беражлівае стаўленне ісландцаў да роднай мовы, якая разам з літаратурай, як піша аўтар, "цягам многіх стагоддзяў згуртоўвала народ". Калі там рыхтаваўся шматтомны слоўнік ісландскай мовы, у рэдакцыю з усіх канцоў краіны ляцелі пісьмы, званілі тэлефоны: людзі самых розных прафесій — фермеры, рыбакі, рабочыя, службоўцы, хатнія гаспадыні — спяшаліся паведаміць пра рэдкія, абыдзеныя літаратурай словы, пра забытыя ці паўзабытыя старыя тэрміны і выразы. Сам народ прыняў удзел у стварэнні слоўніка сваёй мовы, клапоцячыся пра тое, каб зберагчы яе багацці для наступных пакаленняў.

Не без зайздрасці падумалася тады: гэта ж хаця б частачку такога шанавання сваёй прыроднай мовы і нам, беларусам. Мова ж — аснова асноў нацыі.

Ды ў Беларусі, на жаль, зусім іншыя склаліся да яе адносіны. Двухсотгадовая русіфікацыя прывяла да таго, што ў нас ва ўсіх сферах жыцця запанавала мова суседняй краіны, а родная ўшчэнт занядбалася, самімі намі адсунулася на другі план, яна ўсё больш і больш падточваецца чужымі ўплывамі.

Думаецца, у гэтай сітуацыі асаблівая роля ў збераженні мовы народа належыць пісьменнікам. Па іх творах заўсёды будуць вывучаць сваю мову тыя з беларусаў, хто з розных прычын не авалодаў ёю. Таму кожны з нас павінен з усёй адказнасцю ставіцца да мовы сваіх твораў.

На практыцы ж шмат хто з нашых "майстроў слова" мала ці, скажам больш асцярожна, недастаткова дбае пра гэта. Пазамыкаўшыся ў сваіх гарадскіх кватэрах, даўно не чуючы жывой гаворкі народа, мы часта задавольваемся надта залітаратуранай, абясколернай мовай, далёкай ад народнай, лёгка паддаючыся рускамоўнай стыхіі. Гэтым самым мы разбураем беларускую мову знутры.

У сваёй Зялёнай Дуброве на Старадарожчыне, што ўваходзіла некалі ў склад Слуцкага княства, — можна сказаць, у самым цэнтры Беларусі — з маленства чую я нашу, папраўдзе багатую, вельмі каларытную і чыстую, тады яшчэ зусім не засмечаную мову. Яна назаўсёды запала ў маю памяць. І калі сёння чытаю беларускую кнігу ці слухаю наша радыё, вуха адразу ўлаўлівае фальш ва ўжыванні асобных слоў і выразаў. Не без шкадавання заўважаю, як мы ўсё далей адыходзім ад жывой народнай гаворкі, засмечваючы Богам дадзеную нам мову чужароднымі элементамі — русізмамі, паланізмамі і штучнымі, не характэрнымі ёй, а таму незразумелымі людзям "наватворамі" тыпу "мінакі", "чалец" і г.д.

Ад такога засмечвання перасцерагалі і класікі. Яны заклікалі глыбей вывучаць мову свайго народа, у якой "ёсць усё". Тым пісьменнікам, якія бяздумна цягнуць у свае творы розныя запазычанні ці не ўлацівыя нашай мове навацворы, Якуб Колас раіў спачатку "добра абшнарыць кішэні сваёй памяці, перагледзець слоўнікавыя і фальклорныя крыніцы, прыслухацца да жывой гаворкі — а можа, і знойдзецца якраз тое, што неабходна, што ўжо ўжывалася і чамусьці забыта ці ўжываецца і невядома нам".

Калі сустрэну ў друку які-небудзь чужародны выраз ці слова, пачынаю ўспамінаць, як жа ў гэтым выпадку скажуць у нас. Падаю тут толькі асобныя прыклады. Магчыма, нешта будзе тут спрэчнае. Але, думаю, мовазнаўцам, ды і не толькі мовазнаўцам, не лішне будзе ўзяць пад увагу тое, як казалі і кажуць у народзе.

Новую лімаўскую рубрыку "Культура слова", якая будзе весціся на развароце "Зямля пад белымі крыламі", я разглядаю як працяг гаворкі пра мову, апублікаванай раней у "ЛіМе" (12 сакавіка 1993 года) пад загалоўкам "Шашаль мовы — калька".

## Перасядка

Студэнцкімі гадамі я звычайна ездзіў дадому ў сваю вёску чыгункай. У Асіповічах, гэтым буйным "чыгуначным вузле", мне трэба было перасядаць з аднаго цягніка на другі. "Калі будзе перасядка?" — пытаюся адзін у аднаго пасажыры. Яны вечна тоўпіліся ў вакзале і каля яго ў чаканні сваіх цягнікоў. І ўсюды, куды ні павярніся, чулася тады гэтае слова — "перасядка".

"Перасядка, перасядка, перасядка" — па сённяшні стаіць яно ў мяне ў вушах. Я спакойна ўжыў гэтае слова ў нейкай сваёй публікацыі. Ды от дзіва: карэктар вопытнай рукой упэўнена папраўляе яго на "перасадка". Чаму? Аказваецца, так у слоўніках! Нашы мовазнаўцы пайшлі за рускім словам "пересадка" — ад дзеяслова "пересаживаться". Але ж па-беларуску ў гэтым значэнні будзе толькі "перасядка" — ад слова "перасядаць". Раней я сустракаў гэтае слова ў нашых класікаў. Напрыклад, у Я. Брыля, у яго "У Забалоцці днее". Але потым пачалася "чыстка" мовы і ў класікаў. Вось чытаю кнігу В. Быкава "Доўгая дарога дадому": "На ўступныя экзамены ехаў цягніком, гэта быў мой першы выезд у вялікі свет, з перасядкаю ў Полацку" (Мінск, 2002, с. 35).

Як відаць, тут карэктары "далі маху" — не згледзелі гэтае "я"! Затое ў другім месцы, праз 100 з лішнім старонак, яны вылавілі ўсё ж, праклятае, выправілі "памылку": "Ехаў праз Крывы Рог, Харкаў, Гомель. На вакзалах пры перасадках было жахліва — натоўпы людзей..." Я ўпэўнены, што і тут у аўтара было з "я". На жаль, мы ўжо не можам пераправерыць, бо Васіль Быкаў, кажуць, пасля публікацыі твораў знішчыў свае рукапісы. Затое больш відавочная метамарфоза атрымалася з гэтым словам у Максіма Танка. У яго дзённіках, апублікаваных у 1996 годзе ў "Полымі" (№ 9), у запісе ад 14 мая 1956 года, я прачытаў: "Заўтра, здаецца, у Чопе, чакае нас перасядка". Але вось у 2009 годзе выходзіць 9 том "Збору твораў" Максіма Танка. Знаходжу ў ім той жа запіс. Ды замест беларускай "перасядкі" там ужо стаіць рускае "перасадка". Дабраліся, значыцца, і да Максіма Танка. Так от мы, беларусы, і чэшам сваіх класікаў, усю нашу мову пад расійскі грэбень.

На добры лад, трэба, каб у нашых слоўніках сталі два асобныя словы: "перасядка" — ад слова "перасядаць" (з месца на месца) і "перасадка" — ад слова "перасаджваць" (дрэвы, кусты, кветкі, ныркі, сэрца, пальцы…).

Кастусь ЦВІРКА

## Да ведама

# Жывы арганізм

Шараговыя носьбіты мовы, якія не разумеюць, чаму неабходны ўдакладненні да існуючага правапісу, відаць, не асэнсавалі той просты факт, што мова — гэта жывы арганізм. І гэты жывы арганізм знаходзіцца ў стане своеасаблівай дынамічнай раўнавагі ўсіх яго структурных узроўняў, якія развіваюцца, з часам змяняюцца колькасна і якасна, застаючыся складнікамі той самай моўнай сістэмы.

Нам выпала быць відавочцамі многіх змяненняў у мове і сучаснікамі знакавай для беларускай мовы падзеі — чарговага ўдасканалення правілаў арфаграфіі і пунктуацыі. Уводзенне ў дзеянне Закона Рэспублікі Беларусь "Аб Правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі", які ўступае ў сілу з 1 верасня 2010 года, павінна садзейнічаць захаванню адзіных правапісных нормаў пры карыстанні беларускай мовай. Для таго, каб забяспечыць засваенне і ўвядзенне ў практыку новай рэдакцыі правілаў беларускай арфаграфіі і пунктуацыі, неабходны дапаможныя крыніцы, распрацаваныя ў поўнай адпаведнасці з імі. Гэта, найперш, слоўнікі і падручнікі.

У самым канцы 2009 года ў выдавецтве "Народная асвета" выйшаў з друку "Слоўнік сучаснай беларускай мовы" (аўтары У. Завальнюк, М. Прыгодзіч, В. Раманцэвіч). Слоўнік падрыхтаваны з улікам новай рэдакцыі правілаў беларускай арфаграфіі і ўключае больш як 20 тыс. слоў, якія выкарыстоўваюцца ў мастацкай літаратуры, публіцыстыцы, у сферы культуры і навукі, а таксама ў навучальным працэсе.

У канцы слоўніка змешчаны два дадаткі. Першы з іх, досыць незвычайны, — "Уласныя імёны, якія ўжываюцца ў Новым Запавеце" — можна лічыць адлюстраваннем звароту постсавецкага грамадства да веры. Натуральна, што біблейны анамастыкон у беларускай мове ў часы атэізму амаль не распрацоўваўся, таму уніфікацыя напісанняў уласных імёнаў, што прыводзяцца ў Новым Запавеце (з указаннем адпаведных месцаў у Кнігах), — справа наватарская і патрэбная.

У складзе аўтарскага калектыву значыцца дасведчаны ў справах рэлігіі чалавек — кандыдат гістарычных навук, магістр тэалогіі У. Завальнюк. Дарэчы, у склад слоўніка ўвайшла значная частка лексікі з паметамі рэл. (рэлігійнае), царк. (царкоўнае). Другі дадатак "Словы і звароты ветлівасці" змяшчае традыцыйныя беларускія прывітанні, звароты, просьбы, словы падзякі, запрашэнні, пажаданні і прабачэнні.

Марына СВІСТУНОВА,
кандыдат філалагічных навук

# Беларусь абуджаная

## Грамадзянскія арганізацыі 1917 — 1920 гг.

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 12)

Гэтая шырокая праграма не паўсюль і не заўсёды вытрымлівалася яе актывістамі Мухам і Дуліным. Грамада ўдзельнічала ў другім, трэцім і чацвёртым з'ездах і ва ўсіх канферэнцыях БНЦ, а таксама ў Агульнавайсковым з'ездзе воінаў-беларусаў у кастрычніку — лістападзе, дзе займала своеасаблівую палітыку рашучасці і настойлівасці. На Усебеларускім дэмакратычным з'ездзе 28(15) — 31(18).12.1917 запатрабавала неадкладнага абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі і была падтрымана ўсёй правай часткай з'езду. Арыентацыя агульнарасійская дэмакратычная, федэратыўная да кастрычніцкага перавароту, незалежніцкая ў лістападзе-снежні 1917 г. і агульнарасійская савецкая федэратыўная ў 1918 г. У пачатку 1918 г. ГБНГ прыняла нацыянальную савецкую платформу для Беларусі, спалучаючы рэвалюцыйныя лозунгі з нацыянальнымі. Але нават пры гэтай апошняй арыентацыі працягвала адстойваць нацыяналістычныя патрабаванні. ГБНГ выконвала даволі вялікую ролю ў жыцці БНЦ, з'яўляючыся яго матроскім таранам. Таму разглядаецца і як вайсковая грамада. Пасля аддзялення Фінляндыі ад Расіі перамясцілася ў Кранштат і Петраград і расслаілася ў пачатку 1919 года.

Кіеўская беларуская народная грамада (Кіеўская беларуская арганізацыя) (КБНГ). Пра гэтую арганізацыю асабіста мне мала што вядома. Узнікла яна ў сакавіку 1917 год пасля 1-га з'езда БНЦ, які адбыўся ў Мінску, з ініцыятывы ўдзельніка гэтага з'езда і члена БНЦ, упаўнаважанага Саюза гарадоў Паўднёва-Заходняга фронту І. І. Краскоўскага, які нязменна прадстаўляў Кіеў на ўсіх з'ездах і канферэнцыях БНЦ. У лістападзе 1917 года ўжо ўяўляла сталую арганізацыю, а ў 1918 годзе з'яўлялася філіялам Рады БНР ва Украіне. Найбольш вядомыя члены: І. Краскоўскі, Забела, А. Мадзалеўскі, Ю. Камарынец, доктар П.В. Трамповіч, прафесар М.В. Доўнар-Запольскі, М. Целяпень (псеўданім М. Доўнар-Запольскага. — В. С.), Л. Леўшчанка, святар Н. Разумовіч, Я. Хлябцэвіч. Аб'ядноўвала пераважна беларускую нацыянальную інтэлігенцыю і выкладчыкаў, чыноўнікаў, афіцэраў, салдатаў, студэнтаў і г.д. У партыйных адносінах — ад правых нацыянал-дэмакратаў да правых нацыянал-сацыялістаў. КБНГ знаходзілася крыху ўбаку ад цэнтра падзей ў Беларусі прыкладна да кастрычніка 1917 года. У сувязі з украінскім нацыянальным буржуазна-дэмакратычным пераваротам і наступнай контррэвалюцыйнай вайной супраць Савецкай Расіі БНЦ наладзіў сувязь з УНЦ з мэтай стварыць саюз супраць Савецкай Расіі. КБНГ была пры гэтым пераўтворана ў палітычнае агенцтва БНЦ. Да кастрычніцкага перавароту ставіла сваёй мэтай: а) аб'яднанне беларусаў на платформе беларускага нацыянальнага дэмакратычнага руху; б) уладкаванне беларускай аўтаноміі ў межах Расійскай дэмакратычнай федэратыўнай рэспублікі; в) перадача ўлады ў Беларусі Часовай краёвай радзе; г) шырокая асвета беларускага народа і неадкладная падрыхтоўка беларускіх кадраў; д) стварэнне беларускага войска для цэласнасці аўтаномнага краю; е) неадкладныя дэмакратычныя рэформы і вырашэнне зямельных і працоўных пытанняў з мэтай далучэння сялян і рабочых да краёвага будаўніцтва; ж) усталяванне сяброўскіх адносін з украінскім народам для сумеснай працы па стварэнні ўласных аўтаномій і расійскай дэмакратычнай федэрацыі.



Пасля кастрычніцкага перавароту УЦР распачала з Савецкай Расіяй узброеную вайну з вызначанай мэтай – адкалоцца ад Расіі. Паводле дырэктывы БВР Кіеўская грамада заняла тую ж пазіцыю. У выніку гэтага патрабаваннем моманту былі абвешчаны: а) стварэнне незалежнай БНР; б) стварэнне беларускага войска; в) саюз з незалежнай УНР.

Кіеўская беларуская грамада прыняла ўдзел у арганізацыі і правядзенні з'езда воінаў-беларусаў 21(8).12.1917 г. Румынскага фронту і 4.1.1918 (22.12.1917) Паўднёва-Заходняга фронту ў Кіеве. Апошні з'езд праводзіў сам старшыня КБНГ І.Краскоўскі. У пачатку 1918 года Кіеўская грамада па дамоўленасці з Радай БНР арганізавала Беларускую гандлёвую палату (Трамповіч), Беларускае консульства ва Украіне (Краскоўскі), ваенную місію па фарміраванні беларускіх войскаў шляхам вылучэння воінаў-беларусаў з Паўднёва-Заходняга і Румынскага франтаў, так жа, як гэта рабілася польскім Вярхоўным ваенным саветам праз пасрэдніцтва сваёй місіі ў Кіеве. Пры гэтым у Беларускую ваенную місію ўвайшлі выканкамы з'ездаў Паўднёва-Заходняга і Румынскага франтаў пад кіраўніцтвам Цвікевіча і Краскоўскага. КБНГ мела культурна-асветны гурток, клуб, наладжвала вечарыны і выдавала газету "Белорусское эхо". Распалася з прыходам у Кіеў савецкай улады ў 1920 годзе.

Саюз грамадзян Гродзенскай губерні (СГГб). Арганізаваны 4.6.(22.5).1917 г. ў г. Петраградзе з ініцыятывы групы грамадскіх дзеячаў Гродзенскай губерні, эвакуіраваных падчас вайны, — Д. Мунцянава і Г. Даніловіча. Аб'ядноўваў дробную і сярэднюю буржуазію і буржуазную інтэлігенцыю. Найбольш дзейснае ядро: Даніловіч, Мунцянаў, прапаршчык Мышка, Сангін, Нічыпаровіч, Канстанчук і інш. Савет саюза быў арганізаваны па тэрытарыяльнай прыкмеце. Увайшло ў савет саюза 10 паветаў губерні і 1 тэрыторыя — цэнтральныя губерні Расіі, усяго звыш 65 членаў савета. Меў мясцовыя ячэйкі сярод бежанцаў. У грамадскіх адносінах членамі з'яўляліся: члены Дзяржаўнай Думы, чыноўнікі, настаўнікі, святары, інжынер, афіцэры, студэнты, салдаты, кулакі. Налічвалася актывістаў да 80 чалавек і членаў да 320. Афіцыйныя задачы саюза: а) усебаковая дапамога – матэрыяльная, духоўная, юрыдычная і інш.; б) найхутчэйшая рээвакуацыя і ўладкаванне на ранейшым месцы; в) аднаўленне і развіццё ў губерні сельскай гаспадаркі, прамысловасці і гандлю; г) палітычнае ўладкаванне губерні; д) удзел у выбарах ва Усерасійскі ўстаноўчы сход і правядзенне кандыдатаў ад Гродзенскай губерні.

Спачатку саюз выступаў супраць беларускага нацыянальнага руху і БНЦ у Мінску, у выніку чаго з яго выйшлі нацыяналісты (Я. Варонка і інш.). Пасля кастрычніцкага перавароту заняў палітыку чакання, а ў 1918 годзе падтрымліваў савецкую ўладу як "збіральніцу" расійскіх зямель на федэратыўных пачатках. Выдаваў свой бюлетэнь "Весці савета Саюза грамадзян Гродзенскай губерні". Для Беларусі прапаноўваў аўтаномію на аснове шырокага самакіравання ў складзе Расійскай рэспублікі. Арыентацыя рэзка агульнарасійская аўтанамісцкая. У сярэдзіне 1918 гола ліквідаваны Беларускім нацыянальным камісарыятам у Петраградзе.

Гродзенскі губернскі Цэнтральны камітэт аб'яднаных грамадскіх арганізацый (ГГЦКАГА). Узнік у канцы 1917 года ў Петраградзе ў выніку з'ездаў бежанцаў, якія адбыліся на месцах у губернях Цэнтральнай Расіі, грамадзян Гродзенскай губерні, у прыватнасці Разанскай 12.9., Тамбоўскай 26-31.8., Харскаўскай 25.10., Уладзімірскай 27.10, Ніжагародскай 1.11., Казанскай 4.11., Курскай 5.11., Сімбірскай 6.11., Уфімскай 8.11., Самарскай 10.11., Аранбургскай 12.11., Саратаўскай 15.11.1917 г. (па старым стылі). Да гэтага называўся саветам грамадскіх арганізацый Гродзенскай губерні і "харчаваўся" сокамі Усерасійскага камітэта дапамогі пацярпелым ад вайны. Ініцыятарамі стварэння Цэнтральнай арганізацыі былі А. А. Бахановіч, Е. Б. Эрбштэйн, І. А. Керсноўскі, Л. П. Волкаў, П. В. Мінкоў і інш. Меў губернскі аддзел і ўпаўнаважаных па шэрагу губерняў і вобласцяў. ГГЦКАГА налічваў 451 000 аб'яднанага бежанскага насельніцтва Гродзенскай губерні. Ставіў перад сабой мэты: а) аказанне дапамогі бежанцам і эвакуіраваным грамадзянам Гродзенскай губерні; б) падрыхтоўка і арганізацыя вяртання на месцы; в) спрыянне ў аднаўленні разбуранай гаспадаркі на месцах; г) шырокае спрыянне развіццю і ўмацаванню сярод насельніцтва Гродзенскай губерні культуры без адрознення нацыянальнасцяў; д) удзел у выбарах ва Усерасійскі ўстаноўчы сход і правядзенне кандыдатаў ад Гродзенскай губерні; д) палітычнае ўладкаванне губерні.

ГГЦКАГА прэтэндаваў быць экстэрытарыяльнай дэмакратычнай уладай губерні і далей меў намер атрымаць гэтую ўладу ў выпадку вызвалення губерні ад акупантаў. Адмоўна ставіўся да беларускага нацыянальнага руху і БНЦ у Мінску. Пасля кастрычніцкага перавароту ў дачыненні да савецкай ўлады заняў нейтральную пазіцыю. Выдаваў свой бюлетэнь "Вестник Гродненского губернского ЦК объединенных общественных организаций". Для Беларусі прапаноўваў шырокае самакіраванне. Арыентацыя выразна агульнарасійская аўтанамісцкая. У сярэдзіне 1918 года ліквідаваны БНК у Петраградзе.

Беларуская паштова-тэлеграфная грамада (БПТГ). Узнікла 18(5).12.1917 г. у Маскве з ініцыятывы паштова-тэлеграфных працаўнікоў Маскоўскага вузла: Шумякоўскага, Субачан і Вараца. Аб'ядноўвала паштова-тэлеграфных працаўнікоў-беларусаў як эвакуіраваных з Беларусі, так і тых, хто працаваў ва ўстановах паштова-тэлеграфнай сувязі Масквы і маскоўскага вузла. Найбольш дзейсныя члены: А.І. Корабач, Шумякоўскі, Супрун, Цвяткоў, Серада, Рыбак, Субач, Варац, Здановіч, Каспяровіч, Моніч і шэраг іншых. У канцы 1917 года грамада налічвала да 80 чалавек, у сакавіку 918-га — да 150, у маі 1918 — да 200 чалавек. У выканаўчы камітэт уваходзіла 25 чалавек. Ставіла перад сабой мэты: а) аб'яднанне паштова-тэлеграфных працаўнікоў-беларусаў на глебе культурнай і матэрыяльнай дапамогі; б) перавод іх на тэрыторыю Беларусі; в) развіццё паштова-тэлеграфнай сувязі ў Беларусі; г) беларусізацыя паштова-тэлеграфнай сувязі ў краі; д) эканамічны і гаспадарчы пад'ём Беларусі; е) развіццё нацыянальнай культуры беларусаў; ж) палітычнае ўладкаванне краю на аўтаномных пачатках.

Грамада прымала ўдзел ў чацвёртым з'ездзе БНЦ, ва Усерасійскім дэмакратычным з'ездзе ў Мінску, Усерасійскім з'ездзе бежанцаў з Беларусі, на канферэнцыі беларускіх арганізацый у Маскве ў 1918 годзе. З больш канкрэтных мерапрыемстваў Грамады вядомыя: праект размяшчэння ў Беларусі паштова-тэлеграфнай сеткі, пасылка ў акупіраваную частку Беларусі сваіх нелегальных эмісараў для рэвалюцыйнай працы, матэрыяльная і харчовая дапамога дзецям-беларусам у маскоўскіх дзіцячых прытулках, спрыянне ў ліквідацыі эвакуіраваных з Беларусі паштова-тэлеграных устаноў. Да лютага 1918 года знаходзілася пад уплывам ідэй БВР. 21.4.1918 г. арганізавала мітынг, дзе выступала і прыняла тэзісы даклада БНК і прымала ўдзел у працы ЦБНК (Цэнтральны Беларускі нацыянальны камісарыят, Белнацком. — В. С.) Распалася ў пачатку 1919 года.




Беларуская чыгуначная грамада (БЧГ). Арганізавана 10.2(27.1.). 1918 г. у Маскве з ініцыятывы чыгуначных працаўнікоў-беларусаў маскоўскага чыгуначнага вузла Н. Н. Перавога і І. К. Багдановіч. Аб'ядноўвала чыгуначных служачых беларусаў як эвакуіраваных з Беларусі, так і тых, хто працаваў на чыгунках маскоўскага вузла. Найбольш актыўныя члены: Н. Н. Перавой, Карэйва, Ляшчынскі, Багдановіч, Аўдзейчык, Ігнацюк, Бурак. Усяго налічвала каля 150 чалавек. Ставіла мэты: а) аб'яднанне чыгуначных працаўнікоў-беларусаў на глебе культурнай і матэрыяльнай дапамогі; б) перавод іх на тэрыторыю Беларусі; в) спрыянне аднаўленню і развіццю чыгуначнага транспарту ў Беларусі; г) шырокая асвета народных мас з улікам іх нацыянальнай культуры; д) беларусізацыя чыгункі; е) спрыянне зямельнай культуры; ж) спрыянне ў развіцці краёвага промыслу, гандлю і кааперацыі; з) стварэнне беларускай аўтаноміі.

Грамада знаходзілася ў кантакце з украінскімі, польскімі і літоўскімі нацыянальнымі арганізацыямі ў Маскве. Прымала ўдзел у работах Усерасійскага з'езда бежанцаў з Беларусі і ў канферэнцыі беларускіх арганізацый у Маскве. Прымала ўдзел у працы ЦБНК. Распалася ў пачатку 1919 года.

Адэская беларуская народная грамада (Беларуская нацыянальная рада ў Адэсе) (АБНГ). У сярэдзіне 1917 года ў Адэсе ўзнікла культурна-асветніцкае таварыства пад назвай "Гай". У таварыства ўступілі самыя разнастайныя слаі беларускага насельніцтва Адэсы і прылеглых раёнаў, а таксама афіцэры, салдаты і маракі-беларусы Румынскага фронту і Чарнаморскага флоту і беларускія жанчыны, якіх тут налічвалася да 15 тысяч. "Гай" паступова вырас у палітычную арганізацыю, якой і быў аформлены статутам 3.7.(20.6.).1918 года. У лістападзе 1917 года беларусы павялі наступ на Адэскае аддзяленне Усерасійскага камітэта дапамогі пацярпелым ад вайны, перайменаваўшы яго ў Беларускі бежанскі камітэт. Канчаткова гэтае пытанне вырашылася толькі ў сярэдзіне 1918 года, з прызначэннем старшынёй камітэта Баліцкага, прычым з камітэта выйшла велікаруская (руская) група на чале з Рудзевічам. 21(8).12.1917 года ў Адэсе адбыўся з'езд воінаў-беларусаў Румынскага фронту, дзе быў выбраны Выканаўчы камітэт ці рада воінаў-беларусаў Румынскага фронту. 19.1.1918 года канчаткова сфарміравалася "Беларуская нацыянальная рада ў Адэсе" кшталту звычайнай народнай (нацыянальнай) грамады. У якасці адміністрацыйнага органа быў вылучаны Беларускі нацыянальны камісарыят […]

У грамадзе (радзе) і ў яе камісарыяце вызначаліся наступныя актывісты: Некрашэвіч, Баліцкі, Трафімаў, Пячонкін, Казела, Касовіч, Пякарскі, Адамовіч, Янушэвіч, Мацюкевіч, Нялепка, Ляжневіч, Навуменка, Ільючонак, Пятроў, Дабкевіч, Васільеў. Усяго ў грамадзе (радзе) налічвалася звыш 500 чалавек, у радзе – да 60 чалавек, куды ўваходзілі прадстаўнікі ад воінскіх частак, ад таварыства "Гай" і ад мясцовых правінцыйных ячэек. Прадстаўніком грамады (рады) быў І. Мецеш, камісарам па першым часе быў Некрашэвіч, у красавіку 1918 года яго змяніў Трафімаў […]

Беларускае навукова-культурнае таварыства ў Маскве (МБНКТ). Арганізавана 13(1).7.1918 г. у Маскве з ініцыятывы навуковых работнікаў Масквы: Ф. Турук, С. Л. Урсыновіча, М. К. Любаўскага, Брайцава, У. І. Пічэты. Таварыства аб'ядноўвала прафесараў, дацэнтаў, выкладчыкаў, пісьменнікаў і работнікаў мастацтва Масквы, якія працавалі па пытаннях, звязаных з Беларускім краем […] У сувязі з гэтым павінен быць падкрэслены найвялікшы клопат у гэтай справе прафесара Ф. Ф. Турука. Але, як і Петраградскае БНЭТ, маскоўскае таварыства таксама існавала без усялякай фінансавай падтрымкі. На яго таксама коса глядзелі ў Мінску, як на арганізацыю русафільскую. Працавала ў кантакце з ЦБНК у Маскве, а калі камісарыят быў ліквідаваны, то было ўключана ў сістэму Наркамасветы РСФСР па аддзеле асветы нацыянальных меншасцяў. Арыентацыя рэзка ўсходняя, агульнарасійская, федэратыўная. БССР разглядалася як неаддзельная частка РСФСР […]

На здымках: Яўсей Канчар.

Публікацыя Віталя Скалабана.
Пераклад з рускай Жанны Запартыкі.

Віталь Воранаў нарадзіўся ў Мінску, узгадаваўся на Глыбоччыне, вучыўся ў Польшчы, жыве ў чэшскім горадзе Брно і не будуе планаў наконт таго, у якой геаграфічнай кропцы можа апынуцца праз некалькі месяцаў. Ён вывучае англійскую і амерыканскую літаратуры, марыць авалодаць венгерскай мовай, уласныя творы піша па-беларуску, прызнаецца, што ўлюбёны ў мілагучнасць чэшскай мовы. Паспрабаваўшы ўсяго патроху, Віталь пакуль да канца не вызначыўся, кім хоча быць — перакладчыкам, выдаўцом, навукоўцам, празаікам ці драматургам. У інтэрв'ю "ЛіМу" перакладчык "Віня-Пыха" і "У чаканні Гадо" распавядае пра ўсе свае творчыя скіраванасці і невырашальныя дылемы.

# Пад крылом белага крумкача

— Мне здаецца, такое ваша становішча моцна зніталванага з радзімай эмігранта ідэальнае для перакладчыцкай дзейнасці. Вы з дзяцінства валодаеце як мінімум пяццю мовамі, пражывалі ў розных краінах, але пры гэтым паглыбленыя ў беларускую культурную прастору, пастаянна ў ёй удзельнічаеце. А чаму ваша сям'я эмігравала ў Польшчу?

— Мае бацькі — філолагі нямецкай мовы. Калі я нарадзіўся, яны яшчэ вучыліся ў "ін'язе". Вырашылі ўсё ж дагадаваць, прыйшлося адвезці мяне да бабулі, якая сама выгадавала сямёра дзяцей, у вёску Вудзела пад Глыбокім. Першая мая мова была беларуская, не літаратурная, а менавіта дыялект, на якім размаўлялі і размаўляюць па сённяшні дзень мясцовыя жыхары. Паколькі ў міжваенныя гады касцёл быў яшчэ часткай асіміляцыйнай польскай машыны, мая бабуля вельмі добра гаварыла па-польску, адносіла сябе да польскай культуры на "крэсах усходніх". Маці валодала мовай ужо ў значна меншай ступені, але бацькі часта ездзілі ў Польшчу, ажно ўрэшце пастанавілі пераехаць туды назаўсёды. Сёння маці мае там прыватную школу, дзе выкладаюцца англійская, нямецкая і руская мовы.

Калі мы пераехалі, я ведаў толькі некалькі малітваў на польскай мове. За год, аднак, амаль дагнаў у гэтым плане сваіх польскіх аднагодкаў, з часам атрымаўшы нават пэўную перавагу, бо меў магчымасць параўнання з беларускай і рускай.

Філалагічная адукацыя аднак вучыць лінгвістычнай пакоры. Калі чую, што нехта валодае дзесяццю мовамі, ветліва ўсміхаюся ў адказ. За крайне рэдкімі выняткамі такое "валоданне" зводзіцца да простых дыялогаў у краме і на вакзале.

— Па нейкіх умоўных крытэрыях маладым літаратар у нас лічыцца да 35 гадоў (а нібыта ў 36 пачынае рэзка старэць). Але, мне здаецца, наша літаратура ўвогуле досыць інфантыльная — многія аўтары рана праяўляюцца, але надоўга загульваюцца, забаўляюцца слэмамі, тусоўкамі, нейкімі напаўсамадзейнымі вечарынамі. Вы падаецеся надта сур'ёзным, у літаратуры і ў жыцці, вам усяго 26 гадоў, па беларускіх мерках гэта ледзь не падлеткавы ўзрост. Можа, гэта з-за таго, што ў Еўропе, дзе выраслі вы, людзі рана пачынаюць працаваць, становяцца самастойнымі?

—Я з дзяцінства лічыў сябе старым чалавекам. У маіх мініяцюрах "Рэканструкцыя дзяцінства", што друкаваліся ў часопісе беларускіх пісьменнікаў замежжа "Беларус", гэта прасочваецца. Гадаваўся ў асноўным у асяроддзі пажылых людзей — маіх дзеда, бабулі і іх суседзяў, ва ўсім раўняўся на іх. У вёсцы ўжо ў той час было мала дзяцей. Прычым са мной ніколі не цацкаліся, не размаўлялі дзіцячай мовай. Таму калі я пайшоў у дзіцячы садок, мне здавалася, што там нейкія недаразвітыя дзеці, якія маюць абсалютна ненармальныя зацікаўленасці – машынкі, пясочніцы, нейкія дурнаватыя гульні. У дзяцінстве мае сябры былі гады на 3–4 старэйшыя за мяне, у студэнцкія гады я знаходзіў агульную мову з тымі, каму ўжо больш за паўвека. Відаць, таму ніколі не задаваў сабе пытанне, ці не замалады альбо не застары я для чагосьці. На Захадзе людзі ўвогуле радзей пра гэта задумваюцца.

А што да літаратурнай талакі, то я ў ёй сапраўды не ўдзельнічаю. Мне больш падабаецца роля ваўка-самотніка. Шчыра не разумею сэнсу літаратурных суполак, аб'яднанняў. Мне здаецца, яны хутчэй спрыяюць сацыяльным зносінам, што ў прынцыпе таксама мае значэнне, але ўсё ж не творчасці.

— Але пры гэтым вы ўзначальваеце згуртаванне беларусаў у Познані…

— Так. Сем гадоў таму я заснаваў Беларускі культурна-асветніцкі цэнтр у Познані. Гэтае аб'яднанне некалькі разоў за час свайго існавання мяняла профіль дзейнасці: пачыналі мы з розных асветніцкіх мерапрыемстваў сярод сваіх, пасля засяроджліся на прамоцыі беларускай культуры сярод палякаў, а цяпер дадаткова заснавалі выдавецтва "Белы крумкач" — з перспектывы часу мне здаецца, гэта самы плённы накірунак, якім эміграцыя можа займацца ў замежжы.

— Наколькі я ведаю, ваш пераклад "Віня-Пыха" быў выдадзены ледзь не цалкам на ўласныя сродкі.

— Ён на 95 працэнтаў быў ажыццёўлены за ўласны кошт. Цікавы досвед: я быў і перакладчыкам, і рэдактарам, удзельнічаў у стварэнні макета, дызайну, пашырэнні выдання ў Беларусі і шмат якіх іншых краінах. Кніга, што выйшла досыць вялікім для Беларусі накладам у 2000 асобнікаў, прадаецца надзвычай хутка. Цяпер я заканчваю другую частку прыгодаў Віня-Пыха і спадзяюся, што неўзабаве абедзве часткі будуць выдадзеныя пад адной вокладкай школьным правапісам, каб кніжка стала яшчэ больш даступнай.

— Апошнім часам з'явілася цэлая хваля новых перакладаў на беларускую мову сусветна вядомых твораў для дзяцей — "Піпі Доўгая Панчоха" Зміцера Плакса, "Карлсан-з-даху" Юрася Жалезкі, "Аліса ў Залюстроўі" Максіма Шчура і Веры Бурлак, "Халоднае сэрца" Альгерда Бахарэвіча, ваш "Віня-Пых". Як можна патлумачыць такое абуджэнне? Можа, вырасла пакаленне перакладчыкаў, якія ўзяліся за перастварэнне любімых з дзяцінства кніжак? Альбо проста такім чынам запаўняецца недахоп уласна беларускіх казачных персанажаў?

— У Беларусі ў сферы перакладаў яшчэ з савецкіх часоў цягнецца некалькі праблем. Асноўная — няведанне замежных моў. Як ні дзіўна, той жа англійскай мовай, якая ўжо шмат дзесяцігоддзяў лічыцца лінгва-франка, дагэтуль мала хто валодае ў такой ступені, каб перакладаць літаратуру. Трохі лепш, па вядомых прычынах, было з нямецкай. А вось з французскай, іспанскай, партугальскай ці іншымі неславянскімі мовамі, за рэдкім выняткам, увогуле слаба. Другая праблема — пытанне аўтарскіх правоў, бо ў Еўропе яно заўжды актуальнае, а ў Беларусі мала хто ведае, як яго вырашаць з-за таго, што застаецца пэўная прававая недагаворанасць. Нашыя выдаўцы збольшага не падрыхтаваныя ні фінансава, ні часам нават моўна, каб весці перамовы з нашчадкамі і праваўладальнікамі. Ды і ўвогуле выдаваць дзіцячую літаратуру — не самая танная прыемнасць.

Памалу з падтрымкай пасольстваў, замежных інстытутаў ці проста зацікаўленых асобаў тыя ці іншыя пераклады з'яўляюцца (напрыклад, мяне парадаваў пераклад трылогіі Толкіна, ажыццёўлены Д. Магілёўцавым і К. Курчанковай). Але я не гаварыў бы пра нейкі істотны прарыў на перакладчыцкім полі, які мог бы напаўняць празмерным пазітывам. Бо калі я заходжу ў польскую ці чэшскую кнігарні, я бачу наколькі мы адсталі ў гэтым сэнсе ад іншых літаратур. Мы цяпер вымушаныя займацца класікай, амаль татальна ігнаруючы тое, што пішацца ў наш час.

— А перакладаў якіх казачных твораў найперш бракуе?

— "Хронік Нарніі", напрыклад. Ёсць файны пераклад першай ("Нябож чарадзея") і другой ("Леў, Вядзьмарка і Шафа") частак гэтай сямітомнай серыі казак, зроблены Алесем Квіткевічам. Але замест таго, каб і так запозненая кніга хутчэй трапіла да беларускага чытача, а перакладчык мог працягваць працу над чарговымі часткамі, яму даводзіцца займацца кнігай ад пачатку да канца. Бракуе не



толькі добрых перакладаў, але таксама прадуманых і спланаваных выдавецкіх праграм.

— Ёсць яшчэ адна праблема ў перакладчыцкай дзейнасці: наш чытач вельмі пужлівы. У Інтэрнеце я знайшла шмат спрэчак адносна вашага перакладу "Віня-Пыха", хтосьці называў яго дзёрзкім, многія пісалі, што імёны герояў, здаўна знаёмыя ўсім па савецкім мульціку і перакладзе Захадэра, перастворaныя вамі ледзь не вычварна. Вашыя Крыштусь Родзька, Парсючок, Мамантук, Малеча Ру могуць напужаць дзіцёнка і яго бацькоў і ўвогуле адштурхнуць ад беларускай мовы — такія меркаванні выказваліся ў каментарыях.

— Гаварыць пра існаванне традыцыі ці школы беларускага перакладу вельмі складана. Таму я не асцярожнічаў, у мяне не было ні комплексаў, ні літаратурных забабонаў, я проста імкнуўся, каб мая версія па духу адпавядала арыгіналу. Тыя, хто крытыкаваў мой пераклад, параўноўвалі яго з перакладам Барыса Захадэра, які, дарэчы настолькі зжыўся з гэтым персанажам, што лічыў яго напалову сваім дзіцём, а на вокладках некаторых выданняў імёны аўтара і перакладчыка сталі праз касую рыску — Мілн/Захадэр. Вось гэта, у маім разуменні, сапраўды перабольшанне. Дарэчы, я прачытаў пераклад Захадэра толькі пасля таго, як скончыў працу, каб пазбегнуць усялякага ўплыву.

Увогуле імя персанажа ўзнікла, калі Мілн са сваім сынам пабачылі ў лонданскім заапарку мядзведзіцу Віні, якая была прывезена жаўнерам з канадскага горада Вінніпэг, так што гэта жаночае імя. "Пу" ў англійскай мове — штосьці накшталт пагарджальнага вокліча, у самой кніжцы тлумачыцца, што так яны з сынам называлі аднаго лебедзя. Захадэр знайшоў файную асацыяцыю з цацачным нутром (хоць раней цацкі набівалі не пер'ем, а хутчэй саломай) — Пух. Але мне здалося, што Пых — бліжэй да арыгінала, бо мядзведзь буркліва, часта незадаволены, любіць мёд, таму, напэўна, мае праблемы з лішняй вагой, і адсюль дадатковая асацыяцыя з пыхценнем. Мая бабуля, калі стамлялася, казала, што яна зафукалася, альбо запыхалася.

— Паколькі ваш пераклад першы і пакуль адзіны, атрымліваецца, вы ўявілі Віня-Пыха ў агульны ўжытак, то бок цяпер імя вядомага персанажа павінна гучаць па-беларуску менавіта так, ва ўсіх кантэкстах, не толькі ў літаратурным?

— Віня Пых — гэта не толькі літаратурны герой, але да таго і персанаж папулярнай культуры. Тут паўстае пытанне кананічнасці. Звычайна прынята пры адзіным перакладзе карыстацца ім, а калі іх некалькі, то кананічным становіцца той, які самы паспяховы. Але ў Беларусі свая спецыфіка, і, магчыма, тыя, каму не падабаецца мая версія, будуць захоўваць вернасць рускаму Віні-Пуху. Я цалкам за тое, каб з'явіліся і іншыя пераклады гэтага твора на нашу мову, ён таго варты. Пры ўмове, што гэта не будзе сляпое калькаванне. Я гатовы змагацца з Віня-Пыхам у барацьбе за чытача.

— Альгерд Бахарэвіч у сваёй "Паслямове перакладчыка" параўноўвае літаратуру з медным быком, унутры якога зажыва гарыць яго стваральнік — аўтар разам са сваімі персанажамі. Ён піша, што перакладчык, які надта захапляецца тэкстам, над якім працуе, магчыма, рызыкуе падсесці небяспечна блізка да гэтага распаленага быка.

— Вядома ж, існуе адвечная таямніца паміж аўтарам твора і перакладчыкам. І чым больш аўтар аддалены ў часе, тым таямніца большая, бо маеш дачыненне з пэўнай рэліквіяй. Мой улюбёны аўтар — геніяльны Сэмюэль Бекет. Пасля-доўна займаюся перакладамі яго п'ес з мэтай выдаць поўны зборнік. Дык вось, Антоніо Балестэрос Гонзалес, перакладчык твораў Бекета на іспанскую мову, калісьці сказаў словы, якія адпавядаюць майму падыходу да перакладчыцкай працы: "Каб перакладаць Бекета, трэба быць часткова ўлюбёным у ягоныя тэксты". Я ўлюбёны ў кожны твор, які перакладаю.

— Вы таксама пішаце п'есы, ці плануюцца пастаноўкі па вашых творах?

— Пакуль я апублікаваў дзве свае п'есы "Рэнетранс" і "Плошча". Гэта нават не п'есы ў класічным значэнні, а творы для чытання ў дыялогах, якія я называю "бяздзеямі". Цяпер працую над некалькімі тэкстамі, з думкай пра сцэну.

— А якога беларускага аўтара, вы лічыце, варта больш перакладаць на мовы іншых краін, каб пра яго даведаліся ва ўсім свеце?

— Андрэя Мрыя. Невядомы па-за Беларуссю, але надзвычай таленавіты пісьменнік.

— Калі-небудзь возьмецеся?

— Гэта наўрад ці. Нават не ўпэўнены, што мог бы перакласці на паўродныя мне мовы: польскую і рускую, не кажучы ўжо пра мовы, засвоеныя на аснове школьнага вывучэння. Напэўна, мог бы паспрабаваць, але перакладаць на чужую мову – гэта рызыкоўны занятак.

— Натрапіла на ваш пераклад "Крумкача" Эдгара По. Крумкач увогуле паўсюль з вамі — і ў прозвішчы, і ў назве выдавецтва. Мне здаецца, гэта нібы практыкаванне: як мастак павінен умець маляваць каня, так перакладчык мусіць паспрабаваць перастварыць "Крумкача".

— У нас яшчэ мала перакладаў гэтай паэмы – Алега Мінкіна, Максіма Шчура, Міхася Южыка, Васіля Сахарчука і, здаецца, усё. У Чэхіі выходзіла асобнае выданне, прысвечанае "Крумкачу", дзе змешчана каля 30 перакладаў. Так, для мяне гэта практыкаванне. Увогуле сёння я не прызнаюся, што пачынаў з вершаў. Цяпер паэтычная творчасць засталася на далёкай перыферыі маіх зацікаўленасцей, але калі-нікалі перакладаю паэзію, якая мне даспадобы.

— З вашай падачы па-беларуску загучалі і многія песні, мяне нядаўна пацешыў пераклад на беларускую мову чэшскага шлягера з 70-х пра Ёжына "з бажын", які ў вашым перастварэнні стаў Юзікам Пузікам. Перад дзіцячым Еўрабачаннем Сяргей Балахонаў пераклаў песню Юрыя Дземідовіча пра чароўнага трусіка, у адказ на гэта журналістка Тацяна Заміроўская задалася пытаннем: а ці варта ўвогуле перакладаць тэксты нашых рускамоўных выканаўцаў на беларускую мову?

— Так, у межах розных праектаў я перакладаў песні такіх беларускіх гуртоў, як "Tanin jazz", "Hair Peace Salon", "Atlantica", "Glofra" ды інш. Шмат якія тэксты перакладаю для сябе, з надзеяй, што магчыма калісьці іх пераспяваюць па-беларуску. Я думаю, варта перакладаць, варта рабіць трыб'юты. Пераасэнсоўваць чужое на свой лад — гэта натуральная тэндэнцыя. Скажам, чэхі часам упэўненыя, што хіты, якія яны спяваюць, гэта творы чэшскіх аўтараў, хаця першапачаткова гэта англамоўныя ці франкамоўныя песні. Некаторыя культуры маюць адаптацыйныя тэндэнцыі, некаторыя, наадварот, аддаюць перавагу арыгіналам. Адны кожны фільм агучваюць па-свойму, а іншыя абмяжоўваюцца толькі субцітрамі. Ёсць розныя падыходы, аднак самы дзіўны з іх — гэта задавацца пытаннем: ці варта ўвогуле перакладаць?

Саша ДОРСКАЯ

Фота Пшэмыслава Ясіньскага



Яна не шукала вядомасці. Аднак яе ведаюць. Не толькі на радзіме, а і далёка за мяжой. Работы Зінаіды Елісеевай, майстра саломапляцення з Навалукомля, ёсць у асабістых калекцыях амерыканцаў, канадцаў, французаў, немцаў, расіян, украінцаў. Хіба ж гэта не дзіва: абразы ў саламяных аправах? Знаходзячыся ў яе пакоі, дзе размешчаны хатні іканастас, заўжды адчуваеш нешта незвычайнае. Такое хараство вакол — нібы мяжу адшукаў, дзе злучаюцца зямное і нябеснае.

Талент Зінаіды Сяргееўны прываблівае, захапляе. Яна мае пераемнікаў і вучняў. У яе шмат узнагарод. Найбольш значныя – памятны знак-медаль "2000 год Хрысціянству", а таксама Дыплом аб прысуджэнні спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у намінацыі "Народная творчасць".

# «Незямная» саломка



Сёння хапае тых, хто імкнецца далучыцца да спадчыны беларускіх умельцаў — дзядоў і прадзедаў. А вось атрымліваецца гэта далёка не ў кожнага…

Большая частка жыцця Зінаіды Елісеевай прайшла на Чашніччыне. "Калісьці я пісала сыну ў Сімферопаль, — кажа яна, — што нашы мясціны прыгажэйшыя за Крым. Шмат гадоў таму, прыехаўшы ў Навалукомль разам з мужам, зразумела: тут жыватворная зямля. І чым больш жыву – тым больш пераконваюся ў гэтым". Зінаіда Сяргееўна можа гадзінамі распавядаць пра багацце тутэйшых лясоў, паходы ў грыбы і на ягадныя паляны, пра незвычайны водар азёр. З няменшай цеплынёй успамінае і сваю родную Шаркаўшчыну. Славіўся ўмельцамі яе таленавіты род. Усе былі веруючымі людзьмі і выхавалі ў дзяўчынкі цікавасць, трапяткія адносіны да іконы. Лічылі, што менавіта вера рабіла дужымі, бараніла ад хвароб, нягод на жыццёвым шляху. Прадзед З. Елісеевай Ярох, напрыклад, пражыў 130 гадоў, пакінуўшы пра сябе толькі добрую памяць.

Талент, які ў канцы 1960-х прывёў Зінаіду Сяргееўну на мастацка-графічны факультэт Віцебскага педінстытута, — ад родзічаў. Ніколі не пераставала яна адчуваць жывую сувязь пакаленняў. Многаму навучылася ад маці, вядомай у акрузе ўмеліцы. Рана спазнала духоўную моц спадчыны. Дыпломную работу З. Елісеева прысвяціла фальклорнай тэматыцы, сфармуляваўшы тэму так: "Выхаванне эстэтычных і патрыятычных пачуццяў сродкамі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва роднага краю". Педагог-пачатковец пераконвала, што шлях да сэрцаў юных — у замацаванні сувязі з народнай творчасцю, прапагандзе беларускай спадчыны. Яе тэарэтычныя напрацоўкі, заснаваныя на невялікім тады яшчэ практычным досведзе, былі адзначаныя на рэспубліканскім узроўні.



Калі прыехала ў Навалукомль і пачала працаваць у мясцовай школе мастацтваў, ідэі таленавітай настаўніцы падхапілі многія. З лёгкай рукі Зінаіды Сяргееўны тут з'явіўся музей дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, які існуе і цяпер, хоць у заснавальніцы даўно на заслужаным адпачынку.

Яна ўмее рабіць многае, але неўпрыкмет саломка выцесніла ўсё. Захапілася саломапляценнем у маладосці, у першыя гады жыцця на Чашніччыне. А да вобразаў святых звярнулася толькі тады, калі пераканалася: саломка — матэрыял, не горшы за золата. І пачала ў сваёй творчасці развіваць традыцыі храмавага саломапляцення XVII — XIX стагоддзяў. У работах тагачасных майстроў саламянае ўбранне мае, у асноўным, дэкаратыўны характар. Зінаіда Елісеева дадала да дэкаратыўнасці сэнс, сімвал. Яе аправы — нібы тлумачэнне да святых вобразаў, якія пры гэтым дамінуюць.



Кампазіцыі яе складаюцца з гірлянд кветак і лісця. Разам з традыцыйнымі плячёнкамі майстар выкарыстоўвае свае, аўтарскія. Нейкія нават маюць назвы: ліст ландыша, ажурны ліст, ліст ружачкі, праменьчыкі, пляцёнкі для крыжоў. Сярод аўтарскіх элементаў – гронка вінаграду з пацерачак, ліст вінаграду... У елісееўскіх аправах для абразоў усё мае сімвалічны сэнс: колер фону, падборка элементаў, з якіх той складаецца. Напрыклад, аправа да "Уваскрэсення" ўяўляе сабой спалучэнне аб'ёмных квадратаў з крыжыкамі залацістай фольгі на вяршынях. Так увасоблена аўтарская думка пра "шматлікія Галгофы, якія працягваюцца і цяпер для Гаспада нашага Ісуса Хрыста". А вось выяву Прасвятой Багародзіцы Іверскай яна ўпрыгожыла пялёсткамі-праменьчыкамі і трыма буйнымі кветкамі зверху, па цэнтры. Гэта аправа нагадвае пра гістарычны факт. Абраз з'явіўся Іверскаму манастыру на марской вадзе ў вертыкальным становішчы. Ад яго адыходзілі бліскучыя промні. Іх ззянне ўвасабляюць пялёсткі. Кветкі сімвалізуюць Моц, Славу і падтрымку Прасвятой Тройцы. Святы Георгій-Пераможца ва ўяўленні З. Елісеевай абкружаны вялікімі і маленькімі вяночкамі: маўляў, менавіта гэтак выглядае слава, зямная і нябесная.

Абразы, абразы — выявы святых у саламяным атачэнні, нібы гімны нябесным сілам, што захінаюць нас ад бяды. Так "гучыць" сціплая беларуская саломка, якая трапіла ў рукі майстра — унікальнага майстра Зінаіды Елісеевай, якая не ведае адпачынку і заўсёды марыць пра большае. Хоць зроблена ўжо не менш як паўтысячы апраў, светлыя ідэі не пакідаюць таленавітую майстрыху. Падрыхтаваная для новай работы і раскладзеная на яе стале саломка — сведчанне таго, што хатні іканастас Зінаіды Сяргееўны чакае папаўненне.

Ірыны ТОРБІНА

На здымках: Зінаіда Елісеева і яе работы.

Фота аўтара

## У наступным нумары

Пісьменнік Аркадзь Нафрановіч, сталым месцам жыхарства якога з'яўляецца вёска Камаі Пастаўскага раёна, выказвае турботныя для шмат каго з нас думкі. Чаму большасць беларусаў абыякавыя да свайго роднага, нацыянальнага? — вось асноўнае з пытанняў. Свае развагі А. Нафрановіч будуе на фактах з жыцця і побыту сваёй вёскі. У прыватнасці, у Камаях — з добры дзесятак вуліц, а назвы іхнія — у гонар каго? Да таго ж, і шыльды з назвамі вуліц напісаныя па-руску. А дзе мова беларуская, якая па Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь таксама дзяржаўная? Дый зрэшты, мясцовыя жыхары, паказвае пісьменнік, тужацца, хоць і з тыпова беларускім вымаўленнем, гаварыць па-руску. А ў выніку — псуюць і адну, і другую мову. Разважлівы тон, перакананасць А. Нафрановіча ў сваіх высновах не могуць не хваляваць…

З глыбінкі

## Разам — дзесяць год

Вось ужо дзесяць год у Мядзеле працуе клуб пад назвай "Сардэчная размова". Аб'ядналіся ў яго жанчыны, якія знаходзяцца на заслужаным адпачынку, каб разам цікава і змястоўна бавіць вольны час. А прытуліла клуб Мядзельская цэнтральная раённая бібліятэка імя Максіма Танка. Супрацоўнікі бібліятэкі і тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва ўзяліся апекавацца над творчымі бабулямі, дапамагаць ім ладзіць мерапрыемствы. А іх за дзесяць год было багата. Пазнавальныя паездкі, святкаванні народных святаў, сустрэчы з цікавымі людзьмі (святарамі, псіхолагамі, урачамі) і, зразумела, таленавітымі землякамі. У свой час ахвотна прымалі запрашэнні прыйсці на "Сардэчную размову" народная артыстка Беларусі Марыя Захарэвіч, народны мастак Беларусі Васіль Шаранговіч, мясцовыя паэты Аляксандр Быкаў і Мікалай Маскевіч ды многія іншыя.

Як можна зразумець з пераліку колішніх гасцей клуба, яго ўдзельніцы цікавяцца літаратурай, культурным жыццём раёна і краіны. Яно і не дзіўна, бо сярод іх шмат былых педагогаў. Таму адзначаюць пазнавальнымі мерапрыемствамі юбілейныя даты вядомых беларускіх і рускіх пісьменнікаў, абмяркоўваюць цікавыя кнігі і публікацыі. І ў паездках яны стараюцца наведаць літаратурныя мясціны, прыкладам, здзейснілі вандроўку на радзіму Максіма Танка ў Пількаўшчыну.

Ды і самі бабулі — людзі бязмежна творчыя і таленавітыя. Яны і песню душэўную праспяваюць, і верш (хай не зусім дасканалы, але затое шчыры) складуць, і сцэнку жартоўную разыграюць. Ва ўсім гэтым можна было ўпэўніцца падчас святочнай імпрэзы з нагоды юбілею клуба. Апроч удзельніц, завіталі ў гэты дзень у бібліятэку шматлікія госці. Разам узгадалі важныя моманты з гісторыі клуба, яшчэ раз падзівіліся на талент і аптымізм мядзельскіх пенсіянерак.

...Дзесяць год таму ініцыятары стварэння клуба маглі толькі гадаць, ці доўга ўдасца праіснаваць "Сардэчнай размове", ці знойдзе ідэя станоўчыя водгукі ў мядзяльчанак. Але цяпер няма тых, хто сумняваецца, што справа гэта вельмі патрэбная. Столькі людзей напоўнілі сваё жыццё новым зместам! Яны з нецярпеннем чакаюць дня чарговага пасяджэння, старанна рыхтуюцца да яго. І спяшаюцца ў клуб, каб не толькі цікава правесці час, адкрыць у сабе новыя таленты, але і сустрэцца з людзьмі, якія ўжо сталі роднымі. Так, удзельніцы клуба разам і ў радасныя, і ў сумныя моманты жыцця — словам, сталі адной сям'ёй. І не ўяўляюць свайго жыцця без такой шчырай "Сардэчнай размовы".

Алесь ВЫСОЦКІ

ЛіМ

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі"
РВУ "Літаратура і Мастацтва"

ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР
Алесь КАРЛЮКЕВІЧ





Адрас рэдакцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-82-04, 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнеце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец: Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Наклад 3072
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 18.03.2010 у 11.00
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7
Заказ — 1246
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686